**Гаворыць Радыё ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2020. — 172 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Шупа*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У 1956 годзе супрацоўнікі Беларускай сэкцыі «Радыё Вызваленьне» (ад 1959 — «Радыё Свабода») выдалі сваім коштам зборнік выбраных матэрыялаў, якія прагучалі на радыё за першыя гады яго існаваньня. У кнігу ўвайшло 67 тэкстаў 21 аўтара, якія ахапляюць шырокі тэматычны дыяпазон: камэнтары на бягучыя падзеі, артыкулы з нагоды розных угодкаў, успаміны зь перажытага пад бальшавікамі, літаратурна-мастацкія мантажы, фэльетоны, нататкі з жыцьця эміграцыі. Тэксты перадачаў рэгулярна друкавала на сваіх старонках і найбольшая беларуская газэта на эміграцыі — мюнхэнская «Бацькаўшчына». Рэпрынтнае выданьне гэтай кнігі прысьвечана 70-годзьдзю з дня выхаду ў этэр першай перадачы Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода.


FOL

ISBN 978-0-929849-84-3

# ПЕРШЫЯ

Радыё было першым глябальным мэдыя XX стагодзьдзя і першым полем бітвы ідэяў свабоды і таталітарызму — за сьвет і за Беларусь. І па-беларуску.

Кнігу «Гаворыць Радыё Вызваленьне...» выдалі сваім коштам супрацоўнікі першага складу рэдакцыі вяшчаньня на Беларусь у канцы 1956 году. Людзі слова, яны шанавалі скарынаўскую дыхтоўнасьць друку, і адабраныя імі артыкулы, фэльетоны, камэнтары за амаль тысячу першых дзён працы сталі першым такім зборнікам сярод усіх нацыянальных рэдакцыяў Radio Liberation.

Беларусы ўвогуле былі на першых ролях у амэрыканскім вяшчаньні для народаў савецкай імпэрыі. Напачатку, у 1950 годзе, выйшлі ў этэр радыёперадачы на падсавецкія краіны Цэнтральнай Эўропы. Тады ж быў заснаваны Амэрыканскі Камітэт за Вызваленьне Народаў Расеі, пазьней вядомы як Камітэт за Вызваленьне ад Бальшавізму (ACLPR, AMCOMLIB). Адначасна — насуперак памкненьням расейскай дыяспары, якая дамінавала ў ЗША, пасьля настойлівай працы дзеля перакана볼ньня амэрыканскага боку — узьнікла падобная, але асобная ад расейцаў арганізацыя «Ліга за Вызваленьне Народаў СССР». Ліга злучыла армянаў, азэрбайджанцаў, украінцаў, грузінаў, прадстаўнікоў

народаў Паўночнага Каўказу і беларусаў. Менавіта голас Лігі паўплываў на тое, што ад 1953 году, з пачаткам вяшчаньня на Савецкі Саюз, кароткія хвалі загучалі на нацыянальных мовах паняволеных народаў. Першым старшынём Лігі, яе прадстаўніком на перамовах з амэрыканскім урадам быў старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык.

Супрацоўнікі Беларускай рэдакцыі меркавалі і надалей друкаваць тэксты перадачаў — пазнака «Кніжка 1» стаіць на брашуры 1956 году, і прадмова падкрэсьлівае, што выпускаюць менавіта «першую кнігу». Але гэты зборнік працягу ня меў — на вялікі жаль, бо магнітныя стужкі зь дзясяткамі гадоў архіўных запісаў беларускага вольнага слова не захаваліся. І справа ня толькі ў недаўгавечнасьці фэрамагнітных носьбітаў інфармацыі — стужкі былі дэфіцытам, іх выкарыстоўвалі шмат разоў, запісваючы новыя перадачы на старыя зноў і зноў. (Сыстэмнае архіваваньне этэру Беларускай службы Радыё Свабода пачалося пасьля пераезду зь Мюнхэну ў Прагу ў 1995 годзе; аднак у нейкіх спэцсховах у Менску могуць ляжаць матэрыялы «перахопаў» — за савецкім часам Свабоду старанна запісвалі на магнітафоны, расшыфроўвалі, множылі і пад грыфам «Для службовага карыстаньня» клалі на сталы начальству.)

Адзіным друкаваным зборам беларускіх «скрыптаў», як называліся падрыхтаваныя для чытаньня перад мікрафонам тэксты, кніга «Гаворыць Радыё Вызваленьне...» засталася надоўга, але не назаўсёды. У 2002 годзе выйшла першая кніга «Бібліятэкі Свабоды», якая налічвае ўжо больш выданьняў,

чым мінула гадоў з часу першага этэру 20 траўня 1954 году. Прынцып «Бібліятэкі» сфармуляваны ў падзагалоўку той самай першай кніжкі — гэта «Выбраныя матарыялы Беларускае Рэдакцыі», як і пазначаецца цяпер на вокладках усіх новых выданьняў.

Шмат зьмянілася за мінулыя дзесяцігодзьдзі на Радыё — ад імя самой арганізацыі (з 1959 году — Радыё Свабода) да назваў і межаў краінаў вяшчаньня, ад кароткіх хваляў да мультымэдыйнасьці і дакумэнтальнага кіно, ад сакрэтнага фінансаваньня зь бюджэту ЦРУ да прыватнай прафэсійнай карпарацыі, незалежнасьць якой падтрымлівае Кангрэс ЗША. Рэдакцыя ўжо даўно працуе ў рэжыме рэальнага часу — а шлях першых скрыптаў да слухачоў у Беларусі вымяраўся сотнямі кілямэтраў і многімі гадзінамі. У Мюнхэне тэксты начытвалі на магнітафон, чысьцілі памылкі, дадавалі музыку, потым бабіну запячатвалі ў спэцпакет, кур'ер на матацыкле сьпяшаўся на вакзал і перадаваў пакет у цягнік, які ішоў на поўнач, у Мангайм, праз чатыры гадзіны там яго забіраў іншы матацыкліст і ляцеў да мястэчка Лямпэртгайм, дзе месьціліся перадатчыкі, і адтуль стужкі запускалі ў этэр. А ім насустрач уключаліся глушылкі...

Ня менш доўга можна пералічваць усё, што застаецца на Радыё бязь зьменаў — а можна проста прачытаць апошні радок, якім сканчаецца самы першы гістарычны зборнік Беларускай рэдакцыі:

«АБЯЦАЕ СЬВЕТУ СВАБОДУ».

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

ГАВОРЫЦЬ

# РАДЫЁ ВЫЗВАЛЕНЬНЕ

Выбраныя матарыялы Беларускае Рэдакцыі

КНІЖКА

I

СТАРАНЬНЕМ БЕЛАРУСКАЕ РЭДАКЦЫІ
РАДЫЯ ВЫЗВАЛЕНЬНЕ

МЮНХЭН 1956

# ПРАДМОВА

Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне» пачала працу 20 травеня 1954 году пры згодзе й падтрымцы Рады БНР. Першыя 15-хвілінныя штодзённыя праграмы перасылаліся на Беларусь 24 разы на суткі. Ад 19 сакавіка 1956 году праграмы былі прадоўжаныя да 20 хвілін і перасылаюцца цяпер 18 разоў на суткі.

Кажная беларуская радыёвая перадача пачынаецца словамі:

«Тут Радыё «Вызваленьне». Вы слухаеце голас сваіх суродзічаў-Беларусаў з вольнага сьвету . . . Наш голас ёсьць вашым голасам, бо мы зьяўляемся часткай вас, часткай усіх Беларусаў».

Гэткім чынам, будучы часткай цэлага беларускага народу, Беларуская Рэдакцыя Радыя «Вызваленьне» й гаворыць да свайго народу аб усім, што яго цікавіць і хвалюе: аб ягонай слаўнай мінуўшчыне, аб ягоным бяспраўным: палітычным, сацыяльным і нацыянальным жыцьці ў межах СССР — гэтага хвальшывага створу, накіненага паняволеным народам маскоўска-бальшавіцкімі валадарамі.

Зьмешчаныя ў гэтай кнізе скрыпты (пэрыяд ад 20.5.54 да 10.11.56) ня ёсьць прапарцыянальным адлюстраваньнем перасланага на Бацькаўшчыну матарыялу. Маючы на ўвазе галоўным чынам беларускага чытача і будучы абмежаванымі памерам першае кнігі, мы зьмяшчаем тут адно частку скрыптаў, што найбольш беспасярэдня кранаюць беларускія праблемы. У запраўднасьці-ж тэматычны дыяпазон Беларускае рэдакцыі значна шырэйшы, і ён абыймае ў меру патрэбы й магчымасьцяў усе важнейшыя міжнародныя падзеі.

Гаворачы аб тэматыцы беларускіх праграмаў, варта адцеміць і нашыя цыклявыя тэмы. Гэтак, прыкладам, ня лічачы штодзённых «Навінаў Дня», у кажную нядзельную праграму ўводзіцца гутарка на рэлігійныя тэмы (гл. скрыпты на б. 137); таксама стала перадаюцца інфармацыі з цыклю «Беларусы ў вольным сьвеце» (прыкладам гэтага ёсьць гутаркі на бачынках 14, 99); рэгулярна маюць месца ў нашых перадачах літаратурна-музычныя праграмы розных формаў

на матарыялах беларускае літаратуры й музыкі ў вольным сьвеце.

Праца Беларускае Сэкцыі Радыя «Вызваленьне» — гэта супольны грамадзкі высілак, як сталых беларускіх працаўнікоў, так і супрацоўнікаў збоку, што прысылаюць нам свае камэнтары, гутаркі, зацемкі, успаміны ды іншыя матарыялы.

З увагі на важнасьць матарыялаў збоку, Беларуская Сэкцыя мае надзею, што Беларусы ў вольным сьвеце спрычыняцца да далейшага пашырэньня кола супрацоўнікаў зь Беларускай Рэдакцыяй у супольным змаганьні з бальшавізмам за поўнае вызваленьне і нацыянальную незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны — Беларусі.

Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне», выпускаючы ў сьвет першую кнігу сваіх скрыптаў, выказвае сваю ўдзячнасьць Амэрыканскаму Камітэту Вызваленьня за тыя тэхнічныя магчымасьці, якія дазваляюць нам перадаваць словы праўды нашаму паняволенаму народу.

З асаблівым прызнаньнем мы хочам адцеміць тую вялікую маральную падтрымку й зацікаўленьне нашай працай, якое мы адчуваем з боку Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

**Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне»**

## ДА СУРОДЗІЧАЎ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Дарагія суродзічы! Браты-Беларусы — дзе-б Вы толькі ні знаходзіліся.

З глыбокім узрушаньнем зьвяртаемся да Вас з вольнага сьвету праз Радыё «Вызваленьне».

Сярод нас ёсьць тыя, што пакаштавалі «справядлівасьці» тройкі НКВД у часох Яжова і Цанавы, бо за адданасьць свайму краю і за любоў да свайго народу былі прызнаныя «нацдэмамі, ворагамі народу»; тыя, што ўцяклі з жудасных савецкіх турмаў, канцлягераў і масавых расстрэлаў; тыя, што ў часе апошяй вайны зь лясоў Беларусі грудзьмі сталі супраць бальшавіцкай навалы, заліваючай наш край, але змушаныя былі ўступіць пад націскам брутальнай сілы; тыя, якім удалося прарвацца на Захад з сотняў тысяч Беларусаў захопленых савецкім войскам у Усходняй Прусіі ў 1945 годзе і пагнаных на Усход як скаціну; тыя, што пакінулі шэрагі чырвонай арміі ў часе і пасьля апошняй вайны і пайшлі на Захад, каб знайсьці там свабоду; усе тыя, якіх бацькі, браты й сёстры або загінулі з рукі савецкага ката, або церпяць яшчэ зьдзек і катаваньне ў савецкіх турмах, сьмягнуць з голаду, холаду й непасільнай працы ў нязьлічоных савецкіх лягерах; усе тыя, што дагэтуль абціраюць сьлёзы па сваіх найбліжэйшых — бацькох, братох і сёстрах, жонках і дзяцёх.

Усе мы — дзе-б мы толькі ні былі: ці ў вольных краінах Эўропы, ці ў свабодалюбнай Амэрыцы, ці ў далёкай аўстралійскай дэмакратыі, ці ў гарачай Аргентыне й Бразыліі — усе мы злучаны гарачай любоўю да сваіх найбліжэйшых, да свайго краю й народу, творым адну беларускую сям'ю ў вольным дэмакратычным сьвеце. Усе мы церпім душой і сэрцам за зьдзек бальшавікоў над Вамі, Дарагія Суродзічы, і ўсім нашым краем, бо ўсе мы добра знаем, што значыць бальшавіцкае панаваньне.

Словы, якія Вы пачуеце ў нашых перадачах, будуць словамі ад нас усіх і будуць ськіраваны да Вас усіх: і да сялян, якія адбываюць галодную савецкую паншчыну, і да работнікаў, імём якіх гандлююць крамлёўскія дыктатары,

а фактычна нялюдзкай эксплятатацыяй высмоктваюць зь іх апошнія сілы, і да інтэлігенцыі савецкага апарату, якой веда і здольнасьці выкарыстоўваюцца прымусова на разбудову тыраніі над народам, і да жаўнераў чырвонай арміі, якіх зьненавіджаны Крэмль штыхамі змусіў абараняць тыранію перад хвалямі свабоды і імкнецца пры дапамозе тых-жа штыхоў накінуць бальшавіцкую дыктатуру на рэшту вольнага сьвету. Мы будзем прамаўляць таксама і да тых камуністых, камсамольцаў і працаўнікоў МВД, якія ў запраўднасьці стаяць з народам і вядуць скрытае змаганьне з бальшавізмам, а толькі з мусу выконваюць загады Крамля і належаць да ўпрывілеяваных.

Мы пэўны ў тым, што нашы перадачы знойдуць глыбокі водгук і зразуменьне сярод усіх пералічаных тут групаў. Бо занадта добра мы знаем іхнае жыцьцё й цярпеньні, бо моцна лучыць нас зь імі ў вадно любоў да свайго краю й народу ды нянавісьць да бальшавіцкай дыктатуры, бо роўна мы хварэем душой за нашых найбліжэйшых, якія сталіся ахвярамі савецкіх катаў, бо перад намі роўнае стаіць змаганьне за свабоду Беларусі, за вызваленьне паняволеных Крамлём народаў.

Праз усе гады, ад часу, калі змушаны былі пакінуць сваю бацькаўшчыну, мы вядзем бязупынную барацьбу з бальшавізмам, і стараемся прыцягнуць увагу ўсяго вольнага сьвету да таго жудаснага палажэньня, у якім апынуўся наш край і Вы, Дарагія Суродзічы. Нашае змаганьне расьце, павялічаецца, набірае большага размаху, з кажным месяцам мы робімся лічнейшымі й мацнейшымі.

Радыёстанцыя «Вызваленьне» ёсьць голасам стойкіх і адважных. Яна зьяўляецца тэй прыладай, пры помачы якой мы будзем інфармаваць Вас аб запраўдным, свабодным жыцьці ў вольным сьвеце, аб тэй бязьмежнай сымпатыі, якую выказвае гэты вольны сьвет да Вас, прыгнечаных, але захаваўшых поўнасьцю сваё людзкое «Я».

«Вызваленьне»! — гэта наш кліч і мэта, гэта наш назоў, пад якім мы прамаўляем да Вас сяньня і прамаўляць будзем кажны дзень. Мы ўважаем за свой грамадзкі й людзкі абавязак інфармаваць Вас таксама аб'ектыўна й праўдзіва аб тым, што адбываецца навокал Вас, у Савецкім Саюзе, аб чым Вы навет ня маеце магчымасьці даведацца з хвальшывых інфармацыяў савецкага радыя й прэсы.

Слухайце нашага голасу, лавеце кажную магчымасьць, каб пачуць яго. Інфармуйце пра нашыя радыёперадачы ўсіх, да каго маеце давер, пры кажнай нагодзе. Не забывайцеся аб тым, што да Вас прамаўляюць Вашыя сыны й дочкі, Вашыя браты й сёстры, якія зьяўляюцца неадрыўнай часткай Вас саміх.

Памятайце, што мы ў вольным сьвеце робім усё магчымае для вызваленьня нашай бацькаўшчыны, і што пры супольным высілку з Вамі, з Божай помаччу мы пабачым яшчэ шчасьлівы дзень вольнасьці нашае любае Беларусі . . .

20. 5. 1954

## КІРУНАК СЭРЦА

У тапаграфіі кут, мераны ўправа ад магнэтнай поўначы, завецца азымутам. Азымут паказвае нам напрамак простага маршу да мэты. Зьмераны на карце кут досыць добра запамятаць, — пасьля, гледзячы на стрэлку компасу, можна ў дзень і ў ночыісьці проста да мэты.

Мы — беларускія эмігранты, маем свой зьмераны і добра запамятаны азымут ад месца нашага прабываньня да нашай мэты — Беларусі. І гэты азымут мы завём азымутам сэрца. Залежна ад нашага месца, лічбы азымуту мяняюцца: і так, азымут з Аўстраліі іншы чым з Англіі, а яшчэ іншы з Канады, але мэта застаецца адна і тая самая — дарагі, родны, паняволены наш край.

Ня лёгкі хлеб эмігранта і не зайздросная доля на чужыне, хоць матар'яльна маемся пераважна ня блага. Вольны, дэмакратычны сьвет прыняў нас наагул добра і даў усе правы вольных і поўнавартасных людзей. Але не асабістага дабрабыту мы тут шукаем, набіваючы ногі па ўсіх дарогах і бездарожжах чужога сьвету. Мы, як нашыя птушкі ў выраі: гнёздаў ня ўём — павароту чакаем. Ярдан ці Ніль, Тыбар ці Таміза, Амазонка ці Гадсон шумяць нам разьліўным Нёманам, сьветлай Дзьвіной. Пад ружовым урукам, шэрай аліўкай ці стромкім кіпарысам нам сьняцца нашыя родныя, вечна зялёныя хвоі, белыя плакучыя бярозы.

Аднак мы ўпэўнены, што Вы там, на паняволенай бацькаўшчыне ня скажаце нам з дакорам: «Дык калі так сумуе-

це, чаму не вяртаецеся?» Бо Вы ведаеце, што мы тут маем выканаць адказную місію: супольна з вольным і дэмакратычным сьветам змагацца за зьнішчэньне найгоршага зла й няшчасьця, якога людзтва ня знала ніколі ад свайго пачатку — дзікай, жудаснай камуністычнай тыраніі ды вызваленьня нашага і іншых народаў спад гэтай злыбяды. Мы маем выканаць тое, чаго ня можаце выканаць Вы, там, дзе ня толькі дзейнасьць і слова, але навет думка здушаны ў абцугох страху.

Мы гэта заданьне выконваем і маем дасягненьні. Адным зь іх ёсьць наш голас у Радыё «Вызваленьне», празь якое мы сяньня прамаўляем да Вас.

Дарагія Суродзічы! Ад вякоў і праз шэрагі стагодзьдзяў наш народ усё пачынаў ад Бога. Калі вясной наш араты ці сявец выходзіў на сваё поле, першае, што ён рабіў — хрысьціўся і казаў: «Памажы-ж Божа!», а пасьля кідаў першую жменю зярнят у ральлю. Дык і мы сяньня, кідаючы зерне вольнага слова з вольнага сьвету да Вас, Дарагія Суродзічы, таксама пачнем ад таго, што нас жывіць і творыць, з чаго наш пачатак і наш канец:

Дык дай нам, Божа! Памажы нам, Божа!

Дык дай нам, Божа, каб наша слова дайшло да Вас цераз усе запоры і барыкады, каб яно, дайшоўшы, знайшло ў вашых сэрцах пажаданы водгук!

І мы верым, што так станецца. Хоць ноч і зіма лютуюць над нашым краем, мы верым у вясну і сьветлы дзень.

Дык накіроўваем хвалі Вызваленьня на азымут сэрца . .

20. 5. 54

**пс**

## ПЯСЬНЯР ЗМАГАНЬНЯ І ХАРАСТВА

21 год таму, у канцы травеня 1933 году памёр ад сухотаў у далёкім бальшавіцкім выгнаньні беларускі паэта Ўладзімер Жылка, жыцьцё й творчасьць якога былі аддадзены свайму народу.

Жылкава паэзія была выражэньнем настрояў, імкненьняў і думак таго пакаленьня, якое ўлучалася ў жыцьцё ў часы змаганьня, у пару беларускай нацыянальнай рэвалю-

цыі 1917 году, што прыняла да абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25-га сакавіка 1918 году. Тут была крыніца ідэйнай моцы Жылкавых твораў, бальшыня якіх увайшла ў зборнікі: «Уяўленьне», «На ростані», «З палёў Заходняй Беларусі» і паэму «Тэстамэнт», напісаную на выгнаньні.

Тэма Беларусі прыкавала паэтаву ўвагу ўжо ад самага пачатку; ён аддаў ёй свае найлепшыя пачуцьці й спадзяваньні, усю сваю душу зь ейнай радасьцяй і болем. Гэта была, вітаная Купалам, «Маладая Беларусь», ад імя якой лірычнае «Я» Жылкавай паэзіі выяўляла: «Я — юнак Давід» ды захаплялася рухам, поступам у будучыню, чуючы, як на разложыстых прасторах ягонай бацькаўшчыны «пяруны завірух у захапленьні грымяць аб адным — паўнагучна — Адраджэньне». У закаханасьці да роднага краю быў «пачатак веры, высачыня натхненьня», там было пазнана, «як прыгож бязьмерна сьвет дзівосны».

Жылка ішоў у літаратуру зь юнацкай паэтызацыяй змаганьня за нацыянальнае заўтра Беларусі. У 1922 годзе ён піша паэму «Ўяўленьне», запачаткаваўшы ёю новую плынь у беларускай паэзіі, пад назовам «Узвышэнства». Праз «Уяўленьне» праходзіць глыбокая народная ідэя: беларускі рух укарануецца ажыцьцяўленьнем свае канцовай мэты — поўным нацыянальным вызваленьнем пад старавечным сьцягам Беларускай Пагоні. Ідэя твору вынікае з самога жыцьця, а ягоную мэтаімклівасьць становіць рэвалюцыйна-нацыянальны рух ад самага пачатку аж да завяршальнага мамэнту, калі ў часе Сакавіковага Акту 1918-га году «на мапу Эўропы ўзышоў Беларус», калі няўмерлы народны дух, прарваўшы часы «сьцюжай скутыя — сягнуў тварыць», «мужыцкіх душ зьявіў красу і бель»:

«Народ, свабода і радзіма, —
На ўсё прышла адна чарга».

Вобраз воя, змагара за Беларусь, ператвараецца ў паэты ў носьбіта вышэйшага чалавечага хараства, якое ў Жылкавым сьветаглядзе займае вылучнае месца.

Хараство ў ягоным разуменьні не вяло ўбок ад жыцьця, а вабіла й кідала чалавека ў глыбінныя праймы вірлівага, творчага жыцьця. Таму ён і зьвяртаўся да Мадонны:

«Ў баі жыцьцёвым
Адвагі прыдай,

Надзеі словам
Мяне прывітай».

Жылкава харство ішло поруч зь ягоным змаганьнем, падымала чалавека духова, часта было крыніцай духовай моцы, патрэбнай для таго вышэйшага, што мае імя Бацькаўшчына. Індывідуальнае духовае чалавечае хараство становіць адну часьціну, праяву хараства нацыянальнага, праз якое выўяляецца хараство агульналюдзкае.

Жылка йшоў праз жыцьцё з мужнай закаханасьцяй у волі. Прымірэньне зь «лёсам раба зь бязвольля ўласнага й бясьсільля» для яго было найстрашнейшым «скрозьдонным падзеньнем чалавека».

Вось з гэтакімі настроямі й перакананьнямі Жылка воляю лёсу ў канцы 1926-га году апынуўся ў Савецкай Беларусі. З зацятай варожасьцяй паставілася да ягонай творчасьці савецкая крытыка, ўедліва ўпікаючы паэту за ягоны ўзвышаны нацыянальны ідэялізм ды за тое, што ён не сьпяваў гімнаў бальшавізму.

Пры першым дотыку паэты да афіцыйнай савецкай рачаіснасьці адразу паўстаў разлад зь ёю. Паэта-ідэялісты ня мог прыняць афіцыйнай бальшавіцкай лініі, якая ператварала яго ў лякайскага прыслужніка ды дамагалася «раскахаць родныя краскі і неба». Паэту апаноўвае «аб высокім туга», ён піша верш «Цяжэй ланцугоў», зь якога вырываецца крык болю зьняволенага тыраніяй чалавечага «Я».

«Цяжэй ланцугоў лятуценьні,
Іх зьнішчыць мне сіл ня прымець.
Як вязень у доўгім вязеньні,
Стаміўся я песьняй зьвінець».

У 1929-м годзе Жылка ўступае ў апазыцыйнае да бальшавікоў літаратурнае згуртаваньне «Ўзвышша», а праз год, калі распаношыліся арышты беларускага нацыянальнага актыву, аднаго зь першых арыштоўваюць і яго — зусім хворага ды ў 1931 годзе высылаюць у Уржум, былой Вяцкай губэрні.

Перад самай сьмерцяй на выгнаньні Жылка, прыкаваны да ложка хваробай, піша сваю ведамую паэму «Тэстамэнт», якая належыць да найлепшага, што было ім створана.

«Тэстамэнт» — гэта ня толькі разьвітаньне з жыцьцём, зь ягоным «ранкам срэбраросым» ды з «днём клапот, пакут»

— гэта найперш жывая, усхваляваная, гранічна абвостраная ў канцовую часіну собскага жыцьця закаханасьць у «дабрадзейку зямлю», у ейныя «дзівосных сіл жывыя тоні», у чалавека — «высокі плод зямлі і сонца», што гэтак гарманійна спалучаецца і канцэнтруецца ў вобразе бацькаўшчыны. Гэтай самаадданай, высокай закаханасьці да Беларусі ня вынішчылі ў паэты ні эміграцыя, ні арышт, ні зьняволеньне ў падвалах НКВД, ні выгнаньне ў чужую паўночную зямлю. Гэтая закаханасьць прарывала цемру зьняволенага выгнаньня ды яднала паэту аж да апошняй часіны ягонага жыцьця з сваім народам, якому ён праз скутыя духовай сьцюжаю аддалі слаў сваё апошняе вітаньне:

«Няхай жыве Крывіцкі люд!
Няхай квітнее край Крывіцкі!»

Ня поўныя 33 гады пражыў Уладзімер Жылка. Ягонае жыцьцё ад юнацкіх гадоў было ўлучанае ў рэвалюцыйна-нацыянальнае змаганьне. Ліхія сілы бальшавізму заўчасна зьнішчылі гэтага чалавека, сіламоцай абарвалі ягоны талент, як кінулі і тысячы іншых талентаў Беларусі пад крывавы бот.

15.6.54 **Я. Менскі**

## АХВЯРА СТАЛІНСКАЙ ТЫРАНІІ

16-га чэрвеня 1936 году старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР — Алесь Чарвякоў зачыніўся ў сваім кабінэце ў Доме Ўраду і стрэлам у сэрца скончыў сваё жыцьцё. Камуністычная ўлада дала маленькую абвестку, у якой «выясьніла», што самагубства Чарвякова здарылася дзеля сямейных прычынаў. Труна зь целам нябожчыка была выстаўлена ў клюбе Саюзу Савецкіх Служачых. А пахавальная працэсія ад гэтага клюбу да вайсковых могілкаў, у сонечны чэрвенскі дзень, прыцягнула нечакана для камуністых, вялікую колькасьць народу. Няведамыя зычлівыя асобы прыносілі пазьней сьвежыя кветкі на яго магілку.

Чарвякоў сваёй самагубнай сьмерцяй, як і Мікола Галадзед — Старшыня Саўнаркому БССР, які выкінуўся з вак-

на НКВД, як і прафэсар Усевалад Ігнатоўскі — прэзыдэнт Беларускай Акадэмміі Навук, які застрэліўся ў 1930 годзе, — хацеў унікнуць крывавай камэдыі сталінскіх судоў.

Алесь Чарвякоў радзіўся ў сям'і селяніна ў вёсцы Дукорка Чэрвеньскага павету. Па сканчэньні вышэйшай пачатковай школы, ён яшчэ перад першай сусьветнай вайной скончыў Віленскі Настаўніцкі Інстытут. Лютаўская рэвалюцыя застала Алеся Чарвякова ў Петраградзе на вайсковай службе, дзе ён скончыў вайсковую школу.

Калі была створаная гэтак званая Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Алесь Чарвякоў займаў становішча народнага камісара асьветы. З часу ўтварэньня БССР Чарвякоў да самай сьмерці быў нязьменным старшынём Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

У часе НЭП-у Савецкі Саюз апынуўся на раздарожжы. Гэтак званыя «правыя», большасьць якіх былі паплечнікамі Леніна на працягу шмат гадоў, хацелі працягваць адносна дэмакратычны курс НЭП-у, падтрымоўваць эканамічнае і палітычнае супрацоўніцтва з заходнімі дзяржавамі і ўнікаць вайны. Сталін і ягоная кліка імкнуліся ўзмоцніць тэрор унутры краіны, правесьці прымусовую калектывізацыю ды ўзяць курс на ваенныя імпэрыялістычныя авантуры, каб падпарадкаваць камуністычнай дыктатуры іншыя краіны й народы.

Нацыянальныя сілы на Беларусі, а ў тым ліку й Алесь Чарвякоў, зьвязвалі свае надзеі на лепшае з дэмакратычным кірункам. Яны дабіліся значных посьпехаў пад лёзунгам эканамічнага і культурнага адраджэньня Беларусі. Заняты змаганьнямі з трацкістымі, а пазьней з «правымі», Сталін на працягу некалькіх гадоў ня мог перашкодзіць гэтаму адраджэньню. Толькі пасьля замацаваньня свае дыктатуры, Сталін кінуўся зьнішчыць на Беларусі лепшую нацыянальную інтэлігенцыю, перадавых работнікаў і сялянаў, усіх тых, хто мог-бы паставіцца апазыцыйна да яго нялюдзкай дыктатуры й ваенных авантураў. Сьмерць Алеся Чарвякова была як-бы падрахункам на лісьце шматлікіх сталінскіх ахвяраў на Беларусі.

Гэта было змаганьне з нацыянальна-вызвольным беларускім рухам, які бальшавікі празвалі «нацдэмаўшчынай», а пасьля «буржуазным нацыяналізмам». Барацьба з гэтым рухам ня спыняецца і да сяньняшніх дзён.

Алесь Чарвякоў карыстаўся аўтарытэтам і пашанай сярод шырокіх колаў грамадзтва на Беларусі. На высокім становішчы старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР ён быў ветлівым, даступным у вадносінах да кажнага, хто толькі зьвяртаўся да яго. Ён шмат каму дапамагаў у такіх выпадках, калі ягоная пасада старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту фармальна не дазваляла дапамагаць, ці рабіла гэтую дапамогу для яго нязручнай.

Мы гаворым пра высокае становішча старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР толькі ўмоўна. Фармальна гэтае становішча параўноўваецца да становішча прэзыдэнта ў дэмакратычных дзяржавах. Але савецкі дыктатар баіцца, каб старшыня ЦВК СССР, напрыклад, ня стаўся больш папулярным і, такім чынам, ня стаўся-б яму канкурэнтам. Таму на пасады старшыняў ЦВК СССР вылучаліся людзі без палітычных амбіцыяў, як нябожчык Калінін, ці сучасны старшыня ЦВК СССР Варашылаў; гэткія старшыні не зьяўляюцца небясьпечнымі для крамлёўскага дыктатара. І прынцып той, што кажны старшыня ЦВК нацыянальных рэспублікаў па чарзе выконвае абавязкі старшыні ЦВК СССР (Чарвякоў быў і старшынёй ЦВК СССР), ня столькі мае прапагаваць прынцып «дэмакратычнасьці», колькі зьяўляецца страхоўкай для дыктатара, што старшыня ЦВК СССР ня будзе большай вагі.

БССР мела старшынёй ЦВК чалавека інтэлігентнага, культурнага і адданага беларускаму народу. Але запраўдным гаспадаром Беларусі быў заўсёды прысланы з Масквы генеральны сакратар ЦК КПБ. Адзіны Беларус, якому ўдалося стацца сакратаром ЦК КПБ — Шаранговіч быў расстраляны пасьля фарсавага па сваёй законнасьці судовага працэсу ў Маскве — такога працэсу, якога ўнікнуў Алесь Чарвякоў праз сваю трагічную сьмерць.

Беларускі народ захавае добрую памяць аб Алесю Чарвякову. А ягоная кроў, як і кроў сотняў і тысячаў іншых Беларусаў, падзе нязмывальнай плямай на тых, хто трымаў і трымае беларускі народ у ярме цяжкой дыктатуры.

16. 6. 54

**Я. Ліманоўскі**

## СУД НАД БАЛЬШАВІЦКІМІ ЗЛАЧЫНСТВАМІ

22 чэрвеня г. г. у Мюнхэн прыбыла з Вашынгтону амэрыканская парлямэнтарная камісія ў складзе 9-цёх сяброў Амэрыканскага Кангрэсу дзеля правядзеньня сьледзтва адносна бальшавіцкай агрэсіі й зьверстваў, чыненых над падбітымі народамі.

У справе бальшавіцкай палітыкі Беларусаў даваў паказаньні прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на выгнаньні інжынер Мікола Абрамчык і іншыя сьветкі.

Паказаньні інжынера Абрамчыка зводзіліся да двух галоўных пунктаў: 1) аб збройнай інтэрвэнцыі бальшавікоў у нутраныя справы Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1917—20 гадох, 2) аб фізычным вынішчэньні бальшавікамі беларускага народу пасьля апанаваньня імі беларускіх земляў.

У справе збройнага нападу бальшавікоў на Беларускую Народную Рэспубліку, прэзыдэнт Абрамчык давёў дакумэнтальнымі дадзенымі, што Беларуская Народная Рэспубліка паўстала ў 1917 годзе з волі беларускага народу й што была зьліквідавана бальшавікамі пры помачы збройнай сілы.

У справе фізычнага вынішчэньня прэзыдэнт Абрамчык прадставіў дадзеныя, згодна зь якімі бальшавікі за 35 год свайго панаваньня на Беларусі зьменшылі беларускі народ на 15 мільёнаў душ.

У 1917 годзе на этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі жыло 18 мільёнаў людзей. Паводля аблічэньняў інжынера Абрамчыка, за апошніх 35 гадоў натуральны прырост беларускага насельніцтва павінен быў-бы даць што найменш 12 мільёнаў. Такім чынам на сяньня ў этнаграфічных межах Беларусі павінна было-б пражываць што найменш 30 мільёнаў душ. Тым часам, згодна з бальшавіцкай статыстыкай, у гэтых межах пражывае цяпер каля 15—16 мільёнаў (10 мільёнаў у межах БССР і 5—6 мільёнаў на беларускай тэрыторыі, не далучанай да БССР). Такім чынам, бальшавікі штучна зьменшылі насельніцтва Беларусі амаль на 15 мільёнаў. Каля трох мільёнаў насельніцтва Беларусі зьнішчана бальшавікамі фізычна — шляхам расстрэлаў ці замардаваньняў у турмах і канцлягерах. Недахоп рэшты 12-і мільёнаў прыпадае на штучнае, вымушанае мізэрным жыцьцём скарочаньне народжаньняў і павялічэньне сьмяротнасьці.

Прэзыдэнт Абрамчык даводзіў, што такая палітыка бальшавікоў на Беларусі, накіраваная на паступовае фізычнае вынішчэньне беларускага народу, зьяўляецца сьведама заплянаванай Крэмлём, каб аслабіць патэнцыял беларускага народу ў ягоным змаганьні за сваё вызваленьне. Як доказ гэтага, прэзыдэнт Рады БНР Абрамчык прадставіў камісіі сакрэтны дакумант НКВД, у якім самі бальшавікі прызнаюцца, што на загад пракурора Кісялёва толькі ў 1936—38 гадох было выстралена патаемна 13.325 Беларусаў невінаватых ні ў якіх праступках перад савецкай уладай.

Прэзыдэнт Абрамчык даваў паказаньні амэрыканскай кангрэсавай камісіі на працягу каля паўтары гадзіны часу. Ён расказваў дакладней аб масавых арыштах і высылках беларускага насельніцтва і аб палітычным і паліцыйным тэроры бальшавікоў ува ўсіх дзялянках жыцьця Беларусаў.

Старшыня камісіі Амэрыканскага Кангрэсу сп. Керстэн выказаў сваё спачуцьцё беларускаму народу й пажаданьні, каб беларускі народ вызваліўся як найхутчэй з жудаснай бальшавіцкай тыраніі.

Усе сабраныя камісіяй матар'ялы й дакуманты будуць прадстаўлены Амэрыканскаму Кангрэсу ў Вашынгтоне, а пазьней будуць апублікаваны, каб увесь цывілізаваны сьвет дазнаўся аб тых жахах, якія бальшавікі праводзяць над падбітымі імі народамі, закрыўшыся зялезнай заслонай ад усяго вольнага сьвету.

7.7.54 **Ст. Станкевіч**

## КУДЫ ПЕРАСЯЛЯЮЦЬ БЕЛАРУСАЎ

Пры Міністэрстве Сельскай Гаспадаркі БССР існуе спэцыяльнае кіраўніцтва перасяленьня. Аддзелы гэтага кіраўніцтва ёсьць і ў вобласьцях. Да гэтага часу ў савецкіх газэтах калі-ні-калі зьмяшчаліся абвесткі гэтых аддзелаў з заклікам аб перасяленьні калгасьнікаў і іншага сельскага й гарадзкога насельніцтва ў Карэла-Фінскую Рэспубліку, Краснаярскі Край і іншыя далёка адлеглыя мясцовасьці Савецкага Саюзу. Аднак гэтыя заклікі, відаць, не далі патрэбных вынікаў, Беларусы ўхіляліся ад перасяленьня, не хацелі яны шукаць шчасьця ў калгасах Карэла-Фінскай Рэспублікі

й у Сібіры. Ім на Беларусі аж занадта ёсьць што рабіць. Цалінных, неабробленых зямель ёсьць там аж зашмат.

Вось-жа 7 ліпеня начальнік кіраўніцтва перасяленьня міністэрства зямельнай гаспадаркі БССР Сямёнаў зьмясьціў у газэце «Советская Белоруссия» вялікі артыкул. Аўтар артыкулу адвёў месца надзвычайнаму патрыятызму сотняў тысячаў дабраахвотнікаў, якія на заклік камуністычнай партыі вядуць «наступ на цаліну», і перайшоў да прапаганды перасяленьня Беларусаў у Сібір.

Дзеля заахвочаньня, Сямёнаў падаў дзьве вытрымкі із звароту калгасьнікаў-сібіракоў зь Кемераўскай вобласьці да работнікаў, служачых і калгасьнікаў Беларусі. У сваім звароце сібіракі калгасу імя Хрушчова паведамляюць Беларусаў, што за іхным калгасам замацавана 19 тысяч гэктараў зямлі. Галоўныя працы ў калгасе выконваюцца машына-трактарнай станцыяй, — пішуць калгасьнікі, — але ў працоўнай сіле калгас адчувае вялікую патрэбу. Сібірскія калгасьнікі абяцаюць Беларусам пабудаваць хаты з надворнымі будынкамі, адвесьці прысялібныя дзялянкі й навет дапамагчы набыць карову або цялё. У артыкуле зьмешчана таксама прывітаньне Беларусаў зь Нясьвіскага раёну Менскай вобласьці, якія пераселеныя ў гэтым годзе ў калгас імя Леніна Кемераўскай вобласьці. Беларускія перасяленцы вельмі стрымана пахваліўшы сібірскія землі, скардзяцца таксама на недахоп рабочых рук у калгасе. Свой прывітальны ліст яны канчаюць так: «Запрашаем землякоў прыехаць да нас, каб разам працаваць на сібірскіх прасторах.» Відаць дабраахвотнае перасяленьне не дае вынікаў, калі пушчаюцца на трыкі зь лістамі.

Сямёнаў у артыкуле адзначае, што перасяленцы будуць задарма перавезеныя да месца новага жыцьця. Ім будуць выданыя пазыкі на будаўніцтва й набыцьцё жывёлы. Навет калгасы забавязаныя выдаць на сям'ю паўтара цэнтнара збожжа або мукі, якая павінна быць зьвернута ў натуры калгасу.

Аднак Сямёнаў, а таксама сібіракі-калгасьнікі ня інфармуюць нашых суродзічаў, ці забясьпечвае праца ў калгасах Кемераўскай вобласьці мінімальныя патрэбы чалавека. Ці можна калгасьніку за свае працадні купіць абутак, вопратку й іншыя неабходныя рэчы? Нарэшце, чаму ў такіх багатых сібірскіх калгасах не хапае рабочай сілы й кіраўніцтву

перасяленьня іх трэба шукаць у далёкай Беларусі?

Дабраахвотнае перасяленьне Беларусаў заменена гэтак званым «плянавым перасяленьнем», гэта значыць, прымусовым парадкам. Справа вось у чым: у Кемераўскай вобласьці знаходзіцца ведамы ў Савецкім Саюзе Кузьнецкі вугальны басэйн. Тут шмат шахтаў, руднікоў і заводаў. Ад невясёлага калгаснага жыцьця мясцовыя сібірскія калгасьнікі ўцякаюць на працу ў гарады, на заводы, руднікі. Работнікаў трэба забясьпечыць прадуктамі сельскай гаспадаркі, а «магутная савецкая тэхніка» з гэтай задачай ніяк ня можа справіцца. Вось-жа дзеля гэтага й шукаюць на Беларусі людзей на перасяленьне.

Беларускім перасяленцам калгасы Сібіру палёгкі жыцьця не прынясуць. Наадварот, апрача цяжкой калгаснай працы, дзе мала працоўнай сілы, перасяленцаў сустрэнуць няпрывычныя, цяжкія кліматычныя ўмовы. Як падае «Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя», том 20, бачына 511, клімат у Кемераўскай вобласьці рэзка кантынэнтальны. Кароткае, але гарачае лета зьмяняецца доўгай зімой; маразы даходзяць да 50 градусаў, а летам гарачыня даходзіць да 35 градусаў. Сьцюдзёныя вятры дзьмуць з поўначы й з усходу.

Такія ўмовы жыцьця чакаюць беларускіх перасяленцаў. Калгасная сыстэма ў «краіне сацыялізму» адна, і калгасьнікі ўсюды патрэбныя. Вынікамі працы калгасьнікаў загадвае дзяржава, як загадвае яна й жыцьцём людзкім. Калі савецкая ўлада лічылася зь інтарэсамі чалавека яго асабістага жыцьця? Камунізм усё падпарадкуе сваім таталітарным плянам. Ён вырывае з каранём з роднай глебы жыцьцё тысячаў Беларусаў і перакідае іх у жорсткі клімат Сібіру. На сваёй глебе ў родных кліматычных умовах яны былі-б куды больш творчымі й працаздольнымі. На Сібіры-ж шматлікія зь іх загібеюць. Калі-ж савецкая ўлада з гэтым ня лічыцца й на працягу 30 гадоў перакідае Беларусаў на Сібір і ў іншыя далёкія краі, дык на гэта ёсьць вельмі паважныя прычыны: Крамлю якраз ходзіць аб тое, каб вылюдніць Беларусь зь беларускага элемэнту, раськінуць Беларусаў па ўсім савецкім абшары, зьнішчыць беларускі народ, як нацыю. Панізіць патэнцыял-апору беларускага народу супраць камуністычнай дыктатуры. Дзеля гэтага перадусім і адбываюцца прымусовыя перасяленьні Беларусаў.

26. 7. 54 **С. Сімановіч**

## НЯДОЛЯ САВЕЦКАГА ДЗІЦЯЦІ

Кажуць, час найлепшы лекар: ён сьцішае боль і тугу, сьцірае з памяці малюнкі мінулага. Але ёсьць такія рэчы, аб якіх ніколі нельга забыцца, як напрыклад, цяжкая доля дзіцяці-сіраты.

Нядаўна трапіла мне ў рукі газэта «Советская Белоруссия» з 1-га чэрвеня гэтага году. Я чытаю:

«У савецкай краіне створаныя ўсе ўмовы, каб дзеці расьлі жыцьцярадаснымі, шчасьлівымі й здаровымі. Радзіма забясьпечыла ім шчасьлівае дзяцінства . . . Жыцьцё савецкіх дзяцей любоўна ахоўваюць наша камуністычная партыя й савецкі ўрад . . .»

Гэтыя хлусьлівыя словы выклікалі ў мяне балючы ўспамін майго дзяцінства, і мне хочацца расказаць сяньня аб тых крыўдах і зьдзеку, якія мне давялося перажыць «пад сонцам сталінскай канстытуцыі», яшчэ ў даваенныя часы.

Спачатку арыштавалі майго старэньнага дзядуню, які на працягу 40 год быў настаўнікам народнай школы, і выслалі яго, як ворага народу. Пасьля арыштавалі майго дзядзьку, які перанёс страшэнныя мукі, бо адмовіўся сьветчыць на сябе й на свайго роднага бацьку аб ніколі нязробленых праступствах. Пасьля двух гадоў цяжкога турэмнага рэжыму ён, на 34 годзе свайго жыцьця памёр ад сухотаў. Нарэшце арыштавалі майго бацьку-настаўніка й выслалі бяз права перапіскі. Засталіся мы з мацяй удзьвёх. Было мне тады сем год. Пачалося пацясьненьне нашай жыльлёвай плошчы, потым пагрозы аб высяленьні . . . Урэшце ўціснулі нас у маленькі пакойчык. Але ня гледзячы на цеснату, мы былі шчасьлівыя тым, што былі разам, што мелі свой куток.

Аднак нядоўга трывала нашае шчасьце. Не супакоіліся каты, яны пашкадавалі нам і гэтага. Яны захацелі з каранём зьнішчыць нашую сямейку, хоць ужо і без таго быў слабы гэты карэньчык. Памятаю, аднойчы пачулі мы стук у дзьверы, пасьля другі, яшчэ мацнейшы. Прыйшлося адчыніць. Увайшло двух у форме НКВД. Паказалі нейкую паперу. Ніколі не забудуся, як маці дрыжэла, зусім белая ад страху. Яна штосьці ім тлумачыла, плакала й прытуляла мяне да сябе. Але не кранула яна іхняга жорсткага сэрца, яны груба рабілі сваю справу. Перарылі ўсе рэчы, распаролі сяньнік, забралі залатую бранзалетку й гадзіньнік — памятку бабкі, усю перапіску, а галоўнае — альбом з усімі здымкамі.

Скончыўшы сваю брудную справу, прапанавалі маці ісьці разам зь імі. Мяне яны не маглі адарваць ад яе: я справіла страшэнны гвалт, і ня было іншай рады, як узяць нас разам.

Было яшчэ цёмна, калі нас прывялі ў будынак НКВД. Мы сядзелі прытуліўшыся адна да аднэй. Маці суцяшала мяне й казала: «Дзіцятка маё, гэта нейкае непаразуменьне, я ні ў чым нявінаватая. Яны павінны мяне хутка адпусьціць». Але сталася ня так. Пачаўся дзень. Адчыніліся дзьверы й нейкі энкавэдысты паведаміў, што нас мусяць разлучыць. Ён спытаўся, ці ёсьць каму даручыць мяне, бо калі праз тры дні ніхто не зьявіцца, мяне перададуць у дзіцячы прытулак НКВД.

Але, дзякаваць Богу, прыехала выкліканая тэлеграмай нашых знаёмых цёця, якая вырвала мяне зь іх жорсткіх рук і забрала да сябе. Мы пачалі абіваць парогі НКВД, хацелі прасіць за маці, хацелі перадаць ёй есьці, а галоўнае прасілі дазволіць перад выездам разьвітацца. Ува ўсім было адмоўлена.

Мы ад'ехалі. Але ня спыніліся нашыя цярпеньні й клопаты. Мы пісалі ў розныя канцы, просячы ўступіцца й зьвярнуць ні ў чым нявінную, зусім хворую матку. Але глухія на людзкія гора й сьлёзы энкавэдыстыя ўрэшце адказалі: «У пераглядзе справы адмоўлена!» Скончана! Прасілі спатканьня — не далі. Прынялі толькі пару бялізны й маленькую пісульку, у вадказ на якую маці дзякавала й прасіла рукзак. Значыць — высылка. Але за што, куды й на які тэрмін? Адабралі жыцьцё, асірацілі дзіця й не дазваляюць ні аб чым пытаць!

А я яшчэ й сяньня добра памятую, што першы верш, які я мусіла вучыць напамяць у школе, называўся «Спасибо великому Сталину за щастливое детство».

Нарэшце атрымалі доўгачаканы ліст зь месца высылкі. Даведаліся, што маці выслана пастановай тройкі НКВД на 10 год. Працуе на распрацоўцы лесу, а ўлетку капае гліну, месіць яе й робіць цэглу. Просіць прыслаць сухарў. З гэтага ліста стала ясна: катаржная праца й галоднае існаваньне. І ці-ж яна адна такая пакутніца? Мільёны такіх няшчасных матак, адарваных сілком ад сваіх дзяцей!

З таго часу прайшло 15 гадоў. Невядомы нам лёс нашых блізкіх. Жывучы ў сапраўды дэмакратычным сьвеце, вольныя й сытыя, мы ніяк ня можам забыцца аб страшным мінулым. Загубленае жыцьцё, зьдзекі й катаваньні, пралітыя

нашымі бацькамі пот і сьлёзы ў непасільнай працы, не даюць нам супакою. Ні ў ваднэй краіне няма такога зьдзеку над чалавекам, такой непашаны да ягоных правоў.

Мы сябе цешым толькі тэй надзеяй, што ўжо недалёкі той час, калі скончацца ўрэшце пакуты нашага народу й калі нашых беларускіх дзяцей будуць «любоўна ахоўваць» іхнія родныя маткі, а не камуністычная партыя й савецкі ўрад.

1.8.54 **Б. Вербіч**

## БЕЛАРУСЬ І УКРАІНА Ў АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЕДНАНЫХ НАЦЫЯЎ

У гэтым тыдні мінае дзевяць год з того часу, калі Хартыя Аб'еднаных Нацыяў увайшла ў сілу, а сама Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў сталася рэальнай.

Пры гэтай нагодзе мы маглі-б сказаць вельмі шмат аднosna вялікіх мэтаў і прынцыпаў гэтай Арганізацыі, як і аднosna памеру рэалізацыі іх. Аднак сяньня мы затрымаемся толькі над адным мамэнтам, а пайменна: паводля Хартыі, прыняцьце Беларускай і Ўкраінскай ССР у Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў аснавана «на прынцыпе роўнасьці й сувэрэннасьці ўсіх сяброў гэтай Арганізацыі.»

Фармальна Беларуская і Ўкраінская ССР на працягу доўгага часу мелі сувэрэннасьць у рамках Савецкага Саюзу. Паводля сталінскай канстытуцыі, гэтая сувэрэннасьць уключае такія правы, як «незалежнае выконываньне дзяржаўнай улады», «права дабраахвотнага выхаду із складу Савецкага Саюзу», «права на асобныя рэспубліканскія вайсковыя адзінкі», «права на беспасрэдныя дачыненьні зь іншымі краінамі, на падпісаньне ўмоваў зь імі й на абмен дыпляматычнымі й консульскімі прадстаўніцтвамі». Аднак ніводнае з гэтых правоў у практыцы ня існуе. У 1945 годзе, напрыклад, украінскі міністар замежных спраў абвесьціў 400 журналістым у Сан-Францыско, што ўкраінскі ўрад гатоў у кажную хвіліну абмяняцца дыпляматычнымі прадстаўнікамі з кажнай краінай, якая гэтага зажадае. Аднак ангельская прапазыка аб тым, каб абмяняцца консульскімі прадстаўнікамі паміж Вяліка-Брытаніяй і Ўкраінскай ССР, была адкінута.

Такім чынам, расхваленая сувэрэннасьць Беларускай і Украінскай ССР набылі такі самы зьмест у жыцьці, як іншыя цьверджаньні савецкай канстытуцыі, як напрыклад: «уся ўлада належыць да працоўных і сялян» (у той час, калі яна ў сапраўднасьці належыць да савецкіх дыктатараў). Або цьверджаньне аб тым, што савецкі грамадзянін паводля савецкай канстытуцыі атрымлівае заплату па прынцыпу: ад кажнага — згодна зь ягонымі здольнасьцямі, кажнаму — згодна зь ягонай працай, у той час, калі цяжкая праца грамадзянаў Савецкага Саюзу ня прыносіць ім нічога, бо іхны жыцьцёвы стандарт значна ніжэйшы за стандарт першай лепшай індустрыялізаванай краіны вольнага сьвету. Апрача таго, працоўныя пазбаўлены права на забастоўкі дзеля палепшаньня свайго палажэньня.

Але гэтая, пустая сваім зьместам сувэрэннасьць Беларускай і Украінскай ССР набыла вялізарнага значэньня з мамэнтам прыйма гэтых Рэспублік у Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў. Гэты факт зьвярнуў увагу сьвету на нацыянальнае існаваньне беларускага і украінскага народаў. Апрача таго, абодва гэтыя народы фармальна сталі сувэрэннымі дзяржавамі. Нажаль, аднак, гэтая новая сувэрэннасьць беларускага і ўкраінскага народаў пазбаўлена сапраўднага зьместу на міжнароднай арэне, таксама як і ў межах Савецкага Саюзу. Ці-ж бачылі мы хоць адзін прыклад, каб за мінулых дзевяць год беларускі і ўкраінскі прадстаўнікі галасавалі незалежна ад дэлегацыі Савецкага Саюзу? — Ніводнага. Яны старанна выконваюць тое, што ім загадваюць іхныя паны з савецкага цэнтру. Апрача таго, іхная роля палягала і на тым, каб рабіць толькі тыя тактычныя рухі, якіх жадала ад іх савецкая дэлегацыя, калі сама хацела заставацца ў цяні.

Былы амэрыканскі дзяржаўны сакратар Эдвард Штэтыніюс так пісаў у сваіх мэмуарах аб Ялтанскай Канфэрэнцыі 1945-га году: «Учора ўвечары прэзыдэнт Рузвэльт сказаў мне ў Ялце, што Сталін уважае сваё становішча на Украіне вельмі цяжкім і няпэўным. Сталін заявіў, што пытаньне прыняцьця Украіны ў Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў было вельмі важным для савецкага адзінства.» Інакш кажучы, Сталін хацеў надаць беларускаму і ўкраінскаму народам форму сувэрэннасьці на міжнародным грунце дзеля таго, каб здабыць іхную ляяльнасьць, дзеля выкананьня свайго

пазьнейшага пляну — паняволеньня гэтых народаў. Рэч зразумелая, што адначасна з гэтым ён імкнуўся атрымаць больш галасоў у Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў — тры, замест аднаго.

Цікава, чаму савецкія дыктатары прыкладаюць так шмат увагі да формаў, якія ў сапраўднасьці ня маюць зьместу? Чаму яны намагаюцца стварыць уражаньне, што саюзныя рэспублікі зьяўляюцца нібы сувэрэннымі дзяржавамі, у той час, як яны ня маюць ніякіх правоў, што ўваходзяць у паняцьце сапраўднай сувэрэннай дзяржавы? Чаму пры дапамозе сваёй пустой па зьместу Канстытуцыі яны намагаюцца давесьці, што іхны рэжым зьяўляецца дэмакратычным, у той час, як іхная зялезная дыктатура супярэчыць паняцьцю дэмакратычнай свабоды?

Усё гэта дзеля таго, што савецкая прапаганда ня мае чаго сказаць на карысьць сваёй дыктатарскай сыстэмы кіраваньня дзяржавай, а таму яна мусіць прадстаўляць свой рэжым такім, якім ён ня ёсьць у сапраўднасьці. Савецкія дыктатары ў сваім засьляпеньні спадзяюцца, што людзі паверацць у тое, што яны **гавораць,** а ня ў тое, што яны **робяць.**

Усе мы добра ведаем, што Саветы ніколі ня зробяць таго, што абяцаюць.

36 год горкага дасьветчаньня кажа аб тым, што ёсьць толькі адзін шлях для здабыцьця паабяцаных нам правоў і тэй свабоды, што існуе ў дэмакратычным сьвеце. Шлях гэты — ліквідацыя камуністычнага рэжыму і замена яго на вольны ўрад выбраны самым народам.

30. 10. 54 **Р. Ш.**

## АНТЫБАЛЬШАВІЗМ — НАША НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Бальшавіцкая дыктатура 7-га лістапада одзначае ўгодкі свайго панаваньня. Як і заўсёды, з гэтай нагоды афіцыйная прапаганда на асабліва высокіх нотах дэклямуе пра гэтак званую народнасьць савецкай улады, што нібы гэтую ўладу аж ад самага пачатку дзейна падтрымваў ды змагаўся за ейнае ўмацаваньне й наш беларускі народ, дзяржаўныя імкненьні якога яна нібы ажыцьцявіла. Гэтак бальшавізм на-

магаецца ператварыцца ў нашую нацыянальную традыцыю, хвальшуючы дзеля гэтага ня толькі сучаснасьць, але й гісторыю.

Зьвернемся й мы да гісторыі. Возьмем толькі адзін дакумант, які вычарпальна адказвае на пытаньне, зь кім былі Беларусы ў 1917-ым годзе, куды яны імкнуліся ды хто стаў перашкодаю на іхным шляху.

Сусьветная вайна 1914—1918 гадоў ператварыла Беларусь у пляцдарм збройнага змаганьня. Мільённыя расейскія арміі, якія сканцэнтраваліся на тэрыторыі нашага краю, неўзабаве зьявіліся стойбішчам бальшавізму, у якім беларускі народ у васобе сваіх нацыянальна-палітычных арганізацыяў адразу пабачыў варожыя сілы.

25-га кастрычніка старога стылю 1917-га году бальшавіцкі прэзыдыюм Менскага савету, які меў агульнафрантовае значэньне, выдае загад пра захоп улады ў свае рукі. Назаўтра бальшавікі абвяшчаюць пра ўтварэньне гэтак званага Рэўкому, як вышэйшага воргану ўлады для ўсяго краю й фронту. Ні ў савеце, ні ў рэўкоме Беларусаў ня было.

У вадказ на гэта вышэйшы ды адзіны нацыянальны рэпрэзэнтант Беларусі, вакол якога згуртаваліся ўсе сілы нашага народу — Вялікая Беларуская Рада — на другі дзень выдае ў Менску «Грамату да Беларускага Народу».

Вось тэкст гэтага няведамага сяньня ў БССР гістарычнага дакуманту:

«Браты Беларусы, працоўны народ Беларусі, работнікі й сяляне-земляробы, Беларусы-ваякі, усе, каму дарагая воля й рэвалюцыя, усе, у кім гарыць і б'ецца сэрца за правы й волю беларускага народу! Грамадзяне ўсіх іншых народаў, якія жывуць на нашай зямельцы!

«Прыйшоў мамэнт, якога ня ведае гісторыя нашае многапакутнае зямлі. Воляй рэвалюцыі мы пастаўленыя перад патрэбай сабраць усе жывыя сілы нашае Бацькаўшчыны дзеля абароны й утрыманьня нашых вольнасьцяў, здабытых крывёю мільёнаў сыноў пакрыўджанай, абяздоленай Беларусі.

«У гэтыя дні належыць паказаць запраўды, што злучаная пакутай беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя не дапусьціць, каб віхор бязладу загубіў нашую сьвятую нацыянальную справу абароны вольнасьцяў і правоў беларускага народу.

«Браты Беларусы, працоўны народ, сыны зямлі й абаронцы вольнасьцяў Бацькаўшчыны! Злучэцеся ў вадну згодную сям'ю каля Вялікай Беларускай Рады, адкідаючы ад сябе сеючыя нязгоду чужыя поклічы, і будзьце асьцярожнымі ў сваіх дзеях. Толькі парадак і згоднасьць паміж усімі дапаможа нам утрымаць спакой у нашым краі, а еднасьць з войскам падыйме дух і злучыць увесь народ.

«Браты Беларусы! Вялікая Беларуская Рада, апіраючыся на Беларускую Цэнтральную Вайсковую Раду, Беларускі Выканаўчы Камітэт заходняга фронту, на ўсе беларускія арганізацыі, — верыць у сілу й мудрасьць беларускага народу ,у руках каторага вялікая будучыня Вольнай Беларусі, воля, зямля й згода.»

Гэтак адказалі на захоп бальшавікамі ўлады тагачасныя беларускія арганізацыі, стварыўшы агульна-нацыянальны фронт змаганьня за нацыянальную рэвалюцыю. Гэта быў рэвалюцыйны заклік да «ўсіх жывых сілаў Бацькаўшчыны» рушыць на змаганьне за «сьвятую нацыянальную справу», якой сьмяротна пагражаў бальшавіцкі «віхор бязладу».

Гэтак выглядае гістарычная праўда, ад першага подыху якой разьвейваецца густы пыл бальшавіцкай прапаганды пра выдуманую адданасьць Беларусаў бальшавіцкай дыктатуры.

Гэтак антыбальшавізм, які з усёй моцай выявіўся ў Беларусаў пры першай сустрэчы ізь сьцяганосцамі чырвонага тэрору й гвалту, ператварыўся ў нашую наймацнейшую нацыянальную традыцыю, якая трывае ў народзе, не зважаючы на найцяжэйшыя напасьці й подступы чырвоных дыктатараў.

Аб тым, што бальшавіцкая ўлада была ўстаноўлена пры помачы сілы звонку, прызнаюцца самі камуністыя. Вось што кажа сакратар кампартыі БССР Гарбуноў у сваей кніжцы «Уз'еднаньне Беларускага народу ў адзінай Савецкай Сацыялістычнай Дзяржаве» на бачыне 7-ай:

«Хуткая перамога сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі ажыцьцявілася дзякуючы дапамозе Цэнтральнага Камітэту бальшавіцкай партыі, асабістай увазе Леніна й Сталіна, па ініцыятыве якіх было ўмацавана кіраўніцтва мясцовых арганізацыяў». Далей Гарбуноў абрушываецца на праціўнікаў савецкага ладу такім чынам:

«Меншавікі, эсэры, бундаўцы, беларускія нацыяналістыя,

контррэвалюцыянэры і іншыя прыхвасьні буржуазіі, прыкрываючыся хвальшывым нацыянальным сьцягам, усімі спосабамі спрабавалі перашкодзіць пабеданоснаму ходу сацыялістычнай рэвалюцыі і выратаваць капіталізм, вярнуць хвабрыкантаў і памешчыкаў». Як бачым, Гарбуноў не жалее трафарэтных бальшавіцкіх эпітэтаў. Хоцькі-ня-хоцькі ён сьцьвярджае ўсё-ж на бачыне 33-яй тэй-жа кніжкі існаваньне й далейшай дзейнасьці Беларусаў супраць бальшавікоў, калі яны стараюцца стварыць Савецкую Рэспубліку на Беларусі:

«Беларускія буржуазныя нацыяналістыя, выконваючы заказ імпэрыялістых Антанты, зрабілі спробу сарваць утварэньне Беларускай ССР. Яны павялі адкрытую барацьбу супроць Абласнога камітэту РКП(б). Ворагі беларускага народу патрабавалі стварэньня самастойнай, незалежнай ад ЦК РКП(б) беларускай кампартыі, у якой яны спадзяваліся захапіць кіраўніцтва і затым адарваць Беларусь ад Савецкай Расеі».

Так, беларускі народ ніколі не хацеў пагадзіцца з камуністычным рэжымам. Якая-ж гэта трагэдыя, калі ён змушаны прыймаць удзел у сьвяткаваньні 37-ай гадавіны гэтага рэжыму, рэжыму, які прынёс для яго толькі зьдзек і няшчасьці.

6. 12. 54 і 13. 8. 56

**Язэп Паўстаніч і В. Васілевіч**

## ЯЗЭП ПУШЧА

Язэп Пушча належаў да першага пасьлярэвалюцыйнага пакаленьня маладых паэтаў. У 1923-ім годзе ён увайшоў у ініцыятыўную групу беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, што стварылі найбольш масавае літаратурнае аб'яднаньне «Маладняк». З 1926 г. па дзень арышту ў чэрвені 1930 году ён уваходзіў у літаратурнае аб'яднаньне «Узвышша». Першыя зборнікі вершаў «Раніца рыкае», «Віта», «Дні вясны» былі адзначаныя захапленьнем імажынізмам і сьветчылі аб вялікім і сьвежым таленце, што шукаў новых шляхоў у паэзіі. Але ўсьведамленьне апазыцыйнасьці савецкаму ладу прыйшло ў Пушчы яшчэ ў сярэдзіне дваццатых гадоў. У часапісе «Узвышша» №5 за 1927 год зьявіўся цыкль ягоных вершаў

пад нязвычайным назовам «Лісты да сабакі». Гэтыя вершы зьявіліся пачаткам перасьледу паэты. Гэта былі вершы характэрнага для Язэпа Пушчы жанру лістоў. Яны былі прысьвечаны жыцьцю паэты ў Ленінградзе, дзе тады ён вучыўся, і перадавалі бязьмежную тугу па бацькаўшчыне — Беларусі. Таленавітаму паэту, зь яркай індывідуальнасьцю, собскім бачаньнем сьвету, ужо тады былі агідныя лёзунгі ператварэньня мастацтва ў служку палітыкі. Паэта за ўвесь свой плённы творчы шлях не напісаў ніводнага радка для ўслаўленьня савецкага ладу, але за тое шмат увагі аддаў праблемам мастацкай творчасьці і свабодзе мастацтва. У «Лістох да сабакі» ягоную ўвагу займаў сумны лёс мастацтва ў умовах матар'ялістычнай ідэялёгіі. Паэта адважна абвяшчаў перавагу правоў на творчую свабоду ад палітыкі й пабочных мэтаў:

І пакуль б'е жывой вады крыніца
і хваля творчая гарачым пульсам,
нашто-ж мне падхалімам быць, крывіцца
і ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?
Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў,
і супраць ветру размахнуць крыламі.
Хто хоча — кпіце над пясьнярскім лёсам,
і бэсьцьце, — лайце у гандлярскай краме.

Да свайго адрасата паэта зьвяртаўся з заклікам абараняць родную хату, г. зн. бацькаўшчыну ад няпрошаных гасьцей-бальшавікоў:

Услухвайся ў таемны шум і шэпт,
чужыя людзі ходзяць каля склепу,
пільнуй!
. . . Вартуй, вартуй лепш хату да расьсьвету,
вуглоў каб не разьнесьлі людзі вуліц.

Савецкая крытыка ў васобе Бэнды й Гародні расшыфравала пад вобразам «чужых людзей» — новых гаспадароў савецкае краіны, а пад «расьсьветам» — чаканьне інтэрвэнцыі. А публіцысты Л. Каплан на старонках часапісу «Полымя» ўбачыў тут простую пераклічку зь генэралам Балаховічам за мяжой і навет заклік да крыжовага паходу на СССР. Так ці інакш, у творы адбіліся глыбокія настроі незадаваленьня лёсам краіны пад чужым панаваньнем:

Стаю вось перад зімнім тут палацам
і ўвесь, ня ведаю чаго дрыжу,

і сам ня ведаю, чаго так плачу . . .
Хто там? Прыдзі хутчэй і укрыжуй!
Канец хай будзе ўсім маім цярпеньням:
няхай лісты разьвеяцца з асін,
з чала краіны вырву ўсё-ж я церні,
каб болю іх ня ведаў болей сын.

Ня гледзячы на падняты гоман у друку аб буржуазнасьці паэты, ён застаўся верным свайму разуменьню творчасьці. У цыклі вершаў «Лісты да паэтаў» ён зьвяртаўся да Захаду з апэляцыяй у справах Беларусі. А ў вадрас прыстасавальнікаў і падхалімаў да савецкага ладу ськіваваў колькі саркастычна-загостраных вершаў накшталт «Чорныя вароны», якіх абыходзяць усе людзі, каб ня чуць іх прыкрага дзікага крыку.

Асабліва высокага мастацкага ўзроўню Язэп Пушча дасягнуў у зборніку вершаў «Песьні на руінах» (1929) і ў забароненым у карэктурных адбітках апошнім зборніку вершаў «Грэшная кніга» (1930). У першым зь іх зьмешчана ягоная лепшая паэма «Цень Консула». У ўступе да гэтай паэмы з выключным мастацтвам выкарыстоўваецца прыём гіроніі супраць утылітарнай паэзіі. У вобразе Консула паэта адважыўся паказаць самога правадыра камуністычнае партыі — Сталіна, хаця-ж аўтар і мусіў прыхавацца ўяўным паказам першае нямецкае акупацыі, каб абмануць пільнасьць цэнзуры. Вобраз журналістага Валасені на службе ў Консула выкрывае партыйны друк на службе крывавай дыктатуры. Практыка масавага завочнага асуджэньня тысячаў і мільёнаў людзей на сьмерць шматлікімі тройкамі ВЧК і ГПУ знайшла свой адбітак у паэме «Цень Консула» — у сцэнах нарады трох:

Нарада траіх, пратакол №5 —
Яго не забудуць у нашай краіне, —
Па ім павялі на Гальготу караць
Ад маткі гаротнай апошняга сына.

У 1930 годзе Язэп Пушча трапляе ў выгнаньне і назаўсёды зьнікае зь беларускай літаратуры. Але створанае ім за колькі гадоў яго творчае чыннасьці дзякуючы высокаму паэтычнаму майстэрству ўвайшло залатым фондам у літаратуру змаганьня за чалавечую годнасьць, праўду і свабоду і назаўсёды ўзбагаціла беларускую літаратуру. Прыдзе час і народ даведаецца аб гэтых духовых і мастацкіх каштоўнасьцях векапомнага значаньня.

Сумленныя мастакі, песьняры Беларусі, супраціўляюцца камуністычнай дыктатуры. Яны змагаюцца за нутраную тайную творчую свабоду. У гэтым парука вызваленьня й будучага росквіту нашае любае Бацькаўшчыны.

2.1.55 **М. Караткевіч**

## ЯК БАЛЬШАВІКІ РАЗБУРАЛІ СЬВЯТЫНІ Ў МЕНСКУ

Замежная савецкая прапаганда часта выхваляецца тым, што быццам-бы ў СССР існуе свабода сумленьня і адчынена шмат цэркваў. Аднак яны ніколі ня прыгадаюць, як яны на працягу 30-х гадоў у барбарскі спосаб нішчылі царкву і разбуралі сьвятыні. Менск у гэтых дачыненьнях зьяўляецца асабліва паказальным.

Ужо ў XI стагодзьдзі Менск пачаў забудоўвацца праваслаўнымі сьвятынямі. Гэткімі старажытнымі былі ў Менску манастыры Сьвята-Духаўскі, Козьма-Дзям'янаўскі, Пятро-Паўлаўскі і жаноцкі Сьвята-Духаўскі ды некаторыя іншыя. Ужо ў XIV ст. у Менску было трынаццаць цэркваў. Беларускія князі спрыялі распаўсюджваньню хрысьціянства на Беларусі й разбудоўваньню сьвятыняў. Дзякуючы іхняй апецы, былі пабудаваныя старажытны Вазьнясенскі мужчынскі манастыр на левым беразе Сьвіслачы каля Троіцкай Гары ў XIV ст. З 1614 году ўжо прыгадваецца Мікалаеўскі мужчынскі манастыр у замку. Усё гэта былі помнікі старадаўняга архітэктурнага мастацтва на Беларусі. Яшчэ чверць веку таму назад у Менску было шмат гэтых цэркваў. Але ў вачох бальшавікоў гэтыя гістарычныя й мастацкія вартасьці ўяўляліся цытадэлямі рэакцыі й магчымай контррэвалюцыі. Таму на пачатку 30-х гадоў яны наважыліся зьнішчыць гэтыя помнікі.

Мянчане з болем прыгадваюць, як у 1934 годзе самая вялікая праваслаўная царква ў Менску, Катэдральны Пятро-Паўлаўскі Сабор на высокім Пляцу, была ўзарваная апрычнікамі ГПУ-НКВД, а месца гэнае было ператворанае ў пустыр. Пятро-Паўлаўскі Сабор быў пабудаваны яшчэ ў 1616 годзе на месцы Сьвята-Духаўскай царквы. Меў ён 58 вокан пад чатырохпахільным купалам і шмат абразоў прарокаў. На сьценах Сабору былі вялікія фрэскі й цудатворная ікона

Божай Маці, што належыла да старадаўных мастацкіх помнікаў. Паданьне кажа, што яшчэ Сьв. Уладзімер трымаў яе ў Дзесяцінай Царкве ў Кіяве. У XV ст., калі на Кіяў напалі Татары й разрабавалі яго, яны пазрывалі з гэтае іконы каштоўнасьці й кінулі яе ў раку Сьвіслач каля менскага замку.

Пасьля рэвалюцыі бальшавікі спачатку абабралі ўсе каштоўнасьці Сабору, а затым перадалі яго гэтак званай новаабнаўленчай царкве. Але народ паранейшаму маліўся ў сваёй улюбленай царкве. Таму на пачатку трыццатых гадоў бальшавікі зусім зачынілі Сабор. Але й зачынены ён зьяўляўся бяльмом на іхным воку.

Людзі начамі ня спалі, як пачулі пра злачынны намер бальшавікоў узарваць Сабор. А калі найміты НКВД пачалі ўзрываць, дык надта-ж доўга не маглі даць рады. Сьвятыя каменьні доўга не паддаваліся злому духу зьнішчэньня. Мянчане плакалі на вуліцах і па хатах, маліліся ўпотай Богу, каб той збавіў іх ад бальшавіцкае інквізыцыі.

Але разбуральніцкая дзейнасьць бальшавікоў не абмежавалася толькі гэтым Саборам. Менскія жыхары ня могуць не аплакваць да сяньня факту зьнішчэньня вялікай прыгожай каменнай чыгуначнай царквы ў Менску. Бальшавікі пакінулі ад яе толькі драўляную невялікую прыбудову, у якой і маліліся беларускія чыгуначнікі да вайны і ў часе яе.

Узарвалі бальшавікі й Крыжова-Пакроўскую царкву пры Архірэйскім доме, таксама зачынілі лютаранскую царкву на Захараўскай вуліцы, з часам ператварыўшы яе ў піянэрскі клюб для антырэлігійнага ўзгадаваньня.

Найбольш старадаўную ў Менску царкву, Кацярынінскую, бальшавікі ператварылі былі перад вайною ў харчовы склад. Жаноцкі Спаса-Прэабражэнскі манастыр яны перабудавалі ў клюб фізычнай культуры, а часткаю зьнесьлі яе, каб на гэтае месца пабудаваць недарэчную каменную скрынку Клюб Сталіна — месца камуністычнага прапагандовага зборышча. Мужчынскі манастыр бальшавікі ў пэрыяд масавых арыштаў 1933 годзе выкарыстоўвалі, як турму НКВД, а пазьней ператварылі яго ў архіў.

Таксама былі зьняважаныя бальшавікамі і каталіцкія сьвятыні ў Менску. Катэдральны касьцёл на Пляцы Волі перад вайной быў ператвораны ў аўтагараж, а Новы касьцёл на Савецкай вуліцы — у тэатр. Стара-Дамініканскі кась-

цёл быў пераўтвораны ў казармы, а Бэрнадынскі — у архіў.

Цалкам былі зьнішчаны ў Менску ўсе жыдоўскія сынагогі. Так была ўзарваная й разбураная сынагога на гэтак званым Школьным двары, а цэнтральная сынагога на вуліцы Валадарскага была таксама пераўтвораная ў тэатр.

Вось факты, якія выкрываюць аблыжніцтва й хлусьню бальшавікоў перад вольным сьветам аб існаваньні свабоды сумленьня ў СССР і на Беларусі.

15.1.55 **М. Караткевіч**

## РАТУНАК АД ЦАЛІНЫ ТОЛЬКІ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

За 37 год чырвонае дыктатуры на Беларусі ў мову й падсьведамасьць беларускага насельніцтва ўвайшло шмат слоў, якія ў кажнага, хто іх чуе ці вымаўляе, выклікаюць жахлівыя вобразы насільля й зьдзеку над чалавекам. Гэткіх слоў — сымбаляў былога й сучаснага няшчасьця назьбіралася цэлая безьліч. Пачынаючы ад найстарэйшых зь іх, як чэка, огэпэу, чыстка, бальшавік, цераз пазьнейшыя, як калгас, раскулачваньне, канцлягер, дабравольнае перасяленьне, гэты лексыкон брутальных паняцьцяў узбагачваецца з кажным годам, ідучы ў бесканцовасьць.

Адным з найсьвяжэйшых сымбаляў няшчасьця беларускага народу сталіся словы «асваеньне цаліны».

Расьсяваючы жах і нясучы руіну тысячам сем'яў, гэтыя словы новай лявінай няшчасьцяў абрушыліся на Беларусь з усіх адтулін гарлатае камуністычнае прапаганды. «На цаліну!» — крычаць беларускай моладзі дыктатары Беларусі. Крычаць з балонак газэт, з часапісаў, з вершаў, з радыя і з вуснаў насланых аблыжных агітатараў. Упрошваюць, падманьваюць, шантажуюць, пагражаюць і ў выніку — поўныя эшалёны людзкога тавару высылаюцца на казахстанскія пяскі.

Увесь-жа напор прымусу, па старой прывычцы, прапаганда стараецца абхутаць у бавоўну «энтузіязму», «працоўнага ўздыму», «адданасьці партыі» і «пачуцьця камсамольскага гонару». Аднак з нацягнутай лагоднасьці тону, якім таворыцца аб пералічаных якасьцях беларускае моладзі, прывычнае вуха лёгка вылоўлівае ўсю жорсткасьць і няўмольнасьць дыктатарскага загаду: «На цаліну!».

Віцебскае радыё пусьціла ў эфір 26-га студзеня, здавалася-б, нявінную фразу:«**Многімі** шляхамі прыходзіць моладзь да свайго рашэньня паехаць працаваць у далёкія неадкрытыя краі, але калі рашэньне ўзьнікае, **ужо няма такой сілы, якая-б была здольна перашкодзіць юнаку або дзяўчыне ажыцьцявіць сваю гарачую патрыятычную мару».**

Якая красамоўная й рамантычная фраза! І як ня дзіва, аж па берагі поўная ад суровага зьместу: няма такой сілы, якая-б была здольна перашкодзіць злоўленым ахвярам паехаць у «далёкія неадкрытыя краі». Так, сапраўды не хапае сілы і няма права супраціўляцца якім-бы там ня было пастановам партыі. Гутарка-ж аб «гарачых марах» — гэта фігавы лісток, за якім няўдала схаваная ўся галізна гэнага сьцьверджаньня «няма такой сілы, якая-б перашкодзіла».

Кажная савецкая пастанова суправаджаецца «гарачымі марамі» насельніцтва ажыцьцявіць яе. Гэтак і цяпер, дзякуючы «працоўнаму ўздыму», за кароткі час кампартыя справілася ператварыць дзясяткі тысяч беларускае моладзі ў дармовых парабкоў сацыялістычнае працы на цаліне. На нястачу спосабаў да гэткіх апэрацыяў савецкія дыктатары не хварэлі ніколі.

Таму й надалей усё пускаецца ў ход, каб пад прыкрыцьцём «гарачае патрыятычнае мары» загнаць у Сібір новыя дзясяткі тысяч беларускае моладзі. Коштам тых, што ўжо наглыталіся пяску й пылу цаліны, на Беларусі вядзецца цяпер масавае ашуканства й хлусьня пра цаліннае шчасьце. Зрэшты, хлусьні гэтай даўно ўжо перасталі верыць. Ня верыць ёй і беларуская моладзь. Успаміганыя-ж віцебскім радыям «многія шляхі, па якіх прыходзіць моладзь да рашэньня ехаць на цаліну» — гэта многія спосабы аднаго і таго-ж самаго ведамага савецкага «добраахвотнага» прымусу. Змагаючыся супраць гэтага насільля, беларуская моладзь мусіць памятаць адно: калі яшчэ ёсьць якая-небудзь магчымасьць ратавацца ад нядолі Сібіру й ягонай цаліны, дык гэтая магчымасьць існуе толькі на бацькаўшчыне, дзе ёсьць знаёмыя людзі й знаёмыя мясьціны. Бо таго, хто пападзецца ўжо на цаліну, сапраўды ніякая сіла ня выбавіць зь біды й нядолі — аб гэтым выразна папярэдзіла й віцебскае радыё ў сваёй перадачы з 26-га студзеня.

5.2.55 **Я. Запруднік**

## ПАСЬЛЯ ВЫБАРАЎ БАЗЬ ЗЬМЕНАЎ

**(Фэльетон)**

Ну, вось нам палягчэла на сэрцы! Бо ўжо некалькі дзён цяжкім каменем ляжала турбота і непакой: які будзе вынік выбараў у БССР. Праўда, мы ня сумляваліся, што нашы мудрыя і далёказоркія камуністычныя ўлады ўмеюць рабіць выбары і напэўна загадзя прадбачылі і прыгатавалі вынікі да аднэй тысячнай працэнту ўключна. Ведаем, як жвавыя заганялы з агітпунктаў ды іншыя агітпропы ўвіхаліся ў гэтым выбарчым кірмашы. Усё-ж магла здарыцца якаясь няўвязка, якаясь няпрадбачаная катастрофа і родная партыя магла-б праваліцца.

Мы вельмі турбаваліся, што можа праваліцца Молатаў і ня будзе каму махаць перад носам капіталістых вадароднай бомбай. Або, напрыклад, Мікіта Хрушчоў. — Такі таленавіты аўтар гэніяльных плянаў! Хто-ж бы нам выдумоўваў аграгарады, цалінныя землі, небаскробы з чароту, кукурузу ды цяжкую індустрыю — гэта значыць гарматы замест масла? Або Маленкоў, які, бедны, чуць-чуць ліпіць на крамлёўскай пасадзе . . . Ня менш нас непакоіла, ці ў Старадароскай акрузе на выбарах пройдзе знатная сьвінарка Тацяна Міхайлоўская, якая так добра ўцяміла мэтады ўсесаюзнага маштабу сьвінаркі Люськавай, і зялёным канвэерам выпрадукавала 500 сьвіньней. Мы ня сумляваемся, што яна ў Вярхоўным Савеце будзе ня горш спраўляцца як у сьвінарніку, тым больш, што там і так няшмат работы: сядзець, слухаць ды пляскаць усім загадам сакратара ЦК партыі. Мудры Ленін вучыў, што кажная кухарка мусіць умець кіраваць дзяржавай, дык чаму-ж гэтага ня магла-б рабіць сьвінарка? Факт, што Маленкоў выявіўся інтэлігэнтна слабейшым ад кажнай кухаркі, не павінен бянтэжыць іншых камандзірак гаршкоў і скаварады: Маленкоў хацеў увесьці лягчэйшую кухню, але калектыўнае кіраўніцтва хоча крывавых ростбіфаў, адбіваных катлетаў ды іншых мясных шашлыкоў, таму Маленкова й здыскваліфікавала.

Ну, дык вось мы і турбаваліся: а ліха ведае, што можа стацца . . . Бо як мы бачылі на Захадзе, у краінах ня гэтак званай «перадавой дэмакратыі» — там вынікі выбараў прадбачыць вельмі цяжка. На Захадзе выбаршчык — стварэньне капрыснае, як прымабалерына. Ніколі ня ведама, на каго ён загаласуе. Бо там і партыяў некалькі, што ёсьць з чаго

выбіраць, і галасаваньне тайнае, што й чорт не праверыць, хто на каго галасуе, і публіка расьпешчаная, што калі хтось мае грыпу ці непаладкі з жыватом — можа не пайсьці на выбары. Вось цікавы прыклад: У 45-м годзе, некалькі дзён пасьля вайны, на ангельскім календары выпадалі выбары. Усім ведама, што Чэрчыль сваей мастацкай ды гэніяльнай стратэгіяй спрычыніўся да перамогі Англіі над Гітлерам. Ангельцы любілі свайго Вінстона і называлі яго «бацькам перамогі». Але падчас выбараў прыйшло ім у галаву папрабаваць улады лейбарыстых. Ну, і ўзялі ды ня выбралі Чэрчыля. Чэрчыль уткнуў цыгару ў зубы, ды й паехаў на Рывьеру маляваць пальмы і іншыя кактусы. Але чатыры гады пазьней капрысныя Ангельцы зьмянілі думку, ды пагналі з фатэлю Этлі і, вырваўшы Чэрчылю з рук палету і пэндзлі, даручылі прэм'ераўскі партфэль. Вось і рабі што хочаш з такой публікай. Што-ж гэта за дэмакратыя, калі ні калектыўнага ні індывідуальнага кіраўніцтва не баяцца?

— Бо яго самі выбіраюць . . .

Ну, але ў нас на Беларусі ўсё добра скончылася. Хаця яшчэ ня маем канчатковых вынікаў, але з маскоўскага радыя ведаем, што выбары праходзілі добра. Ведаем, напрыклад, што 27-га а другой гадзіне ўжо прагаласавала 99 і восем дзясятых працэнтаў выбаршчыкаў і ўсе за родную партыю ды цаліну. З гэтага можна спадзявацца, што да 6-й гадзіны вечару яшчэ дагаласавала 50 і дзьве дясятыя працэнтаў і такім чынам норма выканана на 150 працэнтаў.

Вельмі нас падбадзёрыла жвавая і патрыятычная прамова стошасьцігадовай Юлдашавай, якую яна сказала ўкідаючы бюлетэнь у скрынку. У гэнай прамове яна абяцала ахвярна перавыпаўняць стаханаўскія нормы — каб яшчэ мацнейшай стала краіна. «Правда», штопраўда, ня кажа выразна, але нацякае, што сто-шасьці-гадовая Юлдашава дабраахвотна запісалася на цаліну. Ня менш бадзёра прамовіў васьмі-дзесяці-адна-гадовы Алесь Хвашчэўскі. Ён таксама пагразіў імпэрыялістым і галасаваў за магутнасьць партыі.

Мы ўсім гэным маладым стагодкам жадаем, каб яны ў добрым здароўі дачакаліся хвіліны, калі мы родную партыю і калектыўнае кіраўніцтва, узнагараджваючы за наша шчасьлівае жыцьцё, пашлем на цалінныя землі, дзе яны, жывучы ў чаротавых небаскробах, будуць церабіць кукурузу. Спадзяемся, што Юлдашава і Хвашчэўскі гэтай хвіліны

дачакаюцца, бо калі ўжо перажылі рэвалюцыю, канстытуцыю і сталінскае сонца перартрывалі, дык хіба-ж калектыўнае кіраўніцтва перажывуць таксама.

А мы, пакуль што ўспакоіліся: выбары адбыліся нармальна і ня прынесьлі ніякіх неспадзевак. Усё паводля графіку.

5.3.55 **пс**

## МІЖНАРОДНЫ ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ

У 1910 годзе, на Міжнароднай Канфэрэнцыі жанчын была прынятая пастанова сьвяткаваць штогоду 8-га сакавіка як міжнародны жаночы дзень. У гэты дзень жанчыны адзначаюць свае дасягненьні ў галіне грамадзкай, у справах сям'і, у справах удзелу жанчын у палітычным, грамадзкім і культурным жыцьці, у справе жаночай міжнароднай салідарнасьці.

Падхапіў гэта ў часы Кастрычніцкай рэвалюцыі і камуністычны ўрад Савецкага Саюзу. У вадным з дэкрэтаў Ленін абвесьціў раўнапраўе жанчын, ён кінуў лёзунг: «кажная кухарка можа кіраваць дзяржавай» і надаў ёй роўныя правы **на працу** з мужчынамі. Што-ж дало такое раўнапраўе жанчынам Савецкага Саюзу?

Яшчэ да рэвалюцыі жанчына была гаспадыняй у сваёй хаце й гаспадарцы, верным і чулым спадарожнікам і памоцнікам свайго мужа, карысным удзельнікам у грамадзкім і культурным жыцьці, галоўным-жа ейным прызначэньнем заставалася заўсёды быць маткай. Яна пяшчотна выхоўвала сваіх дзяцей, укладаючы ў гэта свой розум і сэрца. Слова «маці» — найдаражэйшае, сьвятое слова. Яно зь пяшчотай гучыць па ўсім сьвеце сярод цывілізаваных і няцывілізаваных народаў. Яно першае зыходзіць з вуснаў маленькага дзіцяці, зь ім ідуць на гэраічны чын жаўнеры, з матчыным багаславеньнем маладыя пачынаюць сваё новае жыцьцё або паважныя справы. Матчын сьветлы вобраз стаіць перад вачыма кажнага.

Камуністычная рэвалюцыя пазбавіла матку гэтага пачэснага месца й папоўніла жанчынамі працоўную армію «будаўнікоў камунізму». Жанчына ня толькі атрымала роўнае права на працу, але апынулася ў яшчэ цяжэйшых умовах, бо, апрача працы, мусіць яшчэ выконваць і хатнія абавязкі.

Сама камуністычная партыя, у сувязі зь Міжнародным Жаночым днём, адзначае, што: «Мільёны жанчын выяўляюць нявычарпальную энэргію й высокую тэхніку ў прамысловасьці, на транспарце, на будаўніцтве. Сотні тысяч жанчынаў водзяць трактары, камбайны, працуюць на складаных машынах». Радыё Менск 2-га сакавіка гэтага году з нагоды набліжэньня Міжнароднага Жаночага Дня паведамляе, што працоўныя жанчыны БССР на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах і МТС зь вялікім палітычным і патрыятычным уздымам разгортаваюць сацыялістычнае спаборніцтва. За гэтую цяжкую не жаночую працу кіраўнікі-экслёататары направа й налева раздаюць бляшаныя ордэны й мэдалі Савецкага Саюзу, пры гэтым робяць вялікую прапагандовую шуміху й прымушаюць жанчын аддаваць апошнія сілы.

А каб жанчына не адрывалася ад працы на дзяржаўным прадпрыемстве, партыя й савецкі ўрад арганізоўваюць ясьлі, дзіцячыя садкі й піянэрскія лягеры, дзе дзецям прышчэпліваюць ня любоў і пашану да роднае маці й бацькі, а ўбіваюць ім у галаву, што іхняя маці — камуністычная партыя, а бацька — раней быў Сталін, а цяпер, пры калектыўным кіраўніцтве, трэба яшчэ пачакаць, пакуль хто не абвесьціць сябе другім бацькам народаў. Але гэта яшчэ ня ўсё.

Падрасьлі дзеткі, пайшлі вучыцца, некаторым пашчасьціла папасьці ў ВУЗ-ы. Няма межаў матчынаму шчасьцю. Колькі пацехі й надзеяў, што нарэшце, хоць дзеці выб'юцца ў людзі й раптам — урадавы кліч: «На асваеньне цалінных земляў Казахстану й Сібіру». Канец марам. Перарвалі й зламалі жыцьцё. Замест навукі й сьветлае будучыні — катаржныя работы ў цяжкіх умовах, сярод розных нястачаў і суровага клімату. І гэта не на які-небудзь час, а на ўсё жыцьцё!. Няма чаго казаць — забясьпечылі матцы шчасьлівую старасьць!

Няхай-жа гэтыя няшчасьці лягуць на сумленьні Хрушчова, які пастанавіў у гэту непасільную барацьбу з прыродай, на пакуты, кінуць красу й надзею нашае Бацькаўшчыны — беларускую моладзь!

Колькі гора, пакутаў, колькі сьлёз каштавала беларускай жанчыне згуба ейных мужоў, сыноў і дачок у часе апошняй вайны. Колькі іх цяпер гібее па савецкіх турмах і ссылках! І гэта ўсё мусіць вытрымаць матчына сэрца! Мы добра ведаем, што й цяпер сэрца беларускай маці трывожна б'ецца,

як ліхаманкава рыхтуецца савецкі ўрад да новае бойні. Хоць камуністыя ў вапошнія часы аж да хрыпкі крычаць на ўвесь сьвет, што гэтую вайну падрыхтоўвае вольны дэмакратычны сьвет, але-ж гэта найбольшая хлусьня! Наадварот, вольныя краіны гуртуюцца разам, каб ня даць магчымасьці Савецкаму Саюзу пачаць вайну, бо працоўныя вольнага сьвету, як і працоўныя Савецкага Саюзу, вайны ня хочуць.

А мы, жанчыны вольнага сьвету, у тым ліку й беларускія жанчыны, што адарваныя ад роднае Бацькаўшчыны, у дзень жаночага сьвята душой і сэрцам з вамі. Нам хочацца ў гэты дзень сказаць вам, што вы не адны, што з вамі салідарызуюцца жанчыны ўсяго вольнага сьвету, якія вераць, што не далёкі той час, калі жанчыны Савецкага Саюзу ня будуць эксплёатавацца камуністычным рэжымам ды зай муць пачэснае месца ў сям'і й грамадзтве.

7.3.55 **Б. Зязюля**

## ШТО ТАКОЕ ЗЯЛЕЗНАЯ ЗАСЛОНА

Зялезная заслона ёсьць у Беларускім Дзяржаўным Вялікім Тэатры Опэры й Балету. Калі здарыцца пажар на сцэне, ці ў акторскіх пакоях, ці ў майстэрнях тэатру, дык тады спушчаюць ня тую прыгожую суконную ці аксамітную заслону, а зялезную заслону. Патрэбна гэтая зялезная заслона дзеля таго, каб гледачы маглі бясьпечна выйсьці з тэатру і каб ратаваць ад пажару прынамся галоўную часьць тэатру. Зялезная заслона, як бачым, прылада карысная й патрэбная.

За апошнія гады прэса і радыё дэмакратычнага сьвету ўжываюць зварот «зялезная заслона» ў іншым, палітычным сэньсе. Аб гэтым мы і хочам расказаць нашым слухачом.

Вось-жа аднойчы пасьля вайны выступіў на мітынгу вядомы ўсяму сьвету Вінстон Чэрчыль. Ён сказаў, што за зялезнай заслонай апынуліся цэлыя, раней незалежныя, народы Усходняй Эўропы ды іх старадаўнія сталіцы. Чэрчыль меў на ўвазе апанаваныя камуністычнай дыктатурай сатэліцкія краіны. Гэта абазначэньне было такім трапным, што вольны дэмакратычны сьвет ужывае цяпер зварот «зялезная заслона» ў значэньні тых непранікальных межаў, якімі

камуністычная дыктатура адгарадзіла народы Савецкага Саюзу і сатэліцкіх краінаў ад людзей, што жывуць на волі.

Чэрчыль вобразна сказаў чыстую праўду. Зялезная заслона, спушчаная камуністычнымі дыктатарамі, сапраўды існуе паміж краінамі камуністычнай дыктатуры і вольнымі дэмакратычнымі краінамі. Гэта-ж факт, што ніхто ня можа выехаць з Савецкага Саюзу ці з сатэліцкіх краінаў. Камуністычная прапаганда цьвердзіць, што працоўным Савецкага Саюзу жывецца лепш, чымся дзе-небудзь. Аднак людзі ўцякаюць з камуністычнага раю пры першай нагодзе. Таму іх ня пушчаюць за межы. А калі хто й вярнуўся-б з замежнай камандыроўкі, дык мог-бы расказаць, што працоўным у дэмакратычных краінах жывецца куды лепш, чымся ў камуністычных, — якраз адваротнае да таго, аб чым трубіць камуністычная прапаганда. Так, людзі ўцякаюць з сатэліцкіх краінаў, на межах якіх зялезная заслона ня была такой моцнай. Вось некалькі прыкладаў з камуністычнай Польшчы: уцёк на Захад высокі ўрадовец міністэрства бясьпекі Юзэф Сьвятло, капітан цеплаходу «Баторы» Цьвіклінскі, кракаўскі прафэсар Каровіч; два польскія лётнікі ўцяклі ў Данію на сваіх МІГ-ах навейшай канструкцыі.

Уцякаюць людзі навет з савецкіх дыплёматычных прадстаўніцтваў, у тым высокія ўрадаўцы МВД. Вось некалькі імёнаў: Ігар Гузэнка ў Канадзе, муж і жонка Пятровы ў Аўстраліі, Юры Растовраў у Японіі. Увесь сьвет ведае трагічную гісторыю Зінаіды Касэнкінай, якая працавала настаўніцай у савецкім консульстве ў Нью Ёрку. Касэнкіна хацела астацца ў Амэрыцы. Калі яе зачынілі ў пакоі консульства, каб сілком вывезьці ў Савецкі Саюз, яна выкінулася з вакна консульства. З паламанымі касьцямі яе вылечылі ў амэрыканскім шпіталі і яна ўсё-ж засталася ў Амэрыцы.

Бадай-што нікога ня пушчаюць і ў Савецкі Саюз, каб хаваць ад вольнага сьвету мізэрнае жыцьцё працоўных «краіны сацыялізму». Калі час ад часу і прыяжджаюць з за мяжы праверaныя камуністыя або «камуністычныя спадарожнікі», дык яны бачаць толькі тое, што дазволена ўладамі. Юры Растовраў расказвае, як працаўнікі НКВД паказвалі савецкае жыцьцё Амэрыканцу Ўілкі: групу маладых працаўнікоў НКВД, у тым ліку і Растворава, паслалі ў саўгас, каб яны адыгрывалі ролю саўгасьнікаў і прыбралі ўсё як-найлепш да прыезду Ўілкі.

Дзякуючы таленавітасьці, здольнасьці і стараннасьці савецкіх актораў і музыкантаў савецкае тэатральнае мастацтва, у тым ліку і беларускае, стаіць на даволі высокім узроўні. Опэрныя, харавыя, музычныя, балетныя калектывы й ансамблі, ачышчаныя ад прапагандовага шумавіньня, маглі-б мець посьпех у заходняга гледача. Але іх таксама, амаль ніколі, ня пушчаюць за мяжу, асабліва пасьля таго, як Шаляпін не вярнуўся ў Савецкі Саюз. Амаль ніколі ня могуць паехаць на гастролі ў Савецкі Саюз і тэатральныя ансамблі Захаду.

Зялезная заслона ня пушчае ў Савецкі Саюз таксама кніжкі, газэты й часапісы Захаду. Навет паасобныя нумары камуністычных газэт, як «Дэйлі Уоркер» ці «Юманітэ», не прапушчаюцца савецкай цэнзурай. Савецкія-ж кніжкі, часапісы і газэты можна свабодна купляць у кнігарнях і кіёсках заходніх краін.

Калі вы слухаеце радыё, дык вы чуеце няпрыемныя гукі: быццам нехта тупой пілой рэжа іржавую бляху; гэта Саветы заглушаюць у эфіры вольны голас заходніх радыёстанцыяў. Гэта дарагое мерапрыемства і камуністыя трацяць на заглушваньне многія сотні мільёнаў рублёў. Але яны вельмі ашчадныя, калі трэба палепшыць жыцьцё працоўных.

Вось гэткая зялезная заслона гвалціць элемэнтарныя правы і інтарэсы ўсіх катэгорыяў працоўных Савецкага Саюзу і сатэліцкіх краінаў: навукоўцаў, мастакоў, пісьменьнікаў, актораў, інжынераў, работнікаў і калгасьнікаў. Яна адгароджвае іх ад дасягненьняў навукі, тэхнікі, мастацтва й культуры ў вольным дэмакратычным сьвеце. Яна хавае праўду ад іх. Яна перашкаджае мірнаму супрацоўніцтву народаў. Яна адгароджвае сотні мільёнаў людзей ад іхніх братоў, што жывуць на свабодзе.

28.3.55 **Я. Даўгінскі**

## «УЗВЫШША»

Бальшавіцкая дыктатура стварыла люты апарат гвалту над мастацкай творчасьцяй і над усім культурным жыцьцём нашае краіны. Але сумленныя мастакі захоўваюць тайную свабоду і так ці іначай выяўляюць свой супраціў камуністычнай дыктатуры.

1926-ы год зьявіўся ў гісторыі беларускай культуры годам найбольшых уступак партыі беларускаму народу. Гэта быў разгар гэтак званага НЭП-у, калі партыя была вельмі слабай і не магла як сьлед апанаваць стыхійнага нацыянальна-культурнага беларускага руху. Нацыянальны НЭП на Беларусі ў гэтым годзе найбольш выразна выявіўся ў заяве Пленуму ЦК партыі аб тым, што нацыянальныя ўхілы «страцілі сваю вайстрыню». Беларусізацыя набыла найбольшы размах. Тэрыторыя Беларусі была павялічана далучэньнем Гомельшчыны. У Менску адбываецца Акадэмічная канфэрэнцыя па рэформе правапісу. Янка Купала даў найбольш новых вершаў у 1926 годзе. Узьнікае патрэба ўзыходу на новыя ўзвышшы і ўсёй беларускай культуры, літаратуры асабліва. Сярод некаторых маладнякоўцаў узьнікае думка стварэньня новае літаратурнае арганізацыі, як выяўленьне пераходу ад ажыўленства да ўзвышэнства. Дырэктыўны масавізм «Маладняка» змушае вылучыцца зь яго групу фаховых літаратараў і стварыць «Узвышша» як-бы дзеля ажыцьцяўленьня запавету, кінутага Янкам Купалам яшчэ ў 1924 годзе:

Трэба, трэба дзён нямала тысяч
зь беларускім сэрцам, думай
мерыць сьветы, каб вышэй узвысіць
вызваленьне наша з глуму.

І вось у сакавіку 1926-га году Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Зьмітрок Бядуля, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Максім Лужанін, Сяргей Дарожны, Васіль Шашалевіч прымаюць пастанову аб утварэньні літаратурна-мастацкага згуртаваньня «Узвышша». Афіцыйна яно было зацьверджана 26-га траўня 1926 году. Пазьней да «Ўзвышша» далучыліся Антон Адамовіч, Тодар Кляшторны, Фэлікс Купцэвіч, Уладзімер Жылка, Лукаш Калюга, Андрэй Мрый і іншыя.

На балонках часапісу «Узвышша» на працягу наступных гадоў з 1927 па 1930 было надрукавана шмат выдатных твораў, якія ўпрыгожваюць новую беларускую літаратуру. Паэмы Уладзімера Дубоўкі «Наля», «Кругі», «І пурпуровых ветразей узьвівы», «Браніслава» і інш; паэмы Язэпа Пушчы «Цень Консула», «Песьня вайны»; Тодара Кляшторнага «Калі асядае муць», «Беларусь»; вершы Уладзімера Жылкі, сатыра Кандрата Крапівы і Андрэя Мрыя, проза Кузьмы

Чорнага, яго раманы «Сястра», «Зямля», «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленьне», «Ідзі, ідзі» і інш; раманы Зьмітрака Бядулі «Язэп Крушынскі», «Салавей», «Набліжэньне» і інш; творы маладых узвышэнцаў: аповесьці Лукаша Калюгі «Ні госьць, ні гаспадар», «Нядоля Заблоцкіх», вершы й паэмы Максіма Лужаніна, Сяргея Дарожнага і іншых — сапраўды тварылі ўзвышша беларускай літаратуры. Бесьперапыннае разьвіцьцё гэтае літаратурнае дзейнасьці магло-б прывесьці да стварэньня беларускае літаратуры такое якасьці, што яна запраўды зьвярнула-б увагу сьвету і станавіла-б сабою зьяву сусьветнага прызнаньня, якую ўбачылі-б «вякі і народы», як аб гэтым дэкляравала «Узвышша» ў сваёй творчай дэкляраны яшчэ ў першым нумары свайго часапісу за 1927 год. Літаратурная дзейнасьць «Узвышша» станавіла сабою яркі нацыянальна-апазыцыйны кірунак у беларускай культуры. Як такая яна не магла доўга талеравацца партыяй. Апошняя хутка павяла змаганьне з «Узвышшам» як нібыта буржуазным літаратурным аб'еднаньнем. На працягу 1928 і 1929 г.г. на «Узвышша» робяцца напады партыйнага друку ў артыкулах аглобельных крытыкаў Лукаша Бэнды і Канакоціна. Партыя стараецца разьбіць «Узвышша» зь сярэдзіны, нацкоўвае адных на другіх. Аднак «Узвышша» доўга супраціўляецца партыйным вымогам і змагаецца за сапраўднае мастацтва. У 1930 годзе арыштоўваюцца Уладзімер Дубоўка, Адам Бабарэка, Язэп Пушча, Уладзімер Жылка, Васіль Шашалевіч, Антон Адамовіч, пазьней Лужанін, Фэлікс Купцэвіч, Лукаш Калюга, Андрэй Мрый, Сяргей Дарожны. У выніку гэтага, пад націскам партыі «Узвышша» ліквідуецца. Гэтак сілком і гвалтам зьнішчаецца адна з выдатнейшых літаратурных школаў на Беларусі — слаўная ўзвышэнская школа, верхавіна літаратурных дасягненьняў беларускага літаратурнага разьвіцьця.

Сумленныя мастакі, песьняры Беларусі, супраціўляюцца камуністычнай дыктатуры. Яны змагаюцца за свабоду творчасьці. У гэтым зарука вызваленьня й будучага росквіту нашае любае бацькаўшчыны.

3.4.55 **М. Караткевіч**

## «НА ЦЯБЕ, НАША МОЛАДЗЬ, НАДЗЕЯ»

«На цябе, наша моладзь, надзея нашай сумнай забранай зямлі . . .» Словы гэтыя пакінуў сваёй моладзі, як няўмірушчы і нязьдзейсьнены яшчэ запавет, вялікі й несьмяротны Янка Купала ў 1914 годзе. І хоць ад часу напісаньня гэтых радкоў ці мала сьлёз пралілося над нашай зямлёй, кліч гэты й сяньня лунае над паняволенай Беларусяй зь пякучай сілай свайго сучаснага драматызму. У гэтым-жа й моц Купалавага генія, што ён глядзеў у будучыню і выразна бачыў яе.

Жыцьцё Купалы зламала бальшавіцкая тыранія, а сваю нязломнасьць і пратэст у імя лепшае долі для «забранае зямлі» паэта выказаў самагубствам у самой сталіцы насільля над беларускім народам. Купалавым-жа клічам да моладзі беларускі вызвольны рух і далей заве на барацьбу маладое пакаленьне: «Ты разбудзіш прыспаныя сілы і на вольны паклічаш прастор!» Толькі тое, што ў часы напісаньня гэтых слоў было прыспаным, цяпер сталася здушаным, зьняволеным, але разбуджаным. І ў гэтай зьняволенай разбуджанасьці беларускага вызвольнага руху захавана магутная сіла.

Змаганьне за волю беларускага народу, ачольванае калісьці і Купалам, яшчэ ня спынена й цяпер беларуская моладзь павінна адыгрываць у гэтым змаганьні першарадную ролю. Рэвалюцыйнасьць, любоў да свабоды і варожасьць да ўсялякага роду паняволеньня хай-жа заўсёды застаюцца характэрнымі адзнакамі гэтае моладзі. Ужо ляжыць у глыбокай традыцыі беларускага вызвольнага змаганьня, што моладзь займала ў ім заўсёды перадавое месца. Постаці Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, вялікае грамады нашаніўцаў з тым-жа Купалам на чале, сьветлая памяць замучаных ды зьнішчаных на высылках паэтаў Дубоўкі, Жылкі, Пушчы й дзесяткаў іншых, няведамых сяньня ў паняволенай Беларусі, усім сэнсам ахвяры маладога жыцьця заклікаюць сяньня беларускае маладое пакаленьне на перадавыя пазыцыі нацыянальна-вызвольнага руху.

Не дарма мы чуем і з вуснаў нашых старэйшых папярэднікаў: «Моладзь — будучыня народу». Не дарма й Купала, увахoдзячы ў зэніт свайго мастацкага таленту, але будучы ўжо на сьхіле таго веку, што акрэсьлівае фізычную маладосьць, пакінуў за сабой: «На цябе, наша моладзь, надзея. . .»

Таму цяпер і бальшавіцкае паняволеньне нашага краю накіравана сваім галоўным вастрыём на моладзь — на надзею й будучыню беларускага народу. Двумя шляхамі накіроўваецца гэтае паняволеньне: фізычным — высылкамі з роднага краю на неабсяжныя прасторы азіяцкіх пустыняў, і духовым, — яшчэ страшнейшым, — напластоўваньнем на душу й сьведамасьць моладзі чужое культуры ды варожага беларускаму народу матар'ялістычнага сьветапагляду. Беларусь сталася цяпер краем дзікіх экспэрымэнтаў бальшавіцкае нацыянальнае палітыкі — краем, дзе з душы народу высмоктваюць ягоныя жыцьцяносныя сокі, дэмаралізуючы й дэгэнэруючы моладзь.

Мы мусім выразна ўявіць сабе антыбеларускасьць бальшавіцкага наступу. Беларуская моладзь павінна навучыцца распазнаваць варожую ёй задуму пад маскай інтэрнацыяналізму і рэагаваць на яе з ўсёй энэргіяй, не забываючыся на падступнасьць ворага.

З гледзішча на характар паняволеньня Беларусі, галоўнай апорай нашага супраціву павінна стацца беларускасьць вызвольнага руху. «Бо няма нічога шляхатнейшага, як жыцьцё аддаць за сяброў сваіх» — сказаў найвялікшы чалавекалюбец Ісус Хрыстос. Так і для беларускай моладзі, як для моладзі кажнага народу, змаганьне за свой народ павінна стацца найшляхатнейшай адзнакай. Наш абавязак — гэта быць годнымі сваіх папярэднікаў, а таму на працягу ўсяго нашага змаганьня захоўвайма традыцыйны беларускі й антыбальшавіцкі характар барацьбы. Бо сам Купала ў сваім вершы-запавеце, прысьвечаным беларускай моладзі, выразна вызначыў аснову і праграму вызвольнага змаганьня супраць усіх панявольнікаў нашага краю:

«Бяры сьветач, ідзі за судзьбінай —
Ідзі з словам сьвятым «Беларусь»!

22.4.55 **Я. Запруднік**

## НЯ МОГУЦЬ ВЫКАРАНІЦЬ «БУРЖУАЗНЫХ НАЦЫЯНАЛІСТЫХ»

Ува ўсіх савецкіх кніжках, дзе гаворыцца пра гісторыю беларускага народу апошніх дзесяцігодзьдзяў, не прапускаецца ніводнае нагоды, каб ня выказаць на так званых «бур-

жуазных нацыяналістых» войстрых слоў абразы і паклёпніцкае хлусьні. У акцыю ачарняньня сьвежых гістарычных фактаў бальшавікі ўцягнулі сваю «навуку», мастацкую літаратуру і найбольш, зразумела, прапаганду. Аб «буржуазных нацыяналістых», як аб «зьлейшых ворагах беларускага народу» (а ў сапраўднасьці — бальшавікоў), гутарка ня сьціхае й цяпер

Дык хто-ж гэта гэтыя лютыя ворагі бальшавіцкага ладу? Чаму супраць іх камуністычная прапаганда кідае столькі лаянак і пагрозаў?

Калі мы перагледзім бальшавіцкія энцыкляпэдыі, слоўнікі, кнігі і газэты розных выданьняў і гадоў, дык пабачым, што ўжо цэлымі дзесяцігодзьдзямі йдзе зацятае змаганьне з так званым беларускім буржуазным нацыяналізмам. Ведаючы бальшавікоў, кажнаму таксама ведама, што сяродкамі ў змаганьні яны не перабіраюць: дзе льга — у турмы садзяць, дзе нельга дастаць ні куляй ні ланцугом — пускаюць у ход усе прапагандовыя трыкі. І ня гледзячы на гэта, камуністым, якія маюць у сваім распараджэньні мільённую армію ды тысячы сышчыкаў і даношчыкаў, спатрэбіліся цэлыя дзесяцігодзьдзі жорсткага перасьледу, каб усё яшчэ ня скончыць змаганьня з гэным «буржуазным нацыяналізмам». Яго-ж — «буржуазны нацыяналізм» валкавалі нядаўна на трэйцім зьезьдзе беларускіх савецкіх пісьменьнікаў!

Кажуць, каб перамагчы моцнага, трэба самому быць моцным. Бальшавікі заўсёды выказвалі мноства брутальнае сілы ў дачыненьні да сваіх ворагаў. Аднак зьявішча так званага «буржуазнага нацыяналізму» аказалася мацнейшым за сілу камуністычнага зьнішчэньня. Зьявішча гэтае мае ў сабе моц, якое нельга перамагчы ні аружжам ні хлусьнёй. Моц гэтая выцякае із справядлівасьці стаўленых дамаганьняў у імя запраўднае дэмакратычнае дзяржаўнасьці на Беларусі.

Носьбітамі такіх дамаганьняў зьяўляюцца сыны самога беларускага народу, якія зразумелі антынароднасьць бальшавіцкае дыктатуры на Беларусі. Іх камуністыя й ахрысьцілі «нацдэмамі», «ворагамі народу», «буржуазнымі нацыяналістымі». У гэтую мянушку яны ўклалі выключна адмоўны сэнс, як яны ўкладаюць яго ўва ўсё тое, што ім не падарозе, ці супраць іх.

У выдадзеным у 1940-ым годзе «Палітычным слоўніку» так акрэсьліваецца бальшавікамі «буржуазны нацыяналізм».

Гэта «агентура буржуазіі, што выкарыстоўвае нацыянальныя розьніцы між народамі для распальваньня варожасьці між працоўнымі масамі. Мэтай буржуазных нацыяналістых, агентаў замежных разьведак, зьяўляецца зварот панаваньня памешчыкаў і капіталістаў і ператварыць савецкія рэспублікі ў калёніі капіталістычных краін».

Гэтую абсурдную мэту прыпісвае слоўнік разгромленай ў трыццатых гадох шматтысячнай беларускай партыі нацыянальных дэмакратаў, хоць яны ніякай сувязі з заграніцай не падтрымоўвалі і мець яе не маглі. Гэтую-ж мэту прыпісвае сучасная савецкая прапаганда і беларускай эміграцыі, супраць палітычнай дзейнасьці якое камуністыя ўзмоцнілі апошнімі часамі сваю прапагандовую акцыю.

Але што такое эміграцыя? — Той-жа «Палітычны слоўнік», не прадугледжваючы махінацыяў і жанглёрства прапаганды, акрэсьлівае зьявішча эміграцыі — і гэтым разам правільна, — як перасяленьне заграніцу, якое часта выклікаецца палітычнымі перасьледамі.

Вось-жа нічым іншым, як палітычнымі перасьледамі выклікана шматтысячная беларуская эміграцыя сярод мільённае эміграцыі іншых народаў Савецкага Саюзу. Палітычнымі перасьледамі выклікана, супраць іх і змагаецца. Таму характарыстыка палітычных ворагаў камуністычнае дыктатуры на Беларусі, як буржуазных нацыяналістых ды як банды забойцаў і шпіёнаў, ня мае ў сабе найменшае праўдзівасьці. Пад гэтымі мянушкамі застануцца назаўсёды ў камуністычным лексыконе людзі, што змагаюцца супраць камуністычнага палітычнага й сацыяльнага перасьледу на Беларусі, жорсткасьць якога спарадзіла нячуваную яшчэ ў нашай гісторыі палітычную эміграцыю.

3. 5. 55 **А. Галубіцкі**

## БАЛЬШАВІКІ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Багаты, цяжкі й складаны шлях беларускае мовы. У часы Францішка Скарыны на ёй выдаваліся першыя беларускія кнігі. У часы канцлера Льва Сапегі ёю быў пісаны вялікі кодэкс беларускага права — Літоўскі Статут. Пасьля цары выгналі яе з цэркваў і з кніжных паліцаў . . . Але ў вабароне

яе стаў бунтарны Паўлюк Бахрым з Крошына, за яе змагаўся Багушэвіч, яе ўзьняў, як сьветач, Янка Купала сваім мастацкім талентам . . . Цяпер яе калечаць.

У прадмове да свайго зборніка вершаў «Дудка Беларуская» Францішак Багушэвіч пісаў: «Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананьнем, катораму мову займае, а потым і зусім замерлі. **Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі».** Але каб Багушэвіч жыў цяпер у савецкай Беларусі, дык ён выпісаў-бы не чарнілам, а крывёй сэрца гэты свой кліч на брамах савецкіх рэдакцыяў і выдавецтваў ,— гэтых лябараторыяў асымілятарскіх экспэрымэнтаў над жывой беларускай мовай.

Наступ на беларускую нацыянальную культуру, пачаты ў канцы 20-х і пачатку 30-х гадоў масавымі арыштамі найвыдатнейшых дзеячоў гэтае культуры, яшчэ далёка ад свайго канца. З асаблівай сілай ён канцэнтруецца, із зусім зразумелых прычынаў,на дзялянцы мовы.

Зьявішча разьвіцьця, узбагачэньня, а праз гэта й зьменлівасьці мовы — зусім натуральнае. Але толькі ў такім выпадку, калі зьменлівасьць гэтая абумоўліваецца нармальным працэсам разьвіцьця й узбагачэньня мовы народнае, а не праводзіцца згары надуманымі ўказамі.

У беларускай-жа мове ўводжаныя апошнімі часамі зьмены носяць штучны характар ад самага пачатку. У 1933 годзе самым звычайным дэкрэтам бальшавікі выкінулі зь беларускае мовы найхарактэрнейшыя правапісныя й граматычныя асаблівасьці. Разам з гэтым,пры дапамозе цэнзурнага друку, пачаўся таксама зацяты наступ на слоўнікавы фонд мовы. Адным з «акадэмічных» падсумаваньняў гэтае акцыі зьяўляецца выпушчаны нядаўна «Расейска-беларускі слоўнік», у якім беларуская мова, як зацемлена ў прадмове да «Слоўніка», «значна папоўніла лексычны запас коштам слоў роднае ёй расейскае мовы». У выніку гэтага й атрымалася, што ў беларускую рубрыку гэтага «Слоўніка» партыйная цэнзура паўпісвала розныя «ўрачы», «урокі», «абязацельствы» ды тысячы іншых чысьцюсенькай вады русыцызмаў.

Аднак асымілятарская акцыя ў беларускай мове найпаказьней выяўляецца ў штодзённай практыцы савецкіх га-

зэтных і кніжных выдавецтваў, дзе беларуская мова зводзіцца часамі да немагчымага жаргону.

У «Зьвязьдзе» з 8-га красавіка гэтага году быў зьмешчаны артыкул Іванскага пад загалоўкам «Сьляды непатрабавальнасьці», прысьвечаны мове й стылю воргану Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР, часапісу «Полымя«. Аўтар артыкулу слушна сьцьвярджае: «Прыходзіцца канстатаваць, што ўадносінах мовы справа ў „Полымі" абстаіць ня зусім добра . . . Чытаеш часам на старонках „Полымя" той ці іншы твор і міжволі робіш вывад, што асобныя месцы яго нагадваюць мэханічны пераклад з расейскай мовы. «Дык гэта-ж у воргане Саюзу пісьменьнікаў — у часапісе, які павінен стаяць на варце чысьціні беларускае мовы ды быць прыкладам для іншых выдавецтваў. Што-ж, у такім выпадку, можна было-б сказаць пра жаргон «Зьвязды», «Чырвонай Зьмены«, «Піянера Беларусі» ды дзесяткаў іншых рэспубліканскіх, абласных ды раённых ворганчыкаў, што як тыя запушчаныя загоны пазарасталі густым моўным пустазельлем. Глядзіш на гэта й думаеш: як-жа далёка мова беларускага селяніна ад гэтага штучнага прадукту бальшавіцкае моўнае палітыкі. І хопіць параўнаць сяньняшнюю мову «Зьвязды» ці «Полымя» з запраўднай беларускай мовай выдатнага пісьменьніка Кузьмы Чорнага, каб пабачыць жахлівую розьніцу. Параўнаньне гэтае наводзіць думку не на эвалюцыю беларускае мовы, а на штучную асыміляцыю яе.

Аўтар артыкулу аб мове «Полымя« называе гэткі стан «сьлядамі непатрабавальнасьці». Але-ж ці шырока запланаваная русыфікацыя нашае мовы — гэта непатрабавальнасьць паасобных рэдактароў і пісьменьнікаў? Гэтыя апошнія зьяўляюцца толькі прыладай, якая мусіць выконваць бальшавіцкую **патрабавальнасьць** у дачыненьні да беларускае мовы. Бо дэкрэт аб зьмене беларускага правапісу й граматыкі, як і чужыя словы ў беларускай лексыцы, ня меў нічога супольнага зь філялягічнай навукай і быў пададзены да ведама пісьменьнікаў і рэдактароў, як і ўсе іншыя савецкія адміністрацыйныя пастановы.

Таму непатрабавальнасьць застаецца непатрабавальнасьцяй, і яе шмат у беларускіх савецкіх часапісах, але кораня зла, якое бязьлітасна калечыць нашую мову, трэба шукаць у бальшавіцкай асыміляцыйнай палітыцы адносна беларускага народу.

Цэнтралізацыя гаспадарчага жыцьця і стандартызацыя жыцьця культурнага — усё гэта далёка разьлічаныя хітрыкі бальшавіцкае дыктатуры, якія накіраваны на поўны кантроль і поўнае паняволеньне нашага краю.

11. 5. 55 **Я. Запруднік**

## ПАД ПРЫКРЫЦЬЦЁМ ЦАЛІННАЕ РАМАНТЫКІ

У вольным сьвеце бывае звычайна так, што моладзь у сваім арганізацыйным і ідэялягічным жыцьці кіруецца собскімі меркаваньнямі, бяручы ці не бяручы пад увагу традыцыі свайго старэйшага пакаленьня. Арганізацыі моладзі аджыўляюцца там сваімі собскімі сокамі, і гэта забясьпечвае ім свабодны рост і нармальнае разьвіцьцё.

На Беларусі-ж моладзь корміцца ўсё тою-ж перажаванаю старою стравою. Загнаная ў камсамольскія й піянэрскія арганізацыі, яна поўнасьцяй і беспаваротна ўключана ў кругаварот партыйных муштраў. Партыя займела манаполь і над духовай стравай моладзі. Пад ейным цэнзурным вокам пішуцца рэпартажы, апавяданьні, нарысы. У іх хваліцца партыя, дзякуецца партыі, абяцаецца партыі . . . Аднэй з такіх партыйных трыбунаў, зь якое вядзецца ўзгадаваньне беларускае моладзі, зьяўляецца часапіс «Маладосьць», ворган цэнтральнага камсамольскага камітэту.

Тут у ружовых хварбах расьпісваецца жывёлагадоўля, сяўба кукурузы, пяюцца оды Сталіну, Хрушчову і беспрасьветнай працы, ну, і зразумела, размалёўваецца, як вясьняная раніца, ідылія цаліны. Вобразы тут ствараюцца паводля прынцыпу сацыялістычнага рэалізму, гэта значыць высмоктваюцца з пальца і зь небагатае фантазіі прапагандыстых. Аднак час-ад-часу можна тут натрапіць і на зарысоўкі з натуры, хоць дзеля гэтага трэба ўмець чытаць міжрадкоўе савецкай пісаніны. Прасочым гэта на канкрэтным прыкладзе.

Вось апавяданьне «Два пісьмы» у трэйцім сёлетнім нумары Маладосьці». Тэма апавяданьня: цаліна; мэта яго: заахвоціць беларускую моладзь на казахстанскія «курорты»; гэроі апавяданьня: маладзенькі мянчанін Фёдар у казахстанскай палатцы і Марыйка ў далёкай Беларусі.

Характар сацыяльнага заказу падказаў аўтару зраман-

тызаваць апавяданьне, і сапраўды ў ім мноства элемэнтаў рамантыкі: тут і ліст ад каханае, і заранкі на небе, і салодкі пах пульхнага чарназёму, і начны ветрык зь непаслухмянай чупрынай, і шмат падобнага. Ну, і зразумела, на гэтым зрамантызаваным фоне — радасныя думкі-мроі сямнаццацігадовага юнака . . . Цаліна, здаецца, не пяшчаная пустыня Азіі, а райскі агарод, у якім поўна каханьня й маладых лятуценьняў . . .

Але ўсё, што пішацца з мэтай хлусьні й зману, а гэта значыць вялікая бальшыня ўсяе савецкае пісаніны, павінна чытацца насьцярожана і ўмела. Трэба вучыцца чытаць самому і вучыць іншых гэтага мастацтва.

Бо вось і ў апавяданьні «Два пісьмы» пад прыкрыцьцём мройнае прыкрасы, быццам нявінныя й мімаходныя ўстаўкі, тырчаць калючкі цалінных пакут. Адкіньма-ж пустаслоўную рамантыку апавяданьня і гляньма, што захавана пад ёй:

«Няласкава сустрэў стэп навасёлаў, — чытаем у вапавяданьні. — У першую-ж ноч у дарозе пачалася завіруха. Вакол зрабілася цёмна, а зь неба валіліся гурбы сьнегу; вецер скуголіў, стукаў у вокны, урываўся ў дзьверы вагончыка.» Гэта Фёдар прыехаў на цаліну. Пасьля праскуголіла неяк зіма, прамінула вясна, лета, і Марыйка піша зь Беларусі, што там восень ужо . . . Фёдар гэтым часам грыз нарогам цаліну ды глытаў казахстанскі пыл. Пасьля бадай году працы, ён ужо не сядзіць у вагончыку, хаваючыся ад сьцюжы, а ляжыць на тапчане ў палатцы, хаваючыся гэтым разам ад гарачыні. Вось ягоныя дзённыя перажываньні ў краі сацыялістычнае рамантыкі:

«Фёдар варочаўся з боку на бок, але заснуць ня мог, хоць стомленасьць адчувалася ўва ўсім целе, — пачынаецца апавяданьне. — Гэта-ж ня жарт — за зьмену амаль удвая перавысіць норму. Некалькі разоў ламаліся нарогі аб цьвёрды пласт дзёрну (гэта там, дзе «соладка пахне пульхным чарназёмам»). Ведама, вякамі някранутая зямля! А гарачыня! Дыхаць няма чым. Карычневы пыл завалок увесь далягляд. А тут яшчэ другія суткі ня прывозяць прэснай вады. Прабавалі піць з азярыны, ды вада там занадта салёная. Пад канец дня Фёдар ужо ледзь перасоўваў рычагі на трактары. А тут яшчэ, як на грэх, пажар у стэпе. Тушыць хадзілі ўсёй брыгадай. Вяртаючыся ў стан на начлег, ён думаў: От толькі-б дабрацца да тапчана і заснуць».

Вось як выглядае цаліна, калі ад яе адкінуць пудру прапаганды: — скалелая, сасмаглая і безнадзейная . . . Толькі-б дабрацца да тапчана . . . Уся-ж хлусьлівая рэшта ў вапавяданьнях, нарысах і прыватных лістох, падаваных праз радыё й газэты — гэныя заранкі на небе, ветрык і няведама адкуль узяты салодкі пах сакавітага й пульхнага чарназёму — гэта крыклівы хвальш савецкае прапаганды. Пры дапамозе гэтых мыльных пузыроў бальшавікі стараюцца заманьваць беларускую моладзь у край бязьмежных стэпаў, карычневага пылу і жорсткіх тапчаноў у палатках.

12. 5. 55 **Я. Запруднік**

## НЯСТАЧА ПРАЦОЎНЫХ РУК І ВЕСНАВАЯ АПАТЫЯ

Ёсьць такая пагаворка: «Што пасееш — тое й пажнеш». Ейнае значэньне: чалавек атрымоўвае паводля сваё працы і ўчынкаў. Але разумець яе можна і ў ейным даслоўным значэньні: што пасееш — тое й пажнеш, а, значыць, тое і мець будзеш. У пагаворцы гэтай захована ня толькі народная мудрасьць, але й прыроднае права чалавека — магчы карыстацца пладамі сваё працы. Права гэтае людзі маюць шмат дзе, нажаль, не на Беларусі . . . Там — што пасееш, калі ўсьпееш, тое й пажнеш, калі ўсьпееш, але мець гэтага ня будзеш.

Дык першым чынам, на Беларусі трэба сеяць. Трэба нагвалт працоўных рук на гэтую гарачую сэзонную пару. Трэба ахвоты да працы, гарачых сейбітаў, ня гледзячы на тое, што дзесяткі эшалёнаў зь беларускай моладзяй зьнікаюць у пустынным Казахстане. А Беларусь зь бяды прапаганда будзе выцягваць. Яна ўжо знайшла выхад зь нястачы працоўных рук

«Зьвязда» з 15-га красавіка піша: «Трэба аблясіць больш за 40 тысяч гэктараў зямель дзяржлесфонду і пасадзіць 12,9 тысячы гэктараў лесу ў калгасах . . . Лесакультурныя работы супадаюць з пачаткам палявых работ . . . Да пасадак і сяўбы лесу трэба шырока прыцягнуць школьнікаў . . .» Пры гэтым, як даведваемся з тае-ж «Зьвязды», «амаль усе працаёмкія работы лесгасы рэспублікі праводзяць уручную».

Побач з заклікамі на цаліну, менскае радыё падае 4-га

травеня: «Вырошчваць кукурузу ў Магілёўскай вобласьці хлебаробам дапамогуць вучні . . . У сярэдніх школах створана 418 зьвеньняў.»

Ну, дапусьцім, што вучні беларускіх школаў дапамогуць і лес засадзіць уручную, і кукурузу пасеяць, і бульбу пасадзіць. Але-ж вясна і сяўба — гэта толькі пачатак вялікага кругу потнае працы, якая аж увосень і пазьней зможа аплаціць сваім ураджаем працавітага хлебароба. Гэтая вось надзея падтрымоўвае кажнага, хто ўкладзе ў зямлю свой цяжкі высілак. Не падтрымае яна толькі нашага селяніна, загнанага ў калгасную павуціну дарэмнае працы. Бо хіба-ж па тое чалавек працуе, каб ня мець?. . .

Із свае горкае практыкі беларускі калгасьнік ведае, што пот ягоны ніколі не аплачваўся. І цяпер, як сьцень, за ягонымі плячыма стаяць з пустымі мяшкамі ненасытная дзяржава, і партыя, і бюракраты. З плянамі сусьветнае рэвалюцыі і захопу цэлага сьвету, іх ніколі не задаволіць ні ўраджайная Беларусь, ні пяшчаны Кустанаўскі край . . .

Добры гаспадар сам знае, калі, як і што яму трэба сеяць і садзіць. І калі ён ведае, што працуе для сябе й для сям'і, дык яму не патрэбны заклікі да працы ды бязупынная тарабаншчына аб выконваньні нормы. Але бяда таму краю, дзе вечны працаўнік зямлі ня ведае, што яму сеяць; дзе яму ўсёроўна, што пасеецца; дзе яго трэба ўгаворваць і падганяць, каб ён наагул браўся за сяўбу . . . працаваць на карысьць чужое справы ў нікога рукі ня горнуцца.

Таму ня дзіва, што й беларускія калгасьнікі і школьныя вучні выходзяць у поле безнадзейныя і яшчэ больш перакананыя ў дарэмнасьці іхнае працы.

Аб настроі гэтым добра ведае бальшавіцкая дыктатура, і таму сяньня над Беларусяй гучыць столькі парадаксальных заклікаў, каб падахвоціць хлебароба засяваць зямлю . . .

16. 5. 55 **Я. Запруднік**

## КУКУРУЗНАЯ ГАРАЧКА

Пасяўная кампанія на Беларусі ў гэтым годзе адзначаецца надзвычайным павялічэньнем пасеваў кукурузы. У Маскве на нарадзе працаўнікоў сельскай гаспадаркі нечарназёмнай паласы Хрушчоў самаўпэўнена даводзіў:

«Шмат хто з нашых вучоных распаўсюджваюць няправільныя погляды, быццам-бы кукуруза паўдзённая культура, што абсяг яе высьпяваньня абмежаваны. Гэта няправільна. Цяпер мы, як-бы ,,вызвалілі'' кукурузу й знайшлі мэтазгодным зьбіраць яе ў малочна-васкавой сьпеласьці, не даводзячы яе зерне да сухога стану. Тым самым мы скасавалі межы распаўсюджваньня гэтай культуры».

У выніку «навуковага» адкрыцьця Хрушчова, камуністычныя кіраўнікі на Беларусі, каб дагадзіць сваім маскоўскім гаспадаром, забавязалі калгасы засеяць у гэтым годзе аж 300 тысяч гэктараў кукурузаю, хоць у мінулым годзе было засеяна толькі 48 тысяч гэктараў.

Навука аб сельскай гаспадарцы цьвердзіць, што кукуруза любіць цяпло, добра апрацаваныя й угноеныя глебы. Пасевы кукурузы патрабуюць шмат пільнага дагляду. Кукуруза высьпявае толькі ў паўдзённых краінах, а ў Савецкім Саюзе асноўная мяжа высьпяваньня кукурузы, як падае савецкая сельскагаспадарчая энцыкляпэдыя, праходзіць ад Жытоміра, Кіева, Нежына, Курска, Варонежа, Тамбова, Пензы, Куйбышава. Але якую моц маюць навуковыя высновы й досьледы? Камуністычная верхавіна зажадала, каб кукуруза расла і высьпявала ня толькі на поўдні СССР, але на Беларусі, Калыме і ў Котласе, бо гэтая «цудоўная культура», як называе яе савецкая прэса, прызначана выратаваць заняпалую жывёлагадоўлю і павялічыць зборы збожжа.

Першае знаёмства калгасьнікаў Беларусі з кукурузай адбылося ў мінулым годзе. Як піша газэта «Советская Белоруссія», «ня ўсюды ўдала прайшоў досьлед укараненьня кукурузы. Частка пасеваў зусім прапала». У Грэскім раёне ў калгасах частка кукурузы засталася на зіму на полі. У калгасе імя Сталіна Сіроцінскага раёну бадылямі кукурузы уцяплялі хлявы. Таму зусім зразумела, што калгасы на нашай бацькаўшчыне недаверліва і з засьцярогаю сустракаюць у гэтым годзе кукурузу, якую Крэмль настырліва прымушае сеяць. Больш таго, беларускім калгасам прапануецца адмовіцца ад пасеваў ячменю, аўсу, кармавых буракоў, бо камуністычная прапаганда лічыць гэтыя культуры малавартаснымі і неўрадлівымі.

Беларускія калгасьнікі ведаюць, што сотні гэктараў найлепшых і добра ўгноеных земляў пад кукурузай ня прыня-

суць карысьці, якую суляць ім камуністычныя кіраўнікі. Таму савецкая прэса ўпарта стараецца выяўляць так званых кукурузных сцэптыкаў. Газэта «Советская Белоруссія» з 26-га сакавіка гэтак пісала аб тых, хто ўхіляецца ўкараняць кукурузу: «супраціў сцэптыкаў прыймае розныя формы і сцэптыцызм іх знаходзіць розныя праявы.» Ня вераць калгасьнікі, што пасевы кукурузы зьяўляюцца найвартасьнейшай збожжавай культурай. Ня вераць у кукурузны цуд і спэцыялістыя сельскай гаспадаркі. Як адзначае газэта, яны «жмуцца», «мнуцца» і ня вераць у магчымасьць атрыманьня на Беларусі высокіх ураджаяў кукурузы.

Падчас калгаснага ладу наш народ ня раз перажываў наступ розных камуністычных экспэрымэнтаў, якія прынесьлі толькі шкоду. Калгасьнікі Беларусі памятаюць, як у пару кампаніі раньняга севу іх прымушалі ў сакавіку сеяць грэчку. Не забыліся, калі няведамая на Беларусі соя навязвалася калгасам Беларусі, як каштоўнейшая культура. Памятаюць калгасьнікі, калі ў севазвароты палёў былі прымусова ўключаны пасевы шматгадовых траваў.

Усе гэтыя авантурныя экспэрымэнты ў сельскай гаспадарцы практыка перакрэсьліла. Але непрадуманыя камуністычныя наватарствы дорага абходзіліся беларускаму сялянству.

Цяпер калгасьнікаў мучыць новая хвароба, кукурузная гарачка, — зараза, занесена хворай фантазіяй Хрушчова.

17. 5. 55 **С. Сімановіч**

## ЧАМУ ПУСТУЮЦЬ АСУШАНЫЯ ЗЕМЛІ

На XIX зьезьдзе камуністычнай партыі ў 1952 годзе савецкі генэрал-губэрнатар на Беларусі Патолічаў выносіў Сталіну лісьлівыя падзякі за ягоныя нязьлічоныя клопаты аб беларускім народзе з прычыны ўключэньня ў пяцігадовы гаспадарчы плян асушэньня Палескай нізіны. Ніякай ласкі беларускаму народу зьезд камуністычнай партыі не зрабіў. Наадварот, было дзіўным, што пры сучаснай тэхніцы ўрадлівыя землі Палесься дзесяткамі гадоў ляжаць мёртвым капіталам, не асушанымі.

Патолічаў на зьезьдзе камуністычнай партыі гаварыў, што Палеская праблема ўвесь час хвалявала беларускі

народ. З таго часу прайшло амаль тры гады. Што-ж зроблена, каб вырашыць сапраўды гэтую хвалюючую праблему, каб ператварыць тарфянікі Палесься ў урадлівыя палі й сенажаці? Патолічаў з уласьцівым камуністычным самахвальствам абяцаў, што «вада будзе сабраная, а ейная разбуральная сіла будзе ператворана ў электраэнэргію». Звычайная камуністычная прапаганда. Да гэтага часу ў Палесьсі не пабудавана ніводнай гідраэлектрастанцыі. Наадварот, як піша газэта «Сельское хозяйство» за 20 красавіка гэтага году, больш чым на аднэй траціне мэльяраванай плошчы асушальная сетка каналаў так запушчана, што прыводзіць да забалочваньня навет ужо асушаных зямельных вучасткаў. Хвалёная савецкая «магутная тэхніка» працуе вельмі дрэнна і марудна. На паседжаньні Вярхоўнага Савету Беларускай ССР 30-га сакавіка гэтага году дэпутат Вінакураў гаварыў: «Пачынаючы з 1951 году, 200 машынна-мэліярацыйных аддзелаў МТС зрабілі гэтулькі, колькі яны могуць зрабіць сваёй тэхнікай за адзін год». У Азарыцкай МТС пяцьдзесят вусенічных трактароў і дваццаць восем балотных плугоў. За мінулы год гэтая МТС узарала толькі па шэсьць гэктараў балотаў на трактар.

Заступнік міністра мэльярацыі БССР Зубец зьмясьціў у газэце «Сельское хозяйство» за 20-га красавіка гэтага году трывожны артыкул «Скарэй асвоіць асушаныя землі на Беларусі», у якім кажа, што больш за 200 тысяч гэктараў асушаных зямель не выкарыстоўваюцца. У калгасе імя Суворава, Даманавіцкага раёну, з 810 гэктараў асушаных балотаў занята пад пасевамі толькі 228 гэктараў. Вялізарныя плошчы багатых урадлівых земляў зарастаюць пустазельлем, хмызьняком і дробным лесам. Пры разумным выкарыстаньні гэтыя землі маглі-б даць мільёны пудоў збожжа і іншых каштоўных сельскагаспадарчых прадуктаў.

Што-ж перашкаджае выкарыстаць землі? Папершае, калгасьнікі не зацікаўлены ў выкарыстаньні пасеўных плошчаў, бо ўсім набытым на калгаснай зямлі распараджаецца савецкая дзяржава, а калгасьнікам застаюцца на працадні мізэрныя рэшткі збожжа і бульбы. Падругое, — беларускія калгасы абязьлюдзелі, у іх працуюць пераважна жанчыны, не хапае сілы і магчымасьці выконваць усё новыя й цяжэйшыя заданьні пашырэньня пасеваў лёну, бульбы, коксагызу. А цяпер калгасы ў БССР павінны засеяць на лепшых землях 300 тысяч гэктараў кукурузы.

Адначасна тысячы Беларусаў галоўным чынам з калгасаў сыстэматычна вывозяцца на асваеньне цаліны. ТАСС з 28-га красавіка гэтага году паведаміў, што толькі сёлетняй вясной 22 новыя збожжавыя саўгасы Казахстану былі ўкамплектаваны выключна Беларусамі.

Ненасытная хрушчоўская цаліна адрывае дзесяткі тысяч Беларусаў з родных земляў. Таму і пусьцеюць беларускія вёскі. Адна зь беларускіх праблемаў ператварэньня ў квітнеючую ўрадлівую нізіну прынесена ў вахвяру фантастычнаму жаданьню Хрушчова выдабыць ваенныя запасы збожжа з засушлівых, саланчаковых стэпаў Сібіру й Казахстану.

18.5.55 **С. Сімановіч**

## КАМУНІСТЫЧНЫЯ ЦЕМНЯРЫ І НАРОДНАЯ АСЬВЕТА

Бальшавіцкая прапаганда робіць шмат шуму вакол так званае народнае асьветы ў СССР. Пачынаючы ад 121-га параграфу фікцыйнае савецкае канстытуцыі аж да сьвежа выдадзенае Вялікае Савецкае Энцыкляпэдыі, усюды з уласьцівай камуністым прапагандовай тарабаншчынай бэсьціцца стан народнае асьветы ў так званым буржуазным сьвеце, каб на гэтым фоне заявіць, як гэта робіць 29 том успомненае энцыкляпэдыі: «Аб зьдзейсьненьні народнае асьветы ў шырокім і поўным значэньні гэтага слова можна гаварыць толькі ў СССР». А XIX-ты зьезд камуністычнае партыі Савецкага Саюзу пусьціў у гэтым кірунку яшчэ адну мыльную бурбалку — ён прызнаў неабходным завяршыць да канца пяцігадовага пляну, які канчаецца ў 1955 годзе, пераход ад сямігадовага да ўсеагульнага сэрэдняга навучаньня ў сталіцах рэспублік і буйных гарадох СССР.

Гляньма цяпер, чым зьяўляюцца ў запраўднасьці савецкія канстытуцыйныя параграфы й цьверджаньні так званае энцыкляпэдыі ды чаго вартыя пастановы камуністычных зьездаў, накіраваныя быццам на палепшаньне быту савецкае моладзі.

Ад пастановы XIX-га партыйнага зьезду прайшло ўжо амаль тры гады. Дабягае да канца і чарговая пяцігодка, затое «пераход да ўсеагульнага сярэдняга навучаньня» ў сталіцы беларускае рэспублікі яшчэ далёкі навет ад свайго запачаткаваньня.

Сумны й жалюгодны вобраз прадстаўляе сабой народная асьвета ў беларускай сталіцы, у якой 9 тысяч маладых людзей змушаны здабываць яе ў так званых школах моладзі. Умовы, у якіх гэтая моладзь намагаецца здабыць сабе пачатковую ці сярэднюю асьвету, як-жа розьняцца ад ружовага сьвятла, у якім хлусьлівая камуністычная прапаганда паказвае народнае навучаньне ў СССР.

Калі мы прыгледзімся бліжэй, хоць навет і на аснове толькі савецкіх, далёка няпоўных, дадзеных, да штодзённае практыкі ў галіне народнае асьветы, дык пабачым, як жорстка абходзіцца бальшавіцкая дыктатура зь беларускай працоўнай моладзяй. Гэтая моладзь экспляатуецца на хвабрыках і прадпрыемствах і ня мае нат мінімальных магчымасьцяў папоўніць свае агульныя веды. Партыі бо патрэбны мускулы й мазалі гэтае моладзі, а ня іхная адукацыя. Пры гэтым і самая моладзь і ейныя бацькі змушаны нікчэмным узроўнем жыцьця, да якога давяла іх дыктатура, у першую чаргу працаваць, каб хоць як-небудзь пракарміцца й адзецца.

«Зьвязда» з 24-га красавіка гэтага году з заклапочаным выглядам заклікае: «Клапаціцца аб вучобе беларускае моладзі». Колькі ўжо такіх «заклікаў» перапісала савецкая прэса і перагаварылі партыйныя прапагандыстыя! Нажаль, працоўнай моладзі ад гэтага і дасюль не палягчэла здабываць асьвету. Бо ў тэй-жа «Зьвязьдзе» чытаем: «Шмат якія ведамствы і прадпрыемствы мала дапамагаюць школам . . . Нярэдка на прадпрыемствах затрымліваюць вучняў вячэрніх школ на звышчасовыя работы. З гэтай прычыны пакінулі школы №15 і 7 дзесяткі рабочых трактарнага заводу, а школа на заводзе імя Кірава наагул была закрыта. Усяго ў горадзе пакінулі школы сотні хлапцоў і дзяўчат, закрыта вялікая колькасьць клясаў-камплектаў. На цагельным заводзе №2 больш за 500 хлапцоў і дзяўчат ня маюць сямігадовай і сярэдняй адукацыі, а паступіла ў школу ў пачатку навучальнага году толькі 27 чалавек, 10 зь якіх «адсеяліся». Міністэрства асьветы БССР у даўгу перад настаўнікамі работніцкае моладзі . . . » Так, ці толькі перад настаўнікамі работніцкай моладзі і ці толькі Міністэрства Асьветы?

У Саветах заведзена ўжо так, што партыйныя дыктатуры заўсёды знаходзяць вінаватага. Кажны можа ім стацца, толькі ня партыя й ня рэжым. Але найлепш гэтых вінаватых бачыць самая беларуская моладзь, загнаная экспля-

ататарскай дзяржавай на беспрасьветную хвабрычную стаханаўшчыну. Яна бачыць і чым далей, тым лепш разумее, што ні шырокага достаупу да асьветы, ні свабоды асьветы ня будзе датуль, пакуль у нашым краі будуць панаваць камуністычныя цемняры й ненавісьнікі праўдзівае народнае асьветы.

7.6.55 **Я. Запруднік**

## РЭВІЗОР У КАЛГАСЕ
### (Гумарыстычны абразок)

Дзеючыя асобы:

1. Іван Іванавіч Ёлопов — рэвізор ад Абкому партыі.
2. Леанід Піліпавіч Няўдалін — старшыня калгасу.
3. Мая Львоўна Асьпенка — калгасны аграном.
4. Васіль Захарэвіч — стары, спрактыкаваны калгасьнік.
5. Ганна — калгасьніца.

Дзея адбываецца ў калгасе «Чырвонае Шчасьце» на Беларусі. У калгасным клюбе аграном Мая Львоўна Асьпенка чытае калгасьнікам лекцыю.

**Аграном** (гаворыць з «савецкім» акцэнтам): Дык як бачыце, таварышы, з мае лекцыі ясна вынікае, што кукуруза — гэта найбольшае дабрадзейства, якім абдарыла камуністычная партыя й савецкі ўрад наш беларускі народ. Кукуруза — гэта довад няўтомных клопатаў аб нас нашай савецкай дзяржавы. Ня было-б камуністычнай партыі і яе мудрай студзенскай пастановы — ня было-б і кукурузы. Хай жыве камуністычная партыя!

(Воплескі)

**Захарэвіч** (плешча даўжэй за іншых, крыху зь гіроніяй): Дазвольце, таварыш аграном, мне, старому калгасьніку, як той казаў, у парадку дыскусіі . . . Я вось хачу прыпомніць, што нятолькі кукурузай абдурыла . . . Цьфу! — хацеў сказаць — абдарыла нас наша родная партыя. Да сьмерці ніхто не забудзецца аб такіх, як той казаў, дабрадзействах, як калгасы, аграгарады . . . Усё гэта нам прынесла камуністычная партыя. Але вось скажэце, таварыш аграном, чаму для нас зь яе толку няма?

**Аграном** (хуценька): Што вы сказалі? Што вы сказалі? (Павальней) З партыі толку няма?!

**Захарэвіч:** Ды не — я гавару аб апошнім, як той казаў, ейным дабрадзействе — кукурузе. Ня родзіць нешта яна ў нас. Вось у мінулым годзе . . .

**Старшыня** (перабівае): У мінулым годзе, таварыш Захарэвіч, была іншая сытуацыя. Я, як новы старшыня, адразу зразумеў студзеньскія пастановы пленуму ЦК КПСС і ўсе арганізацыйныя недахопы ў гэтым калгасе. (Сякучы). У гэтым годзе ўсё ўлічана.

**Захарэвіч:** Але-ж ня толькі ў нас не ўрадзіла — і ў іншых калгасах было тое самае.

**Старшыня** (срога): Як відаць, таварыш Захарэвіч, вы ня цікавіцеся прэсай. У раённай газэце было ясна сказана — я-ж сам пісаў — што ў калгасе «Шлях Леніна» вінавайцай за неўраджай была МТС, у калгасе «Ударнік» вінаваты аграном, у калгасе «За Радзіму» — старшыня. А наагул — пасьля паездкі нашых правадыроў у Югаславію — стала ясна, што ўва ўсім вінаваты Бэрыя. (Урачыста). Цяпер, узброеныя студзенскай пастановай партыі . . .

**Ганна** (убягае, задыханая): А Бо-жа-ж мой! Нейкі рэвізор прыехаў. На самай «Пабедзе» кажуць, з ордэнам. Пэўна з самога цэнтру. І проста сюды прэ . . .

**Старшыня** (дрыжучы): Рэвізор?! Спакойна, таварышы, спакойна! Нам няма чаго баяцца. Мы з гонарам выконваем усе пастановы партыі. (Ціха). Ганна, бяжы загані мае сьвіньні й каровы ў калгасную фэрму. І бухгальтара папярэдзь — ён знае, што рабіць. А жонцы скажы, каб закуску рыхтавала! (Чуваць гук самаходу. Старшыня ў голас). Мы, таварышы, усе за студзенскія пастановы . . .

**Рэвізор** (стукае й адразу ўваходзіць): Здрасьце! (Не чакаючы на адказ): Дык гэта, стала быць, і ёсьць калхоз «Чырвонае Шчасьце»?

**Старшыня** (нясьмела): Дазвольце, товарыш . . . (зацяўся).

**Рэвізор:** Іван Іванавіч Ёлопов, прэдседацель Камісіі па выкананьні студзенскіх пастановаў пры Райкоме партыі. А вы, стала быць, прэдседацель калхоза?

**Старшыня** (бойка, павайсковаму): Так точна, таварыш продком! Леанід Піліпавіч Няўдалін, былы старшыня райвыканкому. На загад партыі дабраахвотна адкамандыраваны ў калгас, каб падзяліцца арганізатарскай практыкай з

калгасьнікамі для буйнага ўздыму сельскагаспадарскай вытворчасьці. Я, тав. Ёлопов — выбачце, тав. продком...

**Рэвізор** (перабівае, ласкава): Для Вас — проста Іван Іваныч. Я віджу, што Вы свой чалавек. Я ведзь таксама толькі нядаўна на гэтым адказным пасту. Раней быў завторгканторы...

**Захарэвіч:** А мы, тав. начальнік, ужо даўно, як той казаў, на гэтым адказным пасту. Ой, даўно...

**Рэвізор:** І мяне пакліканьне даўно ўжо цягнула да прыроды. Тут рэчка, шум лесу...

**Захарэвіч** (хутка ўстаўляе): І кукуруза...

**Рэвізор:** Стала быць, па душы й я калхозьнік... (Паказваючы на агранома). А гэта што за маладая лічнасьць?

**Старшыня:** Гэта наш аграном.

**Аграном** (нясьмела): Дазвольце прадставіцца: Мая Львоўна Асьпенка. Скончыла поўны курс агітатараў і прысьпешаны курс аграномаў.

**Рэвізор:** І як работа?

**Захарэвіч** (умешваецца): Яна ў нас, як той казаў, удалася, таварыш начальнік. За 2 месяцы ўжо ячмень ад жыта адрозьнівае.

**Рэвізор** (больш срога): А як з кукурузай?

**Захарэвіч:** З кукурузай? Хм — студзенскія пастановы напамяць ведае...

**Старшыня** (перабівае): Мы, Іван Іванавіч, за новыя мэтады. Па маёй ініцыятыве, Мая Львоўна ўжо 22 лекцыі прачытала аб значэньні студзенскіх пастановаў. А то як я сюды прыехаў, дык стары аграном больш сядзеў і з грудкамі зямлі вазіўся.

**Рэвізор:** Адабраю, адабраю. (Афіцыйным тонам). Я, таварышы, чалавек акцыі. Таму прапаную пайсьці і агледзець пасевы кукурузы.

**Старшыня:** А можа Іван Іванавіч галодны? Можа-б зрабілі мне гонар і перакусілі ў мяне?

**Рэвізор:** Вы, відно, ня чулі новай песьні: «Первым делом, первым делом кукуруза...»

(Адыходзяць, на полі).

**Старшыня:** Вось мы, можна сказаць, і на месцы.

**Рэвізор:** Гм, дык гэта і ёсьць кукуруза?

**Захарэвіч:** Ды ня гэта, таварыш начальнік. Кукуруза з другога боку. А гэта каноплі!

**Рэвізор:** Ка-ноплі?! Таварыш аграном, ці ў студзенскіх пастановах гаварылася пра каноплі?

**Аграном:** Гаварылася, таварыш прэдком.

**Рэвізор:** Адабраю. Але я тут па кукурузнай лініі.

**Аграном:** Як бачыце, таварыш заўком, яна ў нас пасаджана па апошніх дырэктывах партыі — квадратна-гнёздавым спосабам.

**Рэвізор:** Квадратна-гнёздавым, кажаце? Добра. Самае важнае, што гнёздавым. А як з гноем?

**Аграном:** І гною давалі.

**Захарэвіч** (з дакорам): Найлепшы гной сюды ўвалілі. Праўда, яго ў нас шмат і ня было.

**Рэвізор** (урачыста): Таварышы! У дапаўненьне да студзенскіх пастановаў, таварыш Хрушчоў заявіў, што ў кажнае гняздо кукурузы трэба класьці па поўкіляграма гною. Ад кукурузы залежыць камунізм. Стала быць, з гэтага відаць ясна, што гной — гэта фундамант камунізму.

**Захарэвіч:** Вось дык праўда! І Ленін лепш не сказаў-бы.

**Рэвізор** (працягвае): Я, таварышы, былы работнік торгканторы. Таму я ведаю, што калі таварыш Хрушчоў казаў пра поўкіляграма, дык меў на ўвазе 500 грамаў. Не 490 і не 510, таварышы! Таму на наступны раз прыказваю ўжываць вагу. А за вытворчасьць гною раблю адказным асабіста вас, таварыш прэдседацель!

**Старшыня:** Для партыі й таварыша Хрушчова я гатоў на ўсё, Іван Іванавіч. Усе свае арганізатарскія здольнасьці аддам.

**Рэвізор** (ласкава): Я так і знаў. Ну, а цяпер можна й адпачыць. Абавязкі выкананыя.

**Старшыня** (лісьліва): Дык можа Іван Іванавіч, да мяне? На сьвінінку ды на чарку-другую гарэлкі?

**Рэвізор** (ціха): Спадзяюся, самагонка не кукурузная?

2. 7. 55 **Архіп Паплiска**

## «НЯ ЧУВАЦЬ ГОЛАСУ АГІТАТАРА»

Пад гэткім трывожным загалоўкам у 190-м нумары «Зьвязды» зьмешчаны вялікі артыкул карэспандэнта гэтай газэты з Гарадзішчанскага раёну. Коратка прыпомнім дра-

матычны ўступ. Вось-жа карэспандэнт галоўнага воргану ЦК КПБ, Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў БССР падглездзіў страшэннае злачынства. Раніцамі каля сельмагу зьбіраюцца калгасьнікі: адны сядзяць, іншыя стаяць і гутараць хто аб чым. А ў гэтым часе брыгадзіры паляводчых брыгадаў абходзяць дамы і заганяюць на жніво. Абразок, здавалася-б, нармальны ў калгасным жыцьці: кажны, як хто можа, выкручваецца ад работы. Але карэспандэнт «Зьвязды» робіць з гэтага цікавыя і панашаму хвальшывыя вывады: «. . . Пагутарыць зь людзьмі, сказаць ім аб тым, што ў гэтую гарачую пару ўхіляцца ад грамадзкай працы проста злачынства, дапамагчы брыгадзіру — пачэсны абавязак агітатараў! . . » — крычыць «Зьвязда». Здаецца, што ворган ЦК і розных саветаў папаў як куляй у плот. Хто ў нас на вёсцы да калгаснага прыгону меў дачыненьне з агітатарам? А тым больш, хто патрабаваў агітацыі, каб выходзіць на работу ў часе жніва і зьбіраць свой ураджай?

Далей «Зьвязда» з разьдзіраючай роспачай скардзіцца: «Калгасьнікам ніхто не растлумачыў рашэньняў ліпенскага пленуму ЦК КПСС! . . .» Калі «Зьвязда» запраўды верыць, што гэта памагло-б, тым горш для яе, як перадавога воргану . . .

Каб падмацаваць гэтыя бязглуздыя гіпатэзы, газэта цытуе нараканьне даяркі Надзі Ермаловіч: «Мы жывём як на востраве. Нам не паведамляюць аб важнейшых падзеях, што адбываюцца ў краіне й за яе межамі . . .»

Ня ведаю, ці сапраўды даярка Ермаловіч так перажывае, што ня чула аб выпадках у партугальскай калёніі Гоа або ня ведае, на якім курорце адпачывае Хрушчоў. Але калі навет і так, дык вельмі сумлеўна, што ад гэтага, калі-б яна даведалася, ейныя нізкія надоі малака маглі-б павялічыцца. Затое напэўна-б малака прыбавілася, каб лепш карміла жывёлу. Але каб лепш карміць, трэба мець чым, каб мець чым, трэба, каб людзі мелі зацікаўленьне ў працы. А як мы бачылі з вышэй сказанага, гэтага зацікаўленьня няма. Ня выкрасіць яго і гэтая цэлая зграя, бо аж 700 агітатараў, якія, як мы таксама даведаліся, абіваюцца ў Гарадзішчанскім раёне, а голас якіх падобна замала чутны. Навет, каб кажны з гэтых 700 агітатараў разьдзесяцярыўся і кажны агітаваў 28 гадзін у суткі — нічога не паможа, бо сама калгасная сыстэма — справа дохлая.

У 189-м нумары гэтай-жа «Зьвязды» мы вычыталі, што ў перадавым калгасе «Сьцяг перамогі» Пінскага раёну, які хоча звацца «калгасам-мільянэрам», летась калгасьнікі атрымалі на працадзень 1-2 кіляграмы збожжа, 3 рублі 50 капеек і 6 кіляграмаў сена. «Зьвязда» піша гэта з захапленьнем, але на нашу думку, гэта крышку зашмат, каб памерці з голаду, але шмат замала, каб працаваць з бурным уздымам. Дык што-ж тады атрымоўвае на працадзень калгасьнік зь сярэдняга калгасу, які ня меў гонару трапіць на бачыны «Зьвязды», як прыкладны, перадавы і мільянэр.

З чым-жа тады гэта тысячная зграя агітатараў мае ісьці да эксплёатаванага і крыўджанага калгасьніка? Таму ня дзіва, што ня чуваць голасу агітатара, як плача «Зьвязда», а калгасьнікі ў часе, калі перасьпелае жыта высыпаецца, хаваюцца ў цень, або, сабраўшыся ля пустога сельмагу, «гутарацць хто аб чым . . .»

Думаем, што каб Хрушчоў і ЦК зьелі тое, што ім жадаюць калгасьнікі, гутарачы «хто аб чым», цяжка ім было-б выдыхаць.

Адзін ёсьць лек на хваробу нашай гаспадаркі: загнаць камуністычных прыганятых і армію агітатараў капаць сілосныя ямы, а зямлю аддаць селяніну.

8. 9. 55

пс

## ПЕРШЫ БОЙ ЭМІГРАЦЫЯ ВЫЙГРАЛА

Абвешчаная прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету СССР амнэстыя для гэтак званых «калябарантаў» зь гітлераўскім акупантам, што знаходзяцца ў савецкіх турмах і лягерах, як і ў вольным сьвеце на эміграцыі, ня была для нікога на Захадзе неспадзеўкай. Гэта было лёгічным працягам заініцыяванае й кіраванае савецкімі ворганамі бясьпечнасьці ведамай афэры пад назовам «Камітэту за паварот на бацькаўшчыну» і мела свой прэцэдэнс у форме такіх-жа амнэстыяў у некаторых сатэлітных краінах. Крэмль вялікадушна здабыўся на гэты крок, бо ён яму абсалютна нічога не каштаваў. Тым ня меней, завуаляваная мэта гэтай амнэстыі, падыктаванай так-жа матывамі «гуманнасьці», як афіцыйна сказана ў законе аб амнэстыі, а што несамавіта гучыць у вуснах савец-

кіх верхаводаў, ды напасьледак вялікая прапагандовая шуміха, што ў сувязі з гэтым узьнялася, змушае нас затрымацца на гэтым пытаньні.

Як ведама, апошняя амнэстыя ёсьць восьмай з чаргі амнэстыяй ад часу захопу ўлады бальшавікамі, і другой у дачыненьні да палітычных эмігрантаў. Праўда, пасьля абвешчаньня сямёх папярэдніх амнэстыяў нейкая, хаця і невялікая, колькасьць зьняволеных, якіх амнэстыя датычыла, была апынулася на волі. Але ўсе гэтыя амнэстыянаваныя былі ў кароткім часе ўзноў арыштаваныя й зьнішчаныя за прыпісаныя ім іншыя праступкі, якіх яны ніколі не зрабілі. Дык ці-ж ёсьць хоць маленькая гарантыя, што гэтак ня будзе з амнэстыяванымі на падставе апошняй амнэстыі? Няма абсалютна ніякай! Наадварот, добра ведаючы жахлівую сыстэму савецкага тэрору й бяздонны цынізм савецкага «праваcудзьдзя», трэба быць цьвёрда перакананымі, што ўсе звольненыя на падставе цяперашняй амнэстыі і ўсе тыя, што маглі-б у яе паверыць і вярнуцца з эміграцыі на бацькаўшчыну, гэта жалюгодныя кандыдаты для хуткага папаўненьня савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў.

Але дапусьцім на хвіліну, што гэтым разам бальшавікі перасталі быць бальшавікамі і датрымаюць свайго слова. Амнэстыя, між іншым, звальняе з турмаў і канцэнтрацыйных лягераў усіх засуджаных за супрацоўніцтва з акупантамі да дзесяці год зьняволеньня. Але-ж як ведама, за супрацоўніцтва з акупантам у Саветах судзілі ў 1944 годзе, бо ў гэты час ужо ня было Немцаў на савецкай тэрыторыі, а найпазьней у 1945 годзе, калі скончылася вайна. Ад гэтага часу ўжо мінула дзесяць год, дык і выпускаць з турмаў і лягераў, паводля гэтага пункту амнэстыі, тады няма каго! Гэты пункт закону аб амнэстыі наглядна паказвае, што савецкія верхаводы навет як сьлед не прадумалі свайго закону й дапусьцілі яўную недарэчнасьць. Гэта яшчэ адзін лішні довад, што ўся амнэстыя была задумана нясур'ёзна.

Няма найменшага сумлеву ў тым, што амнэстыя мае адыграць ролю пасткі, хітра застаўленай на палітычных эмігрантаў з Савецкага Саюзу, якіх ёсьць шмат у кажнай краіне вольнага сьвету. Гэтыя эмігранты зьяўляюцца на Захадзе жывымі сьветкамі ўсіх бальшавіцкіх злачынстваў, дакананых над народамі Савецкага Саюзу. Яны дакладна інфармуюць Захад аб запраўдным палажэньні ў Савецкім Саюзе,

эфэктоўна супрацьдзеяць камуністычнай прапагандзе і гэтым самым робяць выдатны ўплыў на публічную апінію заходніх грамадзянстваў. Вось чаму эміграцыя з Савецкага Саюзу зьяўляецца гэтак страшнай і небясьпечнай для бальшавікоў, што яны не шкадуюць ані аграмадных высілкаў, ані вялізарных грошаў, каб хоць частку яе занадзіць дамоў і там зьнішчыць, а тых, што ня пойдуць на гэтую прынаду, застрашыць і прымусіць маўчаць.

Усе гэтыя бальшавіцкія мерапрыемствы й намаганьні — гэта распачлівы бой супраць эміграцыяў, мэтай якога ёсьць пазбавіць яе вялікай і пачэснай ролі шырэньня ў вольным сьвеце праўды аб Савецкім Саюзе ды прамаўляньня церазь зялезную заслону да сваіх суродзічаў на бацькаўшчыне.

На працягу шасьцімесячнай дзейнасьці ўсходнябэрлінскага «Камітэту за паварот на бацькаўшчыну» толькі лічаныя адзінкі паслухалі яго заклікаў і вярнуліся на бацькаўшчыну. Як потым выявілася, у бальшыні былі гэта замаскаваныя агенты савецкай разьведкі, якія на загад вярнуліся ў Савецкі Саюз, каб гэтым паказаць, што заклікі гэнага Камітэту не падаюць у пустую. Асноўная-ж маса эмігрантаў ня толькі не паверыла запэўненьням Камітэту, але ягонай яўна правакацыйнай дзейнасьці дала station адпор. Яна яшчэ болей змабілізавала свае сілы й павяла яшчэ больш станоўчае змаганьне з бальшавізмам за вызваленьне сваіх краінаў і народаў. Гэткім чынам эмігранты першы бой з бальшавікамі бліскуча выйгралі. Цяпер-жа, з мамэнтам абвешчаньня амнэстыі пачалася новая фаза змаганьня бальшавікоў супраць эміграцыі й за эміграцыю. Ёсьць усе падставы быць цьвёрда перакананымі, што і гэты другі бой эміграцыя таксама выйграе.

3.10.55 **Ст. Станкевіч**

## ШТО ДАЎ «КАСТРЫЧНІК» БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ?

Лютаўская рэвалюцыя 1917 году, — гэта адна з найвялікшых сусьветных падзеяў. Яна яшчэ раз давяла, што кажнаму зьдзеку ўлады над народам бывае канец. Яна яшчэ раз даказала, што народ — гэта вялізарная сіла, якая можа рваць наймацнейшыя ланцугі няволі. Яна, урэшце, паказала, як бездапаможна слабымі аказваюцца падчас народнага

гневу тыя, хто злоўжывае ўладай. Гэта рэвалюцыя засталася й да сяньня вартаснай лекцыяй, аб якой не павінны забывацца народы Савецкага Саюзу, паняволеныя бальшавікамі — гэтымі хвальшывымі спадкаемцамі рэвалюцыйнае спадчыны.

Беларускаму народу 1917 год прынёс шмат чаго і добрага, і благога, трагічнага. Перш за ўсё лютаўская рэвалюцыя ў вялікай меры прыскорыла замацаваньне беларускага вызвольнага руху на найважнейшай сяньня пазыцыі Акту 25 Сакавіка, якім легальныя прадстаўнікі нашага народу абвесьцілі сваю незалежную дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку. Ужо ў самы навет рэвалюцыйны 17-ы год, Беларусь — занядбаная заходняя акраіна калішняе царскае імпэрыі — наважана выйшла на міжнародную арэну з дамаганьнем сваіх нацыянальных правоў. Абвешчаную адразу-ж пасьля рэвалюцыі незалежную беларускую дзяржаву прызналі дэ юрэ 6 вольных краін, а дэ факто — 4. 1917 год выявіў таксама і варожыя адносіны да Беларусі. Адзначыў гэта найвыразьней кастрычніцкі пуч. Разгромам бо Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў сьнежні гэтага-ж году бальшавіцкі штых зафіксаваў назаўсёды варожае й няпрымірэнчае настаўленьне беларускага народу да камуністычнае дыктатуры. Пазьней, спачатку нясьмела, а потым што раз больш нахабна, бальшавікі пачалі ліквідаваць усё, што было здабыта нашым народам у часе рэвалюцыі. Першым чынам, сілай аружжа ліквідавалася дзяржаўная незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі. Аднак узбуджаны нацыянальны рух у народзе бальшавіком было цяжка здушыць. Яны змушаны былі лічыцца зь беларускім фактарам у сваёй нацыянальнай палітыцы на Беларусі і хаця-нехаця дазволіць беларушчыне замацаваць свае здабычы і ўстанавіць хоць фікцыйную БССР. Гэтым і выясьняецца буйны росквіт беларускай эканомікі й культуры ў першае пасьлярэвалюцыйнае дзесяцігодзьдзе. Навуковыя й культурныя вартасьці, створаныя ў гэты пэрыяд у Савецкай Беларусі ды ўзгадаваныя ў гэтым часе кадры нацыянальнае эліты маюць і да сяньняшняга дня першараднае значэньне.

Пачынаючы аднак з 30-х гадоў замацаваная бальшавіцкая тыранія на Беларусі паступова ператварыла «кастрычнік» у сымбаль тэрору й нячуванага ціску. Здабытыя нацыянальныя каштоўнасьці пайшлі на зьнішчэньне. Сялянства

сілай было ператворанае ў калгасных парабкоў. Цьвет беларускае інтэлігенцыі апынуўся ў турмах. Пачалі нішчыцца музэі, архівы ды бібліятэкі. На зьнішчаным культурным і гістарычным багацьці бальшавіцкія дыктатары пачалі сеяць хлусьню аб рэвалюцыі ды аб нас саміх. А цяпер, пасьля доўгагадовае чысткі людзей і архіваў, бальшавіцкая прапаганда прыпісвае камуністым незаслужаныя імі здабычы ў 1917 годзе.

Сяньня абтрасаючы з усяго прапагандовага савецкага хламу, гэтак званую кастрычніцкую рэвалюцыю трэба прызнаць за грабаўшчыка лютаўскай рэвалюцыі 1917 году. Выбух народнага гневу ў лютым 1917 году быў лягічным завяршэньнем тае несправядлівасьці й зьдзеку, якія стагодзьдзямі панавалі ў царскай імпэрыі, у васаблівасьці над нерасейскімі народамі. Але прыйшоў кастрычніцкі пуч, які ашукаў прывабнымі лёзунгамі ўзьнятыя да новага жыцьця народы, фактычна пахаваў рэвалюцыю і прынёс, замест яе, рэакцыю, дыктатуру, тэрор.

Дык не сьвяткаваць, а праклінаць трэба бальшавіцкі кастрычніцкі пуч.

7. 11. 55 **Я. Запруднік**

## ПРАЎДА АБ КАСТРЫЧНІЦКІМ ПЕРАВАРОЦЕ НА БЕЛАРУСІ

Сёлетні кастрычніцкі парад у беларускай сталіцы Менску ,як падае савецкая прэса й радыё, ачольвалі ўдзельнікі кастрычніцкага перавароту. Гэтыя жывыя сьветкі маглі-б шмат чаго расказаць аб характары й ходзе кастрычніцкіх падзеяў на Беларусі, захаваных сяньня пад густым напластаваньнем хлусьні й хвальсыфікацыі. Але навучаныя жыцьцём пад бальшавіцкай тыраніяй, гэтыя людзі толькі маўкліва дэманструюць на парадах. Яны й навялі нашу думку на **запраўдныя** падзеі на Беларусі ў кастрычніку—лістападзе 1917 году. Аб гэтым і будзе тут гутарка.

Як ведама, Беларусь у часы кастрычніцкага перавароту была прыфрантавой паласой. На беларускай тэрыторыі густа разьмясьціліся расейскія арміі. Гэтая азброеная маса якраз і зьявілася выврашальным фактарам бальшавіцкіх здабычаў. Справа бо ў тым, што пасьля лютаўскае рэвалюцыі,

бальшавіцкаму дэмагагічнаму выкарыстоўваньню настрояў жаўнерскіх масаў безініцыятыўныя прадстаўнікі Часовага ўраду не маглі нічога супрацьставіць, акрамя дэклямацыяў пра «высокія ідэялы». Бальшавікі на заходнім фронце тады яшчэ былі малакольkaсныя. У лютым яны яшчэ ня мелі тут навет свае партыйнае арганізацыі. У створаным у сакавіку Менскім савеце работніцкіх і салдацкіх дэпутатаў бальшавікі доўгі час мелі вельмі нязначную меншыню. Таму, ведаючы сваё бясьсільле, на сакавіковым сходзе менскай арганізацыі РСДРП яны падтрымоўваюць прапанову стварэньня агульнай партыйнай арганізацыі гэтак званай «аб'еднанкі» ды ствараюць сваю собскую арганізацыю. 1-га верасьня на франтавой партыйнай канфэрэнцыі бальшавікоў дэлегацыі рэпрэзэнтавалі сабой толькі 2.530 сяброў, што для цэлага заходняга фронту не зьяўлялася лічбай вялікай.

Калі 26-га кастрычніка бальшавікі даведаліся пра падзеі ў Петраградзе, яны загадам абвесьцілі пра пераняцьце ўлады ў свае рукі. Тут варта адцеміць, што падзея гэтая ня выклікала ніводнага стрэлу. Аднак, калі прышлося праводзіць у жыцьцё свой папяровы пераварот, дык гэтая справа аказалася ім не пад сілу. Яны выпрабавалі яшчэ раз тактычны ход — уступаць у вагульную арганізацыю, каб выкарыстаць супраціўніка для сваіх мэтаў. Яны кінуліся на падманлівую ідэю ўтварэньня «адзінага сацыялістычнага фронту». Ім запрапанавалі ўступіць у «Камітэт ратаваньня рэвалюцыі», куды яны ахвотна ўваходзяць. Пад прыкрыцьцём «Камітэту» ды ўласцівых бальшавіком дэмагагічных лёзунгаў, яны адразу-ж робяць усе захады, каб здабыць збройную падтрымку. 2-га лістапада (стары стыль) для падтрыманьня бальшавіцкага менскага савету прыходзіць панцырны цягнік ды сьцягваецца 60-ы сібірскі полк. У той-жа самы дзень бальшавікі парываюць з «Камітэтам ратаваньня рэвалюцыі» ды другі раз абвяшчаюць пра пераварот. Франтавы камітэт капітулюе, і гэтак пытаньне ўлады стала разьвязана на шкоду рэвалюцыі.

Усе гэтыя падзеі ня мелі аднак ніякае арганічнае сувязі з шырокімі масамі беларускага народу. Яны адбываліся ў часова прабываючай на Беларусі арміі, якая была галоўным дзейнікам вырашэньня падзеяў. Беларускі нацыянальны рух ня меў спачуваньня ні ў прадстаўнікоў часовага ўраду, ні ў камандаваньня расейскай арміяй, ні ў бальшавікоў. Таму бе-

ларускае насельніцтва ня мела ніякага дачыненьня да ўстанаўленьня бальшавіцкае ўлады на Беларусі, і ў складзе першых органаў бальшавіцкае ўлады на Беларусі Беларусаў ня было.

Чужое паходжаньне бальшавіцкае ўлады на Беларусі нядвузначна прызнаюць і самі бальшавікі. Гэтак, нядаўна міністар МВД БССР Цанава ў сваёй трохтомнай працы, выдадзенай у Менску некалькі год таму, пад загалоўкам «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашыстоўскіх захопнікаў» у томе 2-ім, на бачыне 726 піша:

«. . . перамогу савецкай улады на Беларусі ў значнай меры забясьпечыла тая акалічнасьць, што тут праходзіў заходні фронт, на якім былі сканцэнтраваныя масы работнікаў і сялянаў цэнтральных раёнаў Расеі, апранутых у жаўнерскія шынэлі.»

Аб гэтым-жа цьвердзіць і шматгадовы сакратар ЦК КПБ Кнорын у сваёй кніжцы «1917 год у Беларусі й на заходнім фронце», дзе ён пісаў: «заснавальніцай і творцай камуністычнай арганізацыі была старая бальшавіцкая гвардыя, закінутая на Беларусь вайной зь Ленінграду, Масквы, Іванава». І ў іншым месцы: «ад расейскага бальшавізму, ад РСДРП (бальшавікоў), а не ад нацыянальна-сацыялістычных партыяў ідзе гісторыя камунізму на Беларусі».

Характэрна таксама, што і ў пачатковых назовах бальшавіцкіх арганізацыяў і органаў на Беларусі словы «Беларусь — беларускі» навет не ўспаміналіся, а былі ўведзены пазьней, у сувязі з абвешчаньнем 25 сакавіка 1918 году незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі.

Такім чынам бальшавізм на Беларусі — зьява наносная, чужая ня толькі па сваім духу, але й па запраўдных падзеях, яна фактычна накінута сілай армейскага штыха.

11. 11. 55 **Я. Запруднік**

## НЯ Ў СЛУЖБУ, А Ў ДРУЖБУ
## АБО СЯБРОЎСКАЯ ПАРАДА ТАВ. ХРУШЧОВУ
**(Фэльетон)**

Галоўнае — ня падаць духам, тав. Хрушчоў! Ведаю, што вам нялёгка: і цаліна падвяла, кукуруза сьвіньню падлажыла . . . Адным словам, ня круты ўздым, а простае-ткі сьвін-

ства. Але найбольш крыўдна за кукурузу, бо цаліна далёка. Што там пару сотняў тысяч малакасосаў падмарозіць, дык не такія-ж ахвяры рабіліся для камунізму. Хай там бязвусыя патрыёты больш фізкультурай займаюцца, калі ня хочуць замерзнуць. А вось з кукурузай дык дрэнь: і яна ў кажнага на вачох, кажны бачыць, кажны цішком крытыкуе . . . Восень ужо канчаецца, і тут ужо не схаваеш, што зь яе столькі карысьці, як з казла малака. Ува ўсім вінаваты сцэптыцызм: дзе людзі не аднесьліся сцэптычна да кукурузы, там кукуруза да людзей. І выйшла, што на ёй ня то што камунізму ня збудуеш, але й сьвіней не накорміш.

А такі-ж быў гэніяльны плян! Першым чынам — пастанова за бліжэйшыя пяць-шэсьць гадоў атрымаць 10 мільярдаў пудоў збожжа. Ужо за гэта адно вам належала-б імя мудрага. Але гэта быў толькі першы пробліск. Ня ў прыклад іншым, вы, тав. Хрушчоў, пайшлі далей: не абмежаваліся толькі пастановай, але й вымазгавалі, як яе выканаць. Ну, пра цаліну лепш успамінаць ня будзем. І вось вы пачалі разважаць: калі мы рэвалюцыянеры, дык і ў сельскай гаспадарцы трэба карыстацца рэвалюцыйнымі мэтадамі. Такімі кансэрватыўнымі збажынамі як жыта, ячмень ды розныя аўсы дзесяці тысяч мільярдаў пудоў і да другога прыходу Маркса не наскрабеш. Затое кукуруза — вось дык збажына! Гэта ўжо не збажына, а проста зернявая культура. Параўнай шышку кукурузы з коласам, скажам, жыта: і сьляпы розьніцу пабачыць. Мала таго: і савецкім грамадзянам будзе добра, і сьвіням прыемна. Грамадзяне будуць мамалыгу есьці, а сьвіньні сілас уплятаць. Інакш кажучы, сацыялістычны рай, як рукой падаць. Толькі контррэвалюцыянер мог-бы сумлявацца ў геніяльнасьці гэтага пляну.

Але тут перашкодзіў ува ўсім сцэптыцызм, і то ня толькі людзей, але й самой кукурузы. І будуй ты пасьля гэтага камунізм!

Ваша роспач, тав. Хрушчоў, зусім зразумелая. Але ведаеце прыказку: ня мей сто рублёў (хай навет і савецкіх), а мей сто сяброў. Таму дазвольце мне прыйсьці вам з парадай.

Выбачце за такую сьмеласьць, але я сабе падумаў: як-ніяк, але мы ўсё-ж сябры па прафэсыі. Я-ж таксама быў пастухом, і меў час на філязафаваньне.

Сьцьвердзіўшы, што сацыялістычны рай зноў зьнік за гарызонтам пасьля няўдачы з кукурузай, пачаў я мазгаваць.

Пастанова-ж аб дзесяці мільярдах пудоў збожжа ўсё яшчэ ў сіле!

І што-б вы думалі — прыдумаў. Вышэй галаву, тав. Хрушчоў: ёсьць плян на наступны год! Ёсьць выхад! Калі дазволіце мне гэтую сьмеласьць, дык ня горшы, і навет ня менш геніяльны, як ваш!

А выхад гэты складаецца з трох літараў. Каб вас больш ня мучыць, скажу адразу: БОБ. Так, наш беларускі боб! Кукуруза ня вытрымоўвае зь ім ніякага параўнаньня: вага, ваґа якая! І агледзецца не дамо капіталістычным акулам, як дзесяць мільярдаў пудоў набярэм. Усім хопіць: і людзям, і сьвіньням — навет сіласныя ямы ня будуць патрэбны. Лепшага фундамэнту для камунізму ня прыдумаеш. Хіба-ж ведаеце, якія аб бобе прыказкі ў народзе ходзяць.

Я ўжо адсюль бачу, што вы раптам задумаліся, тав. Хрушчоў. «Так», кажаце вы, «але-ж боб не зернявая культура, аб якіх гаворыцца ў пастанове».

Дарэмныя хваляваньні, тав. Хрушчоў: я й аб гэтым падумаў. Ці-ж партыя й урад не ўсемагутныя? Я ўжо навет і праект указу накідаў. Слухайце толькі:

«Указ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР аб пераводзе бобу з бабовых у зернавыя культуры.

За прадбачаныя заслугі бобу ў сацыялістычным сельскім гаспадарстве, перавесьці боб з бабовых у зернавыя культуры.

Старшыня Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета СССР — Варашылаў,

Сакратар Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета СССР — Пегаў».

Ці ня гэніяльна, тав. Хрушчоў? Так што не марнаваць часу: адразу-ж брацца за пасяўную кампанію. І галоўнае — не задумоўвацца. Вам ужо-ж усё роўна больш нічога не пагражае, як — як кажуць вашы-ж суродзічы — «остаться на бобах».

20. 11. 55 **Архіп Папліска**

## КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА

### (Да 35-ай гадавіны Слуцкага паўстаньня)

### (Мантаж)

(Першая зваротка «Восеньскае песьні» з уступам)

Падае лісьце, падае з клёнаў
Музыкай жоўтай, сумам чырвоным.

(Песьня паволі заціхае)

Была восень. Клёны атрасалі зь сябе апошнія лісьцінкі. Яны ляцелі ўніз, значачы зямлю залатымі водблісками, накладаючы новы вузор на пацямнелы ўжо дыван. А туманы апушчаліся што раз ніжэй, малочна-белай паваломкай ахутваючы гаі, поле, вёскі. Восень — лістапад. Лістапад 1920 году на Случчыне.

Чаму — на Случчыне? Ці было інакш у Меншчыне, Смаленшчыне, Віленшчыне, на Палесьсі? Мо ня было там клёнаў, туманоў?

Неспакойна было на Случчыне. Яна, як і ўся Беларусь, цярпела на сабе ўзноў ворагаў-акупантаў. З Усходу сунуліся цяпер найстрашнейшыя зь іх — бальшавікі. На сваім шляху яны таптылі ўсё беларускае. Не маглі яны пагадзіцца з тым, што Беларусь не хацела быць забаўкай у іхных руках, што яна вуснамі сваіх сыноў, выбраных сваім народам, векапомным Сакавіковым Актам 1918 году абвесьціла сьвету аб сваёй непахіснай волі самой кіраваць сваім лёсам, быць гаспадаром у сябе. І таму бальшавікі, ідучы з клічамі аб роўнасьці й свабодзе, арыштоўвалі, нішчылі кажнага, хто пасьмеў сказаць, што Беларусь — ня іхняя, што яны — акупанты!

Случчакі пастанавілі: трэба бараніць Случчыну, бараніць Рэспубліку. 14-га лістапада, ейныя прадстаўнікі зьехаліся ў Слуцак, каб яшчэ раз сказаць сьвету аб сваіх правох. Нядоўга яны радзілі: ня пісалі даўгіх пратаколаў, не спрачаліся за драбніцы. У сваёй рэзалюцыі, проста, некалькімі сказамі выказалі ўсё: што гатовы ўсе сілы аддаць на адбудову Беларускае Народнае Рэспублікі, што пратэстуюць супраць новага паняволеньня, якое рыхтуюць ёй бальшавікі. Выбралі зь сябе Раду Случчыны, якой аддалі ўладу й адказнасьць.

Тыдзень пазьней, Рада абвесьціла ў сваёй дэкларацыі, што яна «. . . дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі ды бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў, і ў выпадку патрэбы — навет

сілай аружжа, ня гледзячы на лічбовую перавагу ворага, думаючы, што нашая справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе»...

(Пры апошніх словах ціха ўводзіцца апошняя зваротка «Мы выйдзем...» і паступова ўзмацньяецца.)

27-га лістапада 1920 году Першая слуцкая дывізія пачала няроўны бой. З сабою панесла сьцяг, вышыты рукамі слуцкіх жанчынаў — матак і сёстраў паўстанцаў. На ім былі словы: «Тым, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

Вышываючы гэты надпіс на сьцягу, слуцкія жанчыны ведалі, што іхныя сыны й браты йдуць на сьмерць. Ці раз мы чуем аб такіх выпадках, калі маці ахвяроўвае сваё жыцьцё, каб выратаваць дзеці. Няма для маці нічога даражэйшага, як сваё дзіцё, ёю ўскормленае, ёю ўзгадаванае.

Ці можам мы тады ацаніць, ці ў сілах мы навет уявіць усю веліч бязьмежнае ахвярнасьці слуцкіх матак, што аддалі найдаражэйшае, бо даражэйшае навет за собскае жыцьцё — каб жыла Бацькаўшчына? Няма меры для гэтай ахвяры, як ня было меры для адданасьці Бацькаўшчыне тых, што пасылалі сваіх сыноў, і тых, што йшлі паміраць за яе.

(Пры апошніх словах уводзіцца апошняя зваротка «У гушчарах» — паступова ўзмацняецца).

Пад Капылём, Цімкавічамі, Вызнамі, пад Быстрыцамі, Верабейчыкамі, Васільчыкамі, Чарнагубавам, Васілішкамі, Дашновам, Лютавічамі, Мацкевічамі — Першая слуцкая дывізія, а зь ёю ўся Беларусь прыймала баёвы хрэст у змаганьні супраць найбольшага ворага ўсяго чалавецтва — бальшавізму. Пад іхным ударам ламаліся рады ў дзесяткі сільнейшага колькасна ворага. На заклік паўстанцаў пачалі пераходзіць на іхны бок чырвонаармейцы. Бачучы гэта, бальшавікі кінулі супраць іх свае найлепшыя аддзелы, зложаныя з азіяцкіх камуністых. Паўстанцы вялі няроўнае змаганьне, яны значылі родную зямлю сваёй крывёй, раськідаючы на ёй сьвежыя наспы-магілы ейных сыноў-гэрояў, што ўжо выканалі запавет, памерлі ў баі — каб жыла Бацькаўшчына.

Сьцягнуўшы ўсе свае сілы за раку Лань, паўстанцы працягвалі змаганьне. Ужо цэлы месяц прайшоў у бязупынных баёх. Не хапала зброі, амуніцыі. Паўстанцы здабывалі яе ў контратаках у ворага. Але сілы бальшавікоў усьцяж узрасталі: яны падкідалі ўсё новыя й новыя аддзелы. 28-га сьне-

жня Слуцкая дывізія мусіла перайсьці польскую лінію.

Ня было чаго спадзявацца помачы ў той час і ад Палякаў. Яны адразу раззброілі ды інтэрнавалі Слуцкую дывізію.

Шмат паўстанцаў, у час агледзіўшыся, не далося раззброіцца: яны пайшлі ў лясы, назад — змагацца да апошняга. Ізноў значылі яны слуцкія сасоньнікі сваёй крывёй, магілямі.

Штогод страсаюць клёны свае апошнія лісьцінкі ў лістападзе. Штогод спавіваюць туманы зямлю. Там, на Случчыне яны ўжо 35 год пяшчотна ахутваюць невялікія ўзгоркі — магілы бязіменных змагароў — тых, што паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына.

(Жалобны марш і на фоне яго верш «Над магілай герояў»)

Слава вам, Гэроі Случчыны! Слава за вашу бязьмежную ахвярнасьць. Ідучы паміраць, вы ведалі, што ваша кроў — не апошняя. Вашай ахвяры не забудзецца ня толькі Беларусь, але і ўвесь вольны сьвет, што пазнаў небясьпеку бальшавізму, у змаганьні супраць якога вы адны зь першых аддалі сваё жыцьцё. Аддалі вы яго недарма, бо:

«Калі ночы ёсьць, мусіць быць раньне,
Мусім крыўды зьлічыць векапомныя,
Дык-жа чуйце вы, сэрцы нязломныя:
Гімн змаганьня — вось песьня на сяньня!»

(Пяецца апошняя зваротка «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»).

26. 11. 55 **Ул. Цьвірка**

## «ПЕРАМОГІ» ТРЫЦЦАЦІТЫСЯЧНІКАЎ У КАЛГАСАХ

У 1955 годзе камуністычная партыя Савецкага Саюзу паслала трыццаць тысяч камуністых на становішчы старшынь у вадстаючых калгасах. Прафэсыйны склад трыццацітысячнікаў быў розны. Сярод іх былі сакратары райкомаў, дырэктары трэстаў, начальнікі цэхаў заводаў, выкладчыкі навучальных установаў. Ніякіх ведаў аб сельскай гаспадарцы, арганізацыйнай структуры калгасаў, разуменьня жыцьця й быту калгасьнікаў ад сваіх давераных партыя ня вымагала. Ад іх вымагалася толькі выконваць няўхільна дырэктывы партыі. Новыя старшыні калгасаў былі накіраваны на працу

ў ліпені й жніўні, на час жніва й выкананьня розных нарыхтовак.

На Беларусі ў калгасы былі накіраваны 892 трыццацітысячнікі. Такім чынам больш чым пятая частка ўсіх старшыняў калгасаў была заменена новымі прыганятымі.

22 і 23 лістапада таго-ж году ў Менску адбылася спэцыяльная нарада старшынь калгасаў трыццацітысячнікаў. ЦК камуністычнай партыі ўдзяліў шмат увагі гэтай нарадзе. У часе зьезду ў газэтах былі зьмешчаны артыкулы трыццацітысячнікаў зь пералічэньнем дасягнутых перамогаў у калгасах. Ды й самая нарада насіла характар справаздачаў новых старшыняў калгасаў. Вось на гэтыя матар'ялы мы й зьвернем увагу.

Удзельнікі нарады адзін перад адным выхваляліся «дасягненьнямі» на новай працы. Старшыня калгасу імя Молатава Казловіцкага раёну Сырадояў з захапленьнем даводзіў, што першай «перамогі» яму ўдалося дабіцца ў ліпені. Калгас першым у раёне выканаў сенанарыхтоўкі. Другая перамога адбылася 20 жніўня. Зноў-жа калгас першым у раёне выканаў хлебанарыхтоўкі. «Ніколі калгас такіх дасягненьняў ня меў», самазадаволена пахваліўся Сырадояў. А якую-ж узнагароду за «перамогі» атрымалі калгасьнікі? Ім пакуль што выдалі толькі па аднаму кіляграму збожжа на працадзень.

Падаем «перамогі» і другога трыццацітысячніка калгасу «Расьсьвет» Дрыбінскага раёну Зінчанкі. Увесь час ён жыў і працаваў у горадзе, да сельскай гаспадаркі ніякага дачыненьня ня меў. «Прайшло тры месяцы маёй працы ў калгасе. Тэрмін невялікі, але зьмены адбыліся значныя», напісаў аб сабе і сваёй працы ў «Советской Белоруссіі» Зінчанка. 25-га жніўня калгас датэрмінова выканаў збожжанарыхтоўкі. Зінчанка дзеля гэтай мэты прымушаў калгасьнікаў жаць, малаціць і веяць збожжа ня толькі днём, але і ў ночы. За сваю працу «калгасьнікі цяпер атрымліваюць па кіляграму збожжа і столькі-ж бульбы на працадзень», адзначае новы старшыня калгасу.

Аб «дасягненьнях» трыццацітысячніка старшыні калгасу «Новы Шлях» Івана Вільбіка напісала газэта Лідзкага раёну «Уперад». Вялікім дасягненьнем Вільбіка газэта лічыць, што «пакуль ня выбралі калгаснай бульбы, ні адзін калгасьнік не пачаў выбіраць яе на прысялібным вучастку». Затое калгас

першым у раёне выбраў бульбу, выканаў плян здачы лёну і ўжо здае прадукцыю зьверх пляну. Дзеля ўстанаўленьня працоўнай дысцыпліны ў калгасе, Вільбік шмат каму з калгасьнікаў забараніў выдаваць каня апрацоўваць прысялібныя вучасткі. Ня выдаваліся коні, каб прывезьці зь лесу дроў. Аб аплаце працадзён калгасьнікаў, газэта ня піша. Відаць аплата працы на толькі нізкая, што аб ёй сорамна пісаць. Як відаць з усяго тут сказанага, камуністычная партыя паслала ў калгасы трыццаць тысяч камуністых, каб прымусіць калгасьнікаў працаваць яшчэ больш на дзяржаву. Новыя старшыні калгасаў будуць перавыконваць плян нарыхтовак коштам нялюдзкіх высілкаў беларускіх сялян. Аднак гэтых «пасланцоў партыі» зусім ня цікавіць, як будуць жыць сем'і калгасьнікаў, атрымаўшы жабрацкую аплату за працадні.

15. 12. 55 **С. Сімановіч**

## ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Першы Ўсебеларускі Кангрэс зьяўляецца адным з найвялікшых зьявішчаў у гісторыі Беларусі. Ён адбыўся ў нашай сталіцы Менску ў сьнежні 1917 году. Ён выявіў волю беларускага народу да стварэньня собскай беларускай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі.

Як-жа дайшло да гэтай вялікай падзеі і што прадстаўляў сабою Першы Ўсебеларускі Кангрэс?

Пракацілася першая сусьветная вайна, а за ёй лютаўская рэвалюцыя 1917 году. Хоць край беларускі быў зьнішчаны фронтамі вайны і мільённыя арміі таптalі яго глебу, — аднак дачакаўся свабоды і ён. Беларусы адразу-ж пачынаюць арганізавацца. Наўзьверх выходзіць падпольная дагэтуль Беларуская Сацыялістычная Грамада, паўстае «Беларуская партыя народных сацыялістаў», «Беларуская Народная Грамада», «Хрысьціянская Дэмакратычная Злучнасьць». Не адстаюць і Беларусы вайскавікі. Яны твораць беларускія гурткі, камітэты ды большыя арганізацыі ў вялізарнай расейскай арміі. Нацыянальны мамэнт гуляе першарадную ролю. Скліканы на 25 сакавіка 1917 году ў Менску зьезд Беларускай Сацыялістычнай Грамады спалучаецца зь першым агульнанацыянальным зьездам беларускіх арганізацыяў і дзеячоў,

які творыць агульнанацыянальны ворган — Беларускі Нацыянальны Камітэт.

Ліпенскі зьезд беларускіх арганізацыяўператварае Беларускі Нацыянальны Камітэт у Цэнтральную Раду Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў, а нацыянальныя жаўнерскія зьезды твораць Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду. Абедзьве гэтыя Рады завяршаюць арганізацыю беларускага грамадзтва, творачы Вялікую Беларускую Раду.

Вялікая Беларуская Рада ставіць сабе за заданьне скліканьне Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які-б вырашыў лёс беларускага народу й яго краю.

Кангрэс сабраўся 18-га сьнежня 1917 году ў будынку менскага гарадзкога Тэатру (цяпер імя Янкі Купалы). Зьехалася на яго 1872 дэлегаты выбраныя народам з усіх куткоў Беларусі, зь якіх 1.167 мела права рашаючага голасу, 65% дэлегатаў належыла да сялянскай і работніцкай масы, 22% — да працоўнай інтэлігенцыі і толькі 13% да розных іншых слаёў. Такой агульнай народнай рэпрэзэнтатыўнасьці ня мела бадай ніводная канстытуанта — кажа адзін з удзельнікаў Кангрэсу. Таксама й тэрытарыяльна Кангрэс прадстаўляў усю этнаграфічную Беларусь: Меншчыну, Віцебшчыну, Магілеўшчыну, Смаленшчыну, Горадзеншчыну й Віленшчыну. Воля ўсяго беларускага народу тут выяўлена была поўнасьцю. Кангрэс выбраў Раду Старэйшых у складзе 71-го сябры, як пэрманэнтны ворган на ўсю Беларусь, ды апіраючыся на праклямаванае рэвалюцыяй права на нацыянальнае самавызначэньне, абвесьціў рэспубліканска-дэмакратычную ўладу ў краі ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтыя два пункты аказаліся найважнейшымі ў працы Кангрэсу.

Бальшавікі, якія тады захоплівалі ўладу на ўсёй тэрыторыі былой Расейскай Імпэрыі, не маглі ськіраваць Кангрэсу ў свой бок. 10 іхных дэлегатаў на Кангрэсе ня мелі ніякага ўплыву. Але калі прайшла пастанова аб дэмакратычнай уладзе на Беларусі ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, яны пастанавілі разагнаць Кангрэс. Яны кінулі на ўдзельнікаў Кангрэсу свае вайсковыя аддзелы, азброеныя кулямётамі ды панцырнікамі. Пачаўся бой паміж выбранцамі народу і брутальнай сілай бальшавіцкай дыктатуры, паміж дэмакратыяй і таталітарызмам. Удзельнікі Кангрэсу забарыкадаваліся. Бой трываў цэлую ноч. Брутальная сіла ўрэшце пе-

рамагла, дэмакратыя аблілася крывёй. Першы Ўсебеларускі Кангрэс быў разагнаны бальшавікамі.

Аднак бальшавіцкае насільства не зьліквідавала Кангрэсу. На другі дзень ён зышоўся ў менскім чыгуначным дэпо, дзе пад аховай чыгуначнікаў прадоўжыў сваю працу. Зроблена была яшчэ адна вельмі важная пастанова: перадаць усе паўнамоцтвы Кангрэсу выбранай раней Радзе старэйшых, як Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі да часу магчымых вольных выбараў.

Значэньне Першага Ўсебеларускага Кангрэсу — гэта яго ўсебеларуская рэпрэзэнтатыўнасьць і дэмакратычнасьць. Пастановамі дэлегатаў на Кангрэсе беларускі народ выявіў сваю волю жыць у собскай дзяржаве — Беларускай Народнай Рэспубліцы. Волі гэтай не сатрэ ніякая сіла.

Бальшавікі разагналі Першы Ўсебеларускі Кангрэс і на сяньняшні дзень разганяюць беларускі народ па тайгах Сібіру, тундрах поўначы й стэпах Казахстану. Яны хвальшуюць гісторыю Беларусі, кажуць, што яны першыя далі Беларусам нібыта незалежную дзяржаўнасьць у постаці БССР. Адылі і яны ўсё-ж не змаглі зыгнараваць волі беларускага народу аб собскім дзяржаўным жыцьці. Калі-б ня гэта воля, выяўленая на Першым Усебеларускім Кангрэсе, аб якім яны старанна маўчаць, — напэўна ня было-б і БССР навет у тэй фікцыйнай форме дзяржаўнасьці, у якой яна існуе сяньня.

25. 12. 55 **В. Васілевіч**

## ТАЙНІЦЫ СЬЛЯПЯНСКАГА ЛЕСУ

За Менскам, на шостай вярсьце ад Парку Культуры й Адпачынку, у лесе Малой Сьляпянкі, пахаваны вялікія тайніцы жыцьця. Сьляды страшэннага злачынства пазарасталі даўно мохам і травою, але памяць часам ня сплямілася.

Я хачу расказаць пра тое, што бачыў на собскія вочы, і тое, што гаварылі мне жывыя сьветкі ды апавядальнікі чутага ад іншых. Ня ведаю, дзе цяпер гэтыя людзі. Бальшыня зь іх, напэўна, загінула ў канцэнтрацыйных лягерах Сібіру, а косьці іншых, магчыма, буцьвеюць у тым самым Сьляпянскім лесе . . . Пра гэтую праўду не напіша ніколі ні маскоўская «Праўда» ні менская «Зьвязда».

***

1932 год. Студэнты менскага Пэдагагічнага Тэхнікуму імя Ўсевалада Ігнатоўскага, адбывалі на Дасьледчай Станцыі ў Малой Сьляпянцы сваю месячную сельска-гаспадарчую практыку. Дырэктар станцыі папярэдзіў: **«За дзьвесьце мэтраў ад баракаў пачынаецца ваенная зона, хадзіць туды забараняецца!».**

Аднаго дня наказалі мне, што бацькоў выгналі з калгасу, а старэйшага брата пасадзілі ў турму. Хацелася йсьці на край сьвету. Надвечар я паклікаў блізкага сябру Сяргея Русаковіча, маладога беларускага пісьменьніка, і мы, нікому нічога ня кажучы, падаліся ў лес. «Стары Барыс, што корміць канадыйскіх карпаў у сажалках, кажнага досьвітку бачыць „Чорнага ворана", а ў той у лесе камяніцы, кажа ён, ня дом адпачынку, а нейкая катавальня . . .» — гаворыць Сяргей. «А Рачыцкая, дачка камісара, гаворыць, што там поўна хворых» — заўважыў я. Розныя ходзяць чуткі . . . Каля забалаці, улева ад чыгункі Менск—Масква, мы прачыталі напісанае чырвонымі літарамі: «КОНСКІ МОГІЛЬНІК. НЕБЯСЬПЕЧНА!». Мноства засыпаных і незасыпаных ямаў. Кавалкі гліняных трубаў, кучы хваёвых слупоў і скруткі калючага дроту. «Гэта, гаворыць сябра, для адводу вачэй . . . Барыс ведае ўсё чыста, папытайся толькі яго». . .

Лес гусьцеў і рабіўся цямнейшым перад захадам сонца. У подыху вільгаці пахла трупной гнілотай. І вельмі блізка . . . Пачалі шукаць. «Бачыш?» — з жахам зьвярнуўся я да Сяргея. Дагэтуль не даваў веры, што можа ледзянець цела і заміраць сэрца. На плашчыні нейкіх трох гэктараў, між радамі пасаджаных у 1925 годзе хвоек, жаўцелі, размытыя пазаўчарашнім дажджом, маленькія курганкі і вялікаватыя насыпы. Было іх, нешта, каля шэсьцьдзесяці на першым пляне, а далей — яшчэ . . . і яшчэ . . . Шмат якія былі заваленыя ламаччом.

Весткі з дому і пах магільнай, чалавечай гнілі адурманілі галаву. Я адарваў вокладку Марксавага «Капіталу» і напісаў: «ПАД ЯКІМІ-Ж КУРГАНАМІ БУЦЬВЯНЕЮЦЬ КОСЬЦІ МАІХ БРАТОЎ: ЯКАВА, УЛАДЗІМЕРА, АНДРЭЯ І ВІНЦЭСЯ?». Вокладку насадзіў на сук галіны, што абдымалася з аброслым травою курганом. «Ты звар'яцеў, ці што?» — з трывогаю крыкнуў Сяргей Русаковіч. Мне таксама хацелася

крычаць і клікаць людзей шукаць родных і блізкіх. Пакідаючы месца вялікага бойнішча, гэткія словы вырваліся з маіх грудзей: «ПАЧАКАЙЦЕ-Ж, БАЛЬШАВІЦКІЯ ДАЛАКОПЫ». . .

На скрыжаваньні лясных сьцежак убачылі мы некалькі мужчынаў з рыдлёўкамі ў руках, абкружаных чырвонагаловымі энкавэдыстымі з сабакамі. Нельга было ўцякаць: перад намі стаяў ужо чалавек з аўтаматам. У вобразе гэтага двуногага зьвера я пазнаў рабатварага Васіля, Гіцля Бессардэчнага, як празвалі яго людзі маіх родных Дудзічаў. «Нешта вельмі шмат коней здыхае ў вас . . . » — сказаў я ня вітаючыся. «Глядзі, разумнік, каб замест каня твая галава ня трапіла ў яму . . . Ідзі, каб і духу твайго ня было тут . . . Пагаворым пазьней» — аўтарытэтна выказаўся Гіцэль Бессардэчны.

Каля Дасьледчай Станцыі сустрэлі нас сябры: Сяргей Астрэйка, аўтар ненадрукаванай выдатнай «Бэнгаліі», Сяргей Гайка, Касянкоў, брат Міхася Зарэцкага, і студэнт Адам, пляменьнік Адама Бабарэкі. Апошні, моцна ўсхваляваны, паведаміў: «Дзядзька Барыс і студэнт Ахрэмчык — арыштаваныя. Дырэктар пытаўся пра вас . . .»

Ноч была няпрыемнай і вельмі трывожнай. Усе драбніцы, як жывыя, стаяць перад маімі вачыма. Мне здаецца, што й цяпер яшчэ чую дзікі крык ратунку, які даносіўся тае начы да нашага слыху спад таямнічае жоўтае камяніцы Сьляпянскага лесу.

28-га лютага 1933 году вокладка Марксавага «Капіталу» зь імёнамі маіх братоў ляжала на стале сьледчага ў мурох менскага НКВД. Сухатварая Навіцкая, што часта наведвала рэдакцыю газэты «Савецкая Беларусь», а пазьней і Малую Сьляпянку, гаварыла магільным голасам: «Вось мы і спаткаліся . . . Спадзяюся, што спаткаешся і з братамі . . .»

Увесну 1935-га году ў чырвоных мурох Марыінскае турмы, у Сібіры пазнаёміўся я зь Вячаславам Ануфрыевым, былым малодшым лейтэнантам менскага НКВД. Аднавокі сухотнік часта паўтараў мне: «Моцна пакараў мяне Бог за сьляпянскія душы . . . Ляжыць там ня менш дзесяці тысячаў».

26.12.55 **Ул. Дудзіцкі**

## ШУКАЮЦЬ НАІЎНЫХ

«Едзем мы, сябры, у далёкія краі . . . »

Гэткую песьню зложыў услужны прапагандзісты для гэтак званых патрыётаў, якія перасяляюцца на цалінныя землі. З гэтай песьняй 27-га студзеня на маладэчанскай станцыі чыгункі бальшавіцкая прапаганда будзе разьвітвацца з новым транспартам перасяленцаў у Казахстан, Цюменскую вобласьць і Карэла-Фінскую ССР.

Але ані нам, ані, здаецца, вам, дарагія суродзічы, не да песьняў.

20-га студзеня маладэчанскае радыё перадало гутарку абласнога аддзелу для спраў перасяленьня і арганізаванай вярбоўкі работнікаў. Чытаючы гэныя ўмовы, можам толькі дзівіцца, што ў Савецкім Саюзе такі рай. Перасяленцам абяцаюць, што будуць даваць ім есьці сала з салам, абяцаюць спаньнё на пярынах і малочныя рэкі ў кісялёвых берагох.

Мы ведаем, што ў беларускіх калгасах людзі за працадзень атрымоўваюць адзін кілягграм збожжа і 3 рублі . . . Маладэчанскае радыё цераз якогась Мачанскага абяцае Беларусам беззваротнай дапамогі 150 тысяч рублёў і сутачныя . . . Далей абяцаюць, што там за працадзень будуць атрымоўваць 10 кілеграмаў пшаніцы і 7 рублёў грашыма.

Ведаем таксама з савецкай-жа прэсы, што на Беларусі з голаду выдыхаюць тысячы кароў. А маладэчанскае радыё нам цьвердзіць, што ў Казахстане «каровы добрыя і даюць па 20 літраў малака ў дзень . . . »

Рай на зямлі! . . . Хаця Беларусы ніколі да вандроўных народаў не належылі, але можа кагось, прыціснутага галітой і спакусіць такая казахстанская прапаганда з маладэчанскага радыя.

Але таму, што мы ведаем, што ад 1917-га году бальшавікі абяцаюць нам рай на зямлі, але ў рачаіснасьці ствараюць пекла, мы і да гэнай гутаркі маладэчанскага радыя і да цытаваных там-жа лістоў Мачанскага й Паўзуна з Крывіч аднясёмся з засьцярогай ды глянем на рачаіснасьць у сьвятле фактаў.

Маладэчанскае радыё ілжэ нам, калі цьвердзіць, што работнікаў на цалінныя землі набіраюць на адзін-два гады. Нейкае непаразуменьне. Бо прыпомнім, грамадзяне, што

на пачатку студзеня мінулага году гаварыў не абы хто, — а сам Мікіта Хрушчоў. Вось-жа ён сказаў, даслоўна, што на цалінных землях навасёлы павінны «моцна асесьці на месцы», а ня думаць, што едзецца на год або два. Таму і раіў ім жаніцца ды размнажацца, каб ня гібець адзінокімі. Мы будзем лепш верыць словам Хрушчова, чымся маладэчанскому радыю. Фірма заўсёды фірмай. А як яшчэ адзін доказ, што рацыю мае Хрушчоў, зацытуем вынятак з «Полымя» нумар 12 1955 году. Вось там ёсьць нарыс нейкага Астапенкі пад загалоўкам: «На цаліне». Там бацька гэтак разьвітваецца з сынам, які едзе на цаліну:

«Ты едзеш у вялікую дарогу. Пачынаецца тваё самастойнае жыцьцё. Я ведаю, ты працавіты, але занадта гарачы. Глядзі, сынок, не ачарні нашага прозьвішча. Жадаю, Мікола, каб ты вяртаўся цяпер да дому толькі госьцем . . . »

Як бачым, грамадзяне, веда псыхалёгіі ў пісьменьніка больш чымся партацкая. Ніколі, нідзе і ніякі бацька, высылаючы адзінага сына — апору старасьці, не жадаў, каб той сын прыяжджаў да яго толькі госьцем, а тымбольш з жудасных пустыроў казахстанскіх земляў. Дык паўтараем —псыхалягічны падыход партацкі, але інтэнцыя аўтара ясная і праўда незапярэчная. Аўтар нацягнуў у псыхалёгіі, але быў згодны з дырэктывамі Хрушчова. З гэтага бачым, што мададэчанскае радыё ілжэць.

Цяпер пяройдзем да гэтага казачнага дабрабыту, аб якім пішуць Мачанскі й Паўзун.

Ужо апісываная зарплата працы выклікае недавер. Як быццам-бы пішуць з Казахстану, што там навасёлы атрымоўваюць 10 кілограмаў пшаніцы і 7 рублёў на працадзень. Але, як ведаем з савецкай-жа прэсы, у самых передавых калгасах-мільянэрах калгасьнікі атрымоўваюць да пяці кіляграмаў збожжа і да 10-ці рублёў. Дык цяжка паверыць тады лістом з Казахстану.

За тое думаю, што можам паверыць пісьменьніку Пагодзіну, які нядаўна выдаў п'есу «Мы ўтрох паехалі на цаліну». У гэтай п'есе, як можна спадзявацца, недастаткова апісана жудасная рачаіснасьць жыцьця на цаліне, але і гэтага хопіць, каб уявіць трагэдыю навасёлаў. Як ведаем, «Праўда» войстра скрытыкавала гэту п'есу, але навет яна не закінула Пагодзіну, што ён перачарніў рачаіснасьць, а толькі тое, што аўтар ня ўбачыў гігантычнасьці й размаху

ў вялікім прадпрыемстве цаліны, а гэтае імпануючае зьявішча «падмяніў натуралістычнай фатаграфіяй драбнічнага, прыватнага».

З гэтага ўсяго бачым, што бальшавіцкая прапаганда, вярбуючы беларускае насельніцтва на цаліну, бессаромна і праступна ілжэць. Але таму, што ілжа мае кароткія ногі, можам спадзявацца, што на іх бальшавікі далёка ня зойдуць і шмат наіўных ня знойдуць.

24.1.56 **пс**

## ПАШТО ДАГАНЯЦЬ

«Цяпер мы дыспануем усім неабходным, каб у найкарацейшым тэрміне выканаць аснаўное эканамічнае заданьне СССР — дагнаць і перагнаць найбольш разьвітыя капіталістычныя краіны ў вытворчасьці прадукцыі на душу насельніцтва . . . »

Вышэй паданы сказ мы ўзялі зь перадавіцы «Праўды» з 8-га лютага гэтага году. — Як-жа нам спракудзіліся гэтыя шаблённыя, ілжывыя сказы бальшавіцкай прапаганды аб фікцыйных дасягненьнях антынароднай партыі і савецкага ўраду! . . . — можа зь нездаваленьнем крыкнуць слухач.

Таму мы скажам нашаму слухачу: Так, мы верым і ведаем — гэта нам усім сядзіць косткай у глытаўцы і нудзіць да рвотаў, але што-ж маем рабіць, калі ЦК, калектыўнае кіраўніцтва і іхняя прапаганда ня маюць ані фантазіі, ані дадзеных, каб чымколечы заімпанаваць свайму грамадзтву? Таму й ачмучаюць яго пустой балбатнёй, дэзар'ентацыяй і фікцыйнымі плянамі ды статыстыкамі.

30 год таму Маякоўскі, вяртаючыся з падарожжа па Амэрыцы і пад уражаньнем жыцьцёвага стандарту заходніх краінаў, у вадным зь вершаў сказаў: «Амэрыку дагонім і перагонім! . . . » Гэты сказ паэты падхапіла бальшавіцкая прапаганда і зрабіла зь яго баявы лёзунг.

Ну і прайшло 30 год. Маякоўскі — трыбун рэвалюцыі, расчараваны рэвалюцыяй і тым, што зь яе зрабіла камуністычная дыктатура — застрэліўся; народы Савецкага Саюзу адгаравалі пяць жудасных і потагонных пяцігодак; мільёны людзей зьгінула дзеля нейкіх хімэрных і бязглуздых фантазіяў камуністычных сатрапаў; лёзунг: «дагонім і

перагонім» застаўся пустым выгукам, бо, калі глянем аб'ектыўна, дык сьцьвердзім, што мы не даганяем, але — адстаём.

Рэч зразумелая, мы былі-б несправядлівыя, каб ня бачылі і гэтага прагрэсу дасягненьняў, якіх, тэрарызуючы сваё насельніцтва, дабілася бальшавіцкая дыктатура. Ведаем, як коштам жыцьця, свабоды й дабрабыту насельніцтва разраслася цяжкая індустрыя Савецкага Саюзу. Але дазволім сабе спытаць: ці індустрыя мусіць быць для людзей, ці людзі для індустрыі? Лёгічна й нармальна — індустрыя для людзей і іхняй выгады.

У Савецкім-жа Саюзе — якраз наадварот — коштам найвялікшых ахвяраў насельніцтва, поўных недастачамі й нэндзы, 30 год будуецца цяжкая індустрыя. Дзеля чаго? Каб дагнаць і перагнаць Амэрыку — адказваюць нам крамлёўскія бонзы.

А вось, напрыклад, мы — Беларусы, спытаем нашых прыгнятальнікаў: «А навошта нам деганяць і пераганяць?» Мы не зацікаўлены ў пагражаньні сьвету сваёй цяжкой індустрыяй і вадароднымі бомбамі. Мы хочам мець дастаткова хлеба, вопраткі, свабоду думаць і гаварыць, свабоду выбіраць адпаведныя да нашых тэмпэрамэнтаў і асьпірацыяў формы ладу, свабоды перакананьняў. Гэта значыць — усяго таго, што маюць народы, якіх лёс ўратаваў ад бальшавіцкай пошасьці, а што ў нас бальшавікі забралі, заграбілі. А на гэта ўсё, кажучы словамі бальшавіцкай прапаганды, мы мелі ўсе магчымасьці, але ў нас забрала іх чужая нам, антынародная крамлёўская дыктатура. Пашто нам малпаваць амэрыканскія хмарадзёры, калі нам было цёпла, добра і выгадна ў нашых драўляных хатах, пакуль бальшавіцкае насільле не разагнала нас па чужыне, паўночных лягерах, цалінных пустырох?

Калі мы назіраем жыцьцё грамадзтва вольнага сьвету, мы бачым, што там ніхто нікога ня пераганяе, а проста намагаецца будаваць жыцьцё так, каб яно давала як найбольш магчымай радасьці, свабоды і задаваленьня. І з сумам бачым, як-жа далёка нашаму беднаму, загнанаму на розныя бязглуздыя вахты і спаборніцтвы народу да дасягненьняў грамадзтва вольнага сьвету.

Дык дзе-ж мэта гэтага бязглуздага «даганяньня» і жудасных ахвяраў трох пакаленьняў?

Для нас няма ніякай.

За тое ёсьць для крамлёўскіх сатрапаў. Але памятайма, што нашы і іхныя мэты — дыямэтральна супрацьлежныя.

10.2.56 пс

## ЎСЕВАЛАД ІГНАТОЎСКІ

### (Да 25-ае гадавіны з дня сьмерці)

Беларускі народ знае і памятае шчырых патрыётаў і адданых сыноў паняволенай Бацькаўшчыны, якія сталіся ахвярамі бальшавізму.

Зь вялікага ліку гэтых ахвяраў вылучаецца імя беларускага вучонага, гісторыка і літаратуразведа.

20-га лютага 1931 году Усевалад Ігнатоўскі, прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук кончыў самагубствам. Пасьля няспынных перасьледаў Г.П.У., пасьля шырокай хвалі арыштаў акадэмікаў і культурных дзеячоў Беларусі, праф. Ігнатоўскі, перажываючы трагэдыю нацыянальнай эліты і адчуваючы арышт і блізкасьць сваёй пагібелі, не знайшоў іншага выхаду. Ён застрэліўся ў сябе дома. Сьмерць ратавала яго ад далейшых пакутаў.

Шырокія колы студэнцтва і настаўніцтва былі глыбока ўзрушаныя гэтай трагічнай падзеяй. Аўтарытэт і папулярнасьць Ігнатоўскага былі бясспрэчнымі і выклікалі сярод партыйных кіраўнікоў трывогу і непакой. Савецкі ўрад прыняў усе меры асьцярожнасьці. Не паведамляючы ў газэтах аб дні паховінаў, цішком, уночы вывозілі на могілкі труну зь нябожчыкам. Конная й пешая міліцыя не дапушчала нікога, апрача блізкіх сваякоў, ісьці ў пахавальнай працэсіі.

Гэтак бязь ніякай пашаны хавалі вучонага і ведамага грамадзкага дзеяча Беларусі.

Пасьля сьмерці Ігнатоўскага бальшавікі павялі жорсткі наступ на ўсё беларускае, нацыянальнае.

Імя Ігнатоўскага бальшавікі таксама выкрэсьлілі, кінулі ў цень забыцьця. Аднак Беларусы не забудуць яго. Трэба толькі пашукаць, знайсьці захаваныя старыя кнігі, каб ізноў у поўным асьвятленьні паўстаў яскравы вобраз змагара за беларускую культуру і яе самабытнасьць.

У літаратурнай энцыкляпэдыі, выданьня Камуністычнай Акадэміі, за 1930 год мы знойдзем біяграфічныя дадзеныя:

Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся ў 1881 годзе ў сям'і народнага настаўніка. Распрацоўкай гісторыі Беларусі пачаў займацца ў 1905 годзе. З 1917 году прыймае актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху. Сябра партыі эсэраў. У камуністычную партыю ўступае ў 1920 годзе. Пасьлядоўна быў наркамземам, наркомам асьветы і прэзыдэнтам Акадэміі Навук Беларусі.

Далей у літаратурнай энцыкляпэдыі пералічаюцца навуковыя працы Ігнатоўскага і нарэшце падаецца наступная заўвага: «Тым ня менш прызнаць устаноўку Ігнатоўскага ўдалай і правільнай з марксыцкага пункту гледжаньня нельга. Дастаткова зацеміць, што ў названых працах такія беларускія пісьменьнікі 19 стагодзьдзя, як Дунін-Марцінкевіч і Багушэвіч, прыгоньнікі і клерыкалы, Ігнатоўскім характарызуюцца, як народнікі. У вацэне як беларускай літаратуры 19 стагодзьдзя, так і «нашаніўцаў» ён не дастаткова ўскрывае іхнюю клясавую прыроду, і вельмі часта нацыянальныя мамэнты выпукляе больш, чым клясавыя».

Не падабалася камуністым таксама і дзейнасьць Ігнатоўскага, як наркома ў галіне беларускай асьветы. Актыўная беларусізацыя, падняцьце нацыянальнай сьведамасьці народных масаў і падрыхтоўка новых нацыянальных кадраў — уся гэта праца была пазьней абвешчана бальшавікамі варожай, нацдэмаўскай. Ігнатоўскага прымушалі каяцца ў пэрыядычных выданьнях, абвінавачваць сябе ў нацыянал-апартунізьме ды ў іншых нібы праступствах. Пераход на становішча прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук не зьмяніў сытуацыі. Пачалося паступовае цкаваньне яго ў друку. Спачатку супраць ягоных сяброў — акадэмікаў, а пасьля і супраць самога прэзыдэнта Акадэміі.

Бальшавікі нікому не даруюць. Яны ведалі, што Ўсевалад Ігнатоўскі некалі належаў да партыі сацыялістых-революцыянераў. Яны разумелі, што нацыянальныя пачуцьці, любоў да Бацькаўшчыны — Беларусі і да свайго народу ў ім былі дамінуючымі.

Не, гэтага не маглі даравацъ! Каты з ГПУ рыхтавалі пастку. Не ўдалося! Ігнатоўскі ня даўся жывым у іхныя капцюры.

Вечная памяць беларускаму змагару — патрыёту зь вялікай адвагай, з моцным характарам.

20.2.56 **К. Рамановіч**

## КРЫВАДУШНАЯ ПАСТАНОВА

9-га лютага гэтага году апублікавана пастанова Савету міністраў СССР «Аб павялічэньні выпрацоўкі неразьведзенай малочнай прадукцыі і палепшаньні забясьпячэньня малаком насельніцтва гарадоў і прамысловых цэнтраў». Савецкі ўрад спачатку пастановы спагадліва адзначае, што на калгасным рынку малако каштуе дорага, а ў дзяржаўных магазынах у прадажы яго няма. Падкрэсьліўшы, што малако зьяўляецца найбольш каштоўным прадуктам харчаваньня і мае вялікі попыт у насельніцтва, пастанова называе і вінаватых у недахопе малака. Аказваецца, што міністэрства гандлю СССР, міністэрства прамысловасьці мясных і малочных прадуктаў СССР разам зь Дзяржплянам і Дзяржэканомкамісіяй СССР не дагледзілі, што ў гарадох нельга дастаць малака навет для дзяцей і хворых. Па віне гэтых міністэрстваў і не павялічаны выпуск малочных прадуктаў.

З гэтай прычыны «клапатлівы» савецкі ўрад дамагаецца ад віноўных устаноў, каб на працягу 1956 і 1957 гадоў спажываньне малака ў гарадох павялічылася ня менш, чым у два разы. А каб заспакоіць насельніцтва прамысловых цэнтраў, пастанова пералічвае пяцьдзесят пяць гарадоў, у якіх ужо сёлета павінна быць павялічана прадаваньне малака на 85 працэнт. У лік гэтых гарадоў трапілі амаль усе сталіцы рэспублік, у тым ліку і Менск. Незалежна ад гарадоў, пералічана восем вобласьцяў, у якіх савецкі ўрад прапануе павялічыць прадажу малака ў паўтара або ў два з палавінаю разы. Прапануецца таксама павялічыць выпрацоўку масла і сыру.

Гэтая пастанова заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Яна зьяўляецца чарговым прыкладам крывадушша й ашуканства працоўных камуністычным кіраўніцтвам. Якім спосабам можна павялічыць забясьпячэньне малаком гарадоў? Усё малако ад абавязкавых паставак і дзяржаўных закупак спажываецца паводля цэнтралізаванага плану, зацьверджанага саюзным урадам. На аснове гэтага пляну малако пераважна перарабляецца на масла й малочныя кансэрвы. Толькі частка яго выдзяляецца для сем'яў камуністычных верхаводаў і іншых прывілеяваных асобаў і ўстановаў. Выраб масла, сыру і малочных кансэрваў ня можа быць паменшаны, бо гэтыя прадукты ў першую чаргу патрэбны

дзеля вайсковых мэтаў. Павялічэньне-ж прадажы малака бязумоўна пацягне за сабой зьмяншэньне вырабу масла й кансэрваў.

Ніякіх цудаў ад калгасна-саўгаснай жывёлагадоўлі чакаць нельга. Зьмяніць існуючы стан ня можа ніякая пастанова. Давёў гэта вельмі красамоўна ніхто іншы, як галоўны камуністычны верхавод на Беларусі Патолічаў. На дваццаць другім зьезьдзе камуністычнай партыі Беларусі Патолічаў заявіў, што ў 1928 годзе на Беларусі было два мільёны дваццаць восем тысяч кароў, а ў мінулым годзе налічвалася адзін мільён семсот семдзесят тысяч кароў. Адкуль-жа можа павялічыцца малако, масла, сыр, калі з часу калектывізацыі толькі на Беларусі кароў паменшылася больш чым на чверць мільёна галоў.

Савецкі ўрад, выносячы сваю пастанову аб павялічэньні малочных прадуктаў, меў іншыя мэты. Перад адчыненьнем 20-га зьезду камуністычнай партыі савецкая прэса і радыё захлёбвалася пахвальбой аб няіснуючых дасягненьнях у сельскай гаспадарцы. Каб падмаляваць панурую запраўднасьць і паказаць хоць на паперы клопаты аб людзях, і выносяцца ўрадам такія нярэальныя пастановы. Пастанова мела яшчэ адну мэту. За дрэннае забясьпячэньне прадуктамі харчаваньня адказнасьць перад краінаю нясе поўнасьцю камуністычнае кіраўніцтва й савецкі ўрад. Каб захаваць свой прэсьціж, калектыўнае кіраўніцтва адводзіць ад сябе віну, нацкоўвае нездаволенае насельніцтва на свае-ж міністэрствы. Такім ёсьць запраўдны сэнс пастановы Савету міністраў СССР аб павялічэньні забясьпячэньня малаком гарадоў і прамысловых цэнтраў.

23.2.56 **С. Сімановіч**

## НЯЎДАЧЫ КАМУНІСТЫХ НА БЕЛАРУСІ

Справаздача старшыні мандатнай камісіі 20-га зьезду партыі, Арыстава кідае шмат сьвятла на адносіны беларускага народу да камунізму. Ведаем, што камуністычная партыя складае ўсяго толькі тры з паловай працэнты ўсяго насельніцтва Савецкага Саюзу. Але вось, як бачым з дакладу Арыстава, Беларусь, якая зьяўляецца па колькасьці на-

сельніцтва трэйцяй з чаргі рэспублікай СССР, поводля колькасьці камуністых стаіць аж на шостым месцы, навет пасьля Казахстану і Грузіі. Таксама першы сакратар ЦК партыі Беларусі Патолічаў сказаў, што беларуская кампартыя налічвае толькі 145.069 сяброў і кандыдатаў. Гэта толькі 1,3% насельніцтва Беларусі. Калі-б ад гэтага адлічыць немалую колькасьць камуністых «імпартаваных» на Беларусь, можна спадзявацца, што нашых радзімых засталося-б каля аднаго працэнта. Гэта найлепш сьветчыць, што камунізм і ягоная дактрына арганічна чужыя натуры Беларусаў. Таксама лёгка ўявіць, што-б сталася з камуністымі на Беларусі, каб наш народ меў магчымасьць свабодна выказаць сваю волю і выбраць форму ўлады. Нажаль гэтага нельга спадзявацца, пакуль над Беларусяй пануе крамлёўская партыйная алігархія.

Партыйная верхавіна, а за ёй і прапаганда намагаюцца неяк апраўдываць гэты павольны ўзрост камуністычнае партыі. Перадусім яны цьвердзяць, што партыя зьяўляецца маналітам сямі мільёнаў «найлепшых сыноў і дачок савецкага народу», а таму і прыймо ў шэрагі гэтае эліты ўзалежнена ад высокай якасьці характару і маральнасьці кандыдатаў. Гэта цьверджаньне абражае 200 мільёнаў беспартыйнага грамадзтва, бо выглядае, што гэта вялізарная бальшыня 93% насельніцтва — мала вартасная пад поглядам інтэлекту і маральнасьці маса. Аднак на апошнім зьезьдзе партыі камуністычныя верхаводы неасьцярожна паднялі маску. У сваіх выступленьнях Хрушчоў, а перадусім Суслаў прагаварыліся, што ў вапошніх гадох не практыкавалася суровая рэгула пры прыйме ў партыю, у выніку чаго туды праціснулася шмат мала вартаснага элемэнту.

Гэтак, праўдападобна не знарок, выкрылася ілжа камуністычнай прапаганды што да вартасьці сяброў партыі і цьвёрдага рэгуляміну прыняцьця ў сябры. Таксама гэта найлепш сьветчыць, што грамадзтва Савецкага Саюзу, а перадусім беларускае, ня горнецца да партыі, хаця гэта дае вялікія прывілеі. Сам Хрушчоў, напрыклад, наракаў на цяперашнім зьезьдзе, што сябры партыі выкарыстоўваюць свае партыйныя сувязі ды выкручваюцца ад цяжэйшых працаў. Вось што ён даслоўна сказаў: « . . . Напрыклад на прадпрыемствах вугольнае прамысловасьці налічваецца каля 90 тысяч камуністых, аднак на падземных работах працуе толькі 38 тысяч. У сельскіх раёнах жыве больш

3-х мільёнаў сяброў і кандыдатаў партыі, але ў калгасах, МТС і саўгасах працуе менш чымся палова . . .»

З гэтага ўжо бачым, што партыйны білет дае вялікія прывілеі й выгады. Аднак толькі адзін працэнт Беларусаў паквапіўся скарыстаць з гэтых дабрадзействаў партбілету.

Беларускае грамадзтва ў васноўнай масе застаецца варожае да камунізму і чакае толькі змогі ськінуць зь сябе гэтыя путы, у якіх 99 працэнтаў народу дзяржыць адзін працэнт рэнэгатаў.

26.2.56 **А. Галубіцкі**

## «НЕ ПАКІДАЙЦЕ-Ж МОВЫ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ, КАБ НЯ ЎМЕРЛІ».

65 год таму, у Кракаве, быў выдадзены першы зборнік твораў беларускага паэты Францішка Багушэвіча пад назовам «Дудка беларуская».

Другая палавіна мінулага стагодзьдзя адзначылася на Беларусі праявамі расейскай царскай рэакцыі ў адносінах да беларускасьці. Пад яе наступам беларускае друкованае слова мусіла йсьці або ў падпольле, або на выгнаньне. Таму якраз Францішку Багушэвічу і прыпісваецца асаблівая заслуга за тое, што ён стаў у вабарону свайго народу й роднае мовы ў часы найбольшае загрозы ім.

Сіла нацыянальнай літаратуры ў пэрыяд паняволеньня народу ляжыць галоўным чынам у ейнай адраджэнска-вызвольнай функцыі. Праўда, ад часоў Багушэвіча шмат чаго зьмянілася — беларускі народ у нясупынным змаганьні замацаваў за сабой не адну пазыцыю. Аднак, няволя, незалежна ад гістарычных абставінаў, мае заўсёды супольныя рысы. Таму якраз і постаць нашага вялікага адраджэнца Багушэвіча ня страціла й цяпер свайго значэньня.

У чым-жа своеасаблівасьць і актуальнасьць Багушэвічавай творчай спадчыны? Яна знаходзіцца ў тым, што паэта першы вычуў і зразумеў загрозу русыфікацыі беларускага народу, небясьпеку ягонае нацыянальнае сьмерці. Ён першы ў нашай навейшай літаратуры паказаў шлях ратунку ад гэтае пагібелі. Ягоны кліч, кінуты ім у прадмове да свайго першага выданьня вершаў у 1891 годзе, загучэў сапраўдным звонам трывогі перад агульнай пагрозай дэна-

цыяналізацыі народу: «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!» Побач з гэтым Багушэвіч змагаўся і супраць усялякіх камплексаў нацыянальнае ніжэйшасьці, якія пры дапамозе насьмешак над беларускай мовай і хвальшаваньня гісторыі Беларусі прышчэпліваліся нашаму народу. Багушэвіч пісаў: «Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная . . . але так ужо мы самі пусьцілі яе на зьдзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахватней гавораць пафранцуску, як пасвойму».

Гляньма цяпер вакол сябе. Ці-ж сяньня ў нас на Бацькаўшчыне не паўтараецца тое самае зьявішча? Праўда, афіцыйнае забароны мовы няма. Але ці-ж ня сьведама занядбоўваецца яна на карысьць цяперашняе савецкае «францушчыны» ў расейскай форме?! Ня трэба далёка хадзіць, каб пераканацца ў гэтым. Хопіць паглядзець на рэклямы, афішы, напісы на вуліцах, на рэпэртуар беларускіх тэатраў і канцэртаў, хопіць паслухаць мову беларускіх агітатараў, партыйных сакратароў і іншых камуністычных «культуртрэгераў», «абкультураных» духам «найбольш выдатнае савецкае нацыі», каб пабачыць, у якія закуткі выціскаецца беларускае слова. Хопіць зьвярнуць увагу на тое, што ў Беларусі з больш чым васьмідзесяцю працэнтамі карэннага беларускага насельніцтва бадай палавіна школьных падручнікаў друкуецца ўжо на расейскай мове. А партыйны сакратар Гарбуноў ня так даўно ў часапісе «Камуніст» адзнаку культурнае вышэйшасьці прыпісвае карыстаньню расейскай мовай. Ад афіцыйнага абазначэньня «культурнае ніжэйшасьці» недалёка ўжо і да неафіцыйнага абазначэньня беларускае мовы, як «простае і мужыцкае», цяпер можа «калгаснае».

Кліч Багушэвіча «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі» быў кінуты 65 год таму назад. Аднак ён актуальны і ў сяньняшняй савецкай Беларусі паняволенай бальшавікамі.

Таму й постаць беларускага адраджэнца Францішка Багушэвіча набірае войстрае актуальнасьці як абаронцы беларускае мовы.

2.3.56 **Я. Запруднік**

## НА ШЛЯХУ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Калі мы прасочым аб'ектыўную палітычную гісторыю Беларусі апошняга стагодзьдзя, дык сьцьвердзім, што ход ейны выразна накіраваны да адбудовы незалежнае беларускае дзяржавы. Гэтую гістарычную тэндэнцыю прызнае і бальшавіцкая гістарыяграфія, а ў савецкай імпэрыі навет створана форма гэткае дзяржавы. Іншая рэч, што практычна беларускае дзяржавы няма сяньня, і савецкая Беларусь у сапраўднасьці засталася на правох калёніі, як яна была і ў царскай імпэрыі.

Каляніялізм, як гістарычнае зьявішча, пастулова адмірае. Гісторыя заходняга, не бальшавіцкага, каляніялізму з усёй сілай шэрагам прыкладаў даводзіць, што на руінах гэтае ўстарэлае формы палітычнага ладу ўзрастаюць самастойныя нацыянальныя дзяржавы. Гісторыя-ж Беларусі апошняга стагодзьдзя, аж да нашых дзён, — гэта гісторыя каляніяльнае краіны. Таму й сваёй мэтанакіраванасьцю беларускія падзеі ня розьняцца ад гістарычнага працэсу іншых каляніяльных народаў сьвету, значная частка якіх ужо дасягнула сваю нацыянальную незалежнасьць.

Сто зь лішнім год таму беларускае адраджэньне пачалося з праблёскаў усьведамленьня нашым народам свае культурнае і гістарычнае апрычонасьці. Без свае інтэлігенцыі ды бяз права наагул на існаваньне, паняволеная царызмам беларускасьць стварала тады ўражаньне прадоннага заняпаду. Аднак нацыянальная стыхія захавала ўсё-ж і пры гэткіх умовах сваю жыцьцяздольнасьць ды ўраджайнасьць адраджэнскае глебы. Беларускі народ праз сваіх перадавых прадстаўнікоў пачаў усьведамляць сабе, што ён зьяўляецца гістарычнай адзінкай і мае права дамагацца ад сваіх прыгняталькікаў усіх правоў, зьвязаных з гэтым. Пачатае Дунінам Марцінкевічам культурнае адраджэньне, у дзейнасьці, праводжанай Каліноўскім і Грынявецкім, перарасло ў збройнае змаганьне. Багушэвіч з Каганцом прыпаміналі народу ягоную страчаную дзяржаўнасьць — Вялікае Княства Літоўскае. Беларуская Сацыялістычная Грамада ўжо ў пачатку гэтага стагодзьдзя пачала сваю дзейнасьць ад дамаганьня фэдэрацыі Беларусі з Расеяй.

Скасаваньне ў 1905 годзе забароны беларускага друкаванага слова, рэвалюцыйныя забурэньні на Беларусі, 9 год выхаду «Нашае Нівы», доўгія гады напружанае працы бела-

рускіх патрыётаў, турмы й перасьледы з боку царскіх уладаў — усё гэта ня толькі загартавала сілу беларускага нацыянальнага адраджэньня, але адначасна паказала й той палітычны кірунак, дзе беларускі народ змог-бы раз назаўсёды пакончыць з пакутамі ў складзе расейскай імпэрыі. Таму зусім пасьлядоўным і натуральным быў той факт, што дэмакратычна скліканы ў канцы 1917 году Першы Ўсебеларускі Кангрэс бадай аднадушна выказаўся за адбудову свае собскае беларускае дзяржавы, якая была абвешчана 9-га сакавіка 1918 году, як Беларуская Народная Рэспубліка. Урэшце Актам 25 сакавіка 1918 году гэтая Рэспубліка становіцца незалежнай дзяржавай. Цэлым шэрагам эўрапэйскіх краінаў яна была прызнана дэ юрэ або дэ факто і мела ў гэтых краінах свае дыпляматычныя прадстаўніцтвы.

Бальшавіцкая збройная навала з Усходу і здушэньне маладое беларускае рэспублікі — гэта вялікае няшчасьце для нашага краю. Але ўсё-ж Акт 25 Сакавіка застаўся асноўным і накіроўваючым стымулам, які — мы цьвёрда верым у гэта! — давядзе Беларусь да поўнае нацыянальнае свабоды.

(Тэкст Акту 25-га Сакавіка)

24.3.56 **Я. Запруднік**

## ЁН ПРЫДЗЕ, ГЭТЫ ДЗЕНЬ!

### (Літаратурна-мастацкі мантаж)

Ён прыдзе, гэты Дзень!
Ён ня прысьці ня можа . . .

Так — ён прыдзе! Аб гэтым сьветчыць цэлая гісторыя вызвольнага змаганьня нашага народу. Свабода, што зацьвіла над краем 25-га Сакавіка 1918 году, радзілася цаной ахвяраў у барацьбе за нашыя нацыянальныя й сацыяльныя правы. Ужо Кастусь Каліноўскі падымаў беларускі народ бараніць гэтыя правы. За гэта Каліноўскі заплаціў жыцьцём, але змагарны дух ужо ня згас. Яго будзілі ваякі Пагоні.

(Песьня «Пагоня»)

Ня стрымаць было і імкненьня народу да нацыянальнай і сацыяльнай справядлівасьці.

(Верш Янкі Купалы «На Сход»)

Ня гледзячы на збройную інтэрвэнцыю бальшавікоў,

Беларусы, вуснамі сваіх свабодна выбраных прадстаўнікоў, абвесьцілі сьвету аб іхняй непахіснай волі быць свабоднымі: «Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай».

(Песьня «Падняты родны сьцяг дзяржавы»)

Ужо ў той час сучасныя панявольнікі Беларусі, бальшавікі паказалі ўсю сваю крывадушнасьць і свае запраўдныя мэты. Ідучы зь лёзунгамі аб пашане нацыянальных правоў беларускага народу, яны таптал́і гэтыя правы, як топчуць іх цяпер. Яны кінулі свае сілы супраць маладой дэмакратычнай Рэспублікі. Пачалося няроўнае змаганьне. Першымі падняліся Случчакі. Далей, цэлы сьцяг паўстаньняў загарваўся на Беларусі. Там, дзе яны былі здушваныя, лясы напаўняліся партызанамі, што былі гатовы аддаць жыцьцё за свабоду, зь цьвёрдай верай аб канчальнай перамозе.

(Песьня «Марш партызанаў»)

Насадзіўшы штыхамі сваю ўладу ў Усходнай Беларусі ды прадаўшы Заходнюю Беларусь Палякам, бальшавікі пачалі пасьлядоўнае зьнішчаньне лепшых сыноў Беларусі, якія працягвалі адкрытае й тайнае змаганьне за волю свае Бацькаўшчыны. Беларускі народ ніколі не забудзецца іхняй ахвяры.

(Жалобны марш)

Змаганьне йдзе далей. Змаганьне за волю, за прынцыпы свабоды й дэмакратыі, абвешчаныя 38 гадоў таму: «Беларусь у межах расьсяленьня і лічбовай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай».

Што-ж далі нам бальшавікі? У вабрэзанай тэрытарыяльна Беларусі пануе не народ, а чужая нам дыктатура. «Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на падставе агульнага, роўнага, беспасярэднага, тайнага й прапарцыянальнага выбарчага права, бяз розьніцы роду, нацыянальнасьці й веравызнаньня».

А хто-ж цяпер робіць законы ў Беларусі? Ці наш народ мае магчымасьць вольнага дэмакратычнага выбару сваіх прадстаўнікоў? Заміж іх, кіруюць народам сатрапы, насаджаныя чужой дыктатурай.

« . . . Бяз розніцы роду, нацыянальнасьці й веравызнаньня . . . » Наша Бацькаўшчына мае глыбогія традыцыі таля-

рантнасьці. Калісь, яна была прыпынішчам і Бацькаўшчынай для ўсіх перасьледаваных — бяз розьніцы роду, нацыянальнасьці й веравызнаньня. Гэта быў адзін зь першых непарушных прынцыпаў, які аднавіў наш народ 38 год таму. А цяпер? Навет сам беларускі народ зьяўляецца паняволеным на сваёй роднай зямлі.

«У межах Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, бязумоўная свабода веравызнаньняў, недатыкальнасьць асобы й памешканьня.»

Гэтыя свабоды забясьпечваліся ўсім жыхаром Беларусі. Цяпер яны топчуцца на нашай зямлі чужой дыктатурай. Але Беларусь верыць у іх зварот. Сяньня яна ўзносіць за гэта малітву да Ўсемагутнага.

(Песьня «Магутны Божа»).

Цяпер сучасныя валадары выракаюцца Сталіна, які стаптаў у свой час нацыянальную й сацыяльную свабоду й нашага народу. Але гэтыя валадары топчуць яе й далей. Таму Беларусь будзе працягваць змаганьне пакуль у ёй не запануюць прынцыпы, абвешчаныя Сакавіковым Актам 1918 году — пакуль у ёй не запануе свабода.

Ён прыдзе, гэты Дзень!
Ён ня прысьці ня можа!
(«Мы выйдзем шчыльнымі радамі . . . »)

24.3.56 **Ул. Цьвірка**

## «НОВОЕ ВРЕМЯ» ХВАЛЮЕЦЦА

1-га красавіка гэтага году, у тыднёвіку «Новое Время», што выдаецца ў Маскве ў расейскай і чужаземных мовах, зьявіўся вельмі цікавы артыкул. У ім вычуваюцца ноткі ня толькі непакою, але й проста-ткі панікі. У чым-жа справа? Вось-жа, як мы ўжо паведамлялі раней, бургамістр Нью Ёрку Робэрт Вагнэр адмысловай граматай абвесьціў дзень 25-га сакавіка Беларускім днём у Нью Ёрку з нагоды 38-ых угодкаў абвешчаньня вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, што была пазьней зьліквідаваная бальшавікамі.

Хваляваньне тыднёвіка «Новое Время» зусім зразумелае. Бальшавіком не на руку, што жыхаром найбольшага гораду

ў наймагутнейшай вольнай краіне прыпамінаюць аб камуністычным гвалце над воляй народу ўваднэй з сучасных савецкіх рэспублік. Абыйсьці моўчкі гэты факт, відаць, «Новое Время» не магло. Таму заставаўся адзіны выхад — стары сталінскі мэтад хвальшаваньня гістарычных фактаў ці навет нязначных дробязяў. Стараючыся забыцца на гіронію, артыкул піша: «Сп. Вагнэр радзіўся ў 1919 годзе, і можа ня памятае, што дзеілася ў Менску ў 1918 годзе». Хвальш з самага пачатку, бо Робэрт Вагнэр радзіўся ў 1910-ым, а не 1919 годзе, як падае «Новое Время». Калі-б гэта навет было праўдай, дык каго такі сьмешны аргумант пераканае? Ці трэба быць абавязкава навочным сьветкам гістарычных падзеяў, каб быць пэўным у іх аўтэнтычнасьці? Ад народу ня ўтоіш аб'ектыўнае праўды, навет ужываючы сталінскія мэтады. Аднак бальшавіком нічога іншага не застаецца, і ў гэтым выпадку яны й далей верна крочаць па шляху свайго крывавага папярэдніка. Найлепшым прыкладам гэтага і зьяўляецца ўспомнены артыкул у «Новое Время», які намагаецца прадставіць Беларускую Народную Рэспубліку, як твор рэакцыянэраў і эксплёататараў. У артыкуле чытаем: «У 1918 годзе, пры дапамозе нямецкіх штыхоў, кантрэвалюцыйная Беларуская Рада арганізавала ўрад, які быў выкінуты народам пры першай нагодзе». Як заўсёды ў бальшавіцкай прапагандзе, гэтак і тут — мана на мане едзе ды маной паганяе. Немцы нічым ня прычыніліся да абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Яна была абвешчана прадстаўнікамі беларускага народу. Аб гэтым бальшавікі ведаюць аж за добра, бо фактычна яны Менск пакінулі ўжо за тыдзень да прыходу Немцаў пад напорам беларускіх вайсковых групаў. Тагачасны Старшыня Саўнаркому Заходняй вобласьці Ляндэр гэтак апісваў свае ўцёкі зь Менску:

«У горадзе пачаўся рух Беларусаў, якія рыхтавалі выступленьне супраць нас ... Калі тав. Пятроў, камандант Савету, увечары выводзіў мяне з Савету праз чорны ход, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, якія шукалі мяне й таварышаў».

Гэтак пісаў адзін з тагачасных бальшавіцкіх заправілаў на Беларусі ў часапісе «Вперёд» № 1 за 1922 год.

«Новое Время» маніць далей:

«Урад БНР ... зьвярнуў сканфіскаваную зямлю абшар-

нікам ды ўвёў прымусовую працу на хвабрыках ды ў маёнтках».

Больш заілгацца ўжо немагчыма. Адзін з галоўных прынцыпаў, абвешчаны 2-ой Устаўной Граматай, гучэў вось як: «У межах Беларускай Народнай Рэспублікі . . . зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. . . Устанаўляецца найбольш 8-мі гадзінны працоўны дзень».

Мы й не спадзяваліся праўды ад рэдактараў тыднёвіка «Новое Время». Але чаму яны так раптам забілі трывогу? Адказ ня цяжка знайсьці ў самым артыкуле. Як ягоны тон, гэтак і зьмест ясна сьветчыць аб адным: бальшавікі пастарому баяцца праўды, якую раскрывае перад вольным сьветам эміграцыя аб камуністычных актах гвалту над паняволенымі народамі Савецкага Саюзу. Яшчэ больш яны баяцца сымпатыяў вольнага сьвету да гэтых народаў. Гэта яшчэ адзін доказ, што камуністыя далей будуць працягваць сталінскую палітыку нацыянальнага й сацыяльнага паняволеньня.

4.4.56 **Ул. Цьвірка**

## ПРЫЧЫНЫ АБЫЯКАВАСЬЦІ

Спад мяжы вясёлай ракетай узьвіўся ў неба жаваранак і рассыпаўся там пэрламі радаснай мэлёдыі — сыгнал вясны.

На гэты сыгнал селянін шпарка выйшаў на свае палеткі, каб пераканацца, ці ральля падсохла і ці можна араць. Яго ня пужае інтэнсыўная праца веснавога севу. Ён ведае сваю зямлю, яе кахае і яна яму адплачваецца ўзаемнасьцяй. Яго ніхто не агітуе, не намаўляе, не загадвае працаваць. Ён сам ведае, што рабіць, калі і як рабіць.

Так было калісь у нас, так цяпер ёсьць усюды, дзе няма калгасаў і камуністычнага прыгону.

А вось абразок з савецкага жыцьця паводля савецкай прэсы: «Замест сьпяшацца на поле, шмат калгасьнікаў завугольлямі ціскаецца ды сабіраецца каля калгаснага ларка і там пакурваючы талкуюць аб тым-сім, а ў гэтым часе брыгадзір Макараў ходзіць ад хаты да хаты, каб іх «змабілізаваць (чытай выгнаць) на работу».

Аб чым гутараць калгасьнікі перад пустой і зачыненай крамай — дадумацца ня цяжка. Таксама ня цяжка зразу-

мецъ, чаму яны хаваюцца ад працы на калгасным прыгоне.

А вось гляньма, як антынародная партыя заахвочвае людзей да працы.

24-га сакавіка менскае радыё перадало пастанову ЦК КПБ і Савету Міністраў БССР аб сяўбе кукурузы. На ўступе, пералічыўшы некалькі калгасаў, якія быццам-бы ў мінулым годзе мелі добры ўраджай кукурузы, радыё падало даўжэзную літанію прыкладаў правалу гэтай расьліны. І так «у Дзісьненскім раёне з 1133 гэктараў зусім загінула 507 гэктараў, у Чаўскім раёне — з 2063 гэктараў сабрана толькі па 35 цэнтнэраў зялёнай масы, а ў Гомельскім раёне яшчэ менш, бо толькі па 25 цэнтнэраў зялёнай масы з гэктара.» Горш яшчэ у Аршанскім раёне, бо раптам па 6,7 цэнтнэраў зялёнай масы на гэктар.

Мы падаём толькі некалькі прыкладаў з гэнага даўжэзнага пералічэньня сьмешна нізкіх збораў, або і камплетнага змарнаваньня найлепшай зямлі, угнаеньня і шмат працы на гэту няўдзячную культуру, якая ў нас не ўдаецца.

Але далей у гэтай самай пастанове чытаем, што сёлета на Беларусі мусіць быць засеена кукурузай аж 400 тысяч гэктараў і то найлепшай бульбянай зямлі. Значыцца, горкае дасьветчаньне мінулага году нічога не навучыла камуністычных сатрапаў. Самадур Хрушчоў сказаў, што «кукуруза мусіць расьці і ў Якуціі». Праўда, кукуруза ані думае выконваць загадаў Хрушчова і расьце толькі там, дзе яна хоча. Затое бедныя калгасьнікі мусяц хрушчоўскага самадурства слухаць і сеяць кукурузу там, дзе яна не расьце.

Ужо ад паловы зімы савецкая прапаганда перапоўненая заклікамі: «Прыгатавацца да веснавой сяўбы!» Цяпер з гэтых заклікаў стварылася цэлая какафонія. Да гэтага даходзяць трывожныя весткі, што хаця ўжо пара сеяць, шматлікія вобласьці не адрэмантавалі гападарчых машынаў. Горш бадай прадстаўляецца справа з насеньнем: у шмат выпадках засыпанае ў неадпаведным стане і благіх умовах несеньне сапсулася і не надаецца да сяўбы. Таксама прапаганда абураецца на вельмі частыя выпадкі расходваньня насеннага зерня на патрэбы калгасаў.

А вясна не чакае.

Дык вось, як бачым, калгасьнікі, хаваючыся ад работы за сьцяной ларка й гутаручы аб тым-сім, — маюць тэмаў да гэтых гутарак і прычынаў жадаць анты-народнай пар-

тыі ды калектыўнай дыктатуры скулаў у бок ды іншых сьмяротных пошасьцяў.

Хай-жа дыктатура зьнясе калгасны прыгон і зьверне зямлю селяніну, а тады ня будзе патрэбы заахвочваць яго да работы ды агітаваць на энтузіязм.

6.4.56 пс

## САВЕЦКАЯ ГІСТАРЫЯГРАФІЯ ПРЫ НОВАЙ «ГЕНЭРАЛЬНАЙ ЛІНІІ»

Ці мы будзем называць апошнія падзеі ў Савецкім Саюзе заламаньнем партыйнай ідэялёгіі, ці ліквідацыяй культу адзінкі, ці нейкім іншым, менш нявінным, тэрмінам — сутнасьць рэчы застаецца нязьменнай: камуністычная партыя з усім сваім ідэялёгічным багажом апынулася ў тупіку — тыпічны і няўхільны крызыс кажнае дыктатуры — «пралетарскае» ці «буржуазнае».

Удар атрымаўся тым больш эфэктоўным, што да апошняга часу партыйная прапаганда ўзносіла на паднебныя вышыні **непамыльнасьць** партыі, што вынікае быццам зь ейнага народнага характару.

Калі-б пашукаць кароткага й яркага параўнаньня да таго, што сталася цяпер у савецкай імпэрыі, дык хіба нічога лепшага мы не знайшлі-б, як гэны біблійны хаос пры будове Бабілёнскае вежы. Зусім зразумела, што ад гэтага камуністычнага стаўпатварэньня пацярпела й бальшавіцкая гістарыяграфія, беларускаму аспэкту якое мы хацелі-б прысьвяціць тут колькі заўвагаў.

У БССР бадай на працягу 20-ёх год зь гісторыі Беларусі ня было ніякага падручніка, ня гледзячы на існаваньне ў Менску Акадэміі Навук Беларускай ССР. Пасьля разгрому Крамлём беларускіх культурных сілаў у пачатку трыццатых гадоў, была зьліквідавана таксама і ўся іхная навуковая спадчына. Тады-ж загінуў і папулярны падручнік зь беларускае гісторыі прафэсара Ігнатоўскага. Да 1954 году вучні, студэнты й настаўнікі беларускіх навучальных установаў мусілі задавольвацца саматужнымі канспэктамі, бо беларуская акадэмія навук не магла нічога канкрэтнага сказаць на тэму гісторыі Беларусі.

Урэшце, у 1954 годзе, у вялікіх муках, быў сплоджаны першы том «Гісторыі БССР», груба падагнаны пад вымогі

русыфікацыйнае акцыі на Беларусі. Цяпер гэтая псэўданавуковая цэгліна з Бабілёнскае вежы аказалася вылепленая з парахна. Бо сёлетні другі нумар «Вопросов Истории», з уласьцівым яму «непамыльным» тонам заяўляе, што да гэтага часу ў савецкай гістарыяграфіі хвальшыва асьвятлялася гісторыя нерасейскіх народаў, што «ўсе нацыянальныя рухі абвяшчаліся рэакцыйнымі» ды што наагул у савецкай гістарычнай навуцы ўкараніліся «дагматызм і начытніцтва, вульгарызацыя й каньюнктуршчына, намаганьні палепшыць або пагоршыць гісторыю». Да чаго лепш, як не да гісторыі Беларусі адносіцца гэтая антынавуковая існасьць бальшавіцкае навукі!

«ЦК КПСС . . . паставіў перад часапісам «Вопросы Истории» заданьне павысіць тэарэтычны ўзровень артыкулаў . . . » — заявіла нядаўна Панкратава — галоўны рупар савецкае гістарыяграфіі — на канфэрэнцыі чытачоў і супрацоўнікаў «Вопросов Истории».

Новая «генэральная лінія» ў гістарычнай навуцы дае быццам гісторыкам нерасейскіх народаў магчымасьць дыхнуць крыху вальней у распрацоўцы гісторыі сваіх краін. Яна дае дазвол (раўназначны, пэўна-ж, катэгарычнаму вымаганьню) даводзіць, што «прылучэньне нерасейскіх народаў да Расеі несла гэтым народам нацыянальна-каляніяльны ціск». Аднак тут-жа, усе гэтыя гісторыкі бяруцца на павадок старое, яшчэ да-сталінскае імпэрыялістычнае догмы: «(Гістарычная) літаратура **павінна** працягваць распрацоўку **прагрэсыўных** вынікаў далучэньня нерасейскіх народаў да Расеі . . . »

Як бачым, вуглавы камень хвальшывае бальшавіцкае будыніны ў гісторыі нерасейскіх народаў, а ў тым ліку й беларускага, застаўся той самы. Пісаць і надалей трэба будзе тое, чаго вымагае ўсемагутнае ЦК КПСС.

Аднак, нельга забывацца, што гісторыя, з аднаго боку — гэта навука аб мінулым, а значыцца, у бальшыні выпадкаў — аб невядомым. З другога боку, гісторыя — гэта бесстароньняе пераказваньне ў зразумелай нам мове зьместу розных дакумэнтаў і гістарычных помнікаў. Гісторыя мусіць гаварыць аб тым, што **было**, а не аб тым чаго хоча партыя. Таму вось гэтыя «мы павінны» ды «мы мусім», якімі бязь зьмены шпіцуе дыктатура савецкую гісторыяграфію, змусяць калісьці праўдзівую гістарычную навуку яшчэ раз, —

і канчальна, — заявіць аб усіх гэтых «вульгарызмах, начытніцтвах ды каньюнктуршчынах», пра якія гавораць цяпер бальшавіцкія крытыкі, атакуючы сталінскі пэрыяд.

Біблія расказвае нам, што будаўнікі Бабілёнскае вежы зь пераблытанымі глуздамі разбрыліся па сьвеце так і не дасягнуўшы да Бога. Крамлёўскія-ж маньякі, ак бачым, з упорыстасьцяй, характэрнай дыктатарам, намагаюцца яшчэ сабраць грузы свае разваленае ідэялягічнае будыніны, каб па гэтых нікчэмных руінах ізноў лезьці на вышыні непамыльнасьці ды ўяўнай сувязі з народнымі масамі.

Паняволеным народам Савецкага Саюзу, акрамя новых няшчасьцяў і новае блытаніны, гэта напэўна нічога ня прынясе.

7.4.56 **Я. Запруднік**

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ

Выдавецтва «Бацькаўшчына» ў Мюнхэне выпусьціла вялікі й прыгожа аформлены альманах твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на эміграцыі пад назовам «Ля чужых берагоў». Гэты факт мае вялікае значэньне ў беларускім эміграцыйным культурным і нацыянальным жыцьці. Праўда, і дагэтуль беларускія эміграцыйныя паэты й пісьменьнікі выпускалі зборнікі сваіх твораў, а так-жа друкавалі іх у розных беларускіх літаратурных часапісах. Але ў альманаху «Ля чужых берагоў» выступілі разам усе найвыдатнейшыя нашыя літаратурныя працаўнікі на чужыне, даючы такім чынам да некаторае меры цэлы й закругленны абраз іхнай мастацкай прадукцыі. Тут мы знаходзім вялікі выбар паэзіі й мастацкай прозы пятнаццацёх наступных аўтараў: Натальлі Арсеньневай, Уладзімера Дудзіцкага, Міхася Кавыля, Уладзімера Клішэвіча, Рыгора Крушыны, Алеся Салаўя, Пётры Сыча, Масея Сяднёва, Сяргея Ясеня, Ларысы Геніюш, Хведара Ільляшэвіча, Лявона Случчаніна, Васіля Бірыча, Юркі Віцьбіча і Марціна Люціча.

У вадным із зьмешчаных у альманаху вершаў Натальля Арсенева гаворыць:

О, Беларусь, хай так — мы зь верай,
Цябе і ў далеч панясём!

Словы гэтыя могуць служыць за мотто ня толькі альманаху,

але і ўсяе беларускае эміграцыйнае літаратуры. Яны праўдзіва адлюстроўваюць тыя высокія заданьні, якія ўзялі на сябе беларускія паэты й пісьменьнікі на эміграцыі. На іхную бо долю выпала ў песьнях і мастацкіх вобразах несьці ў далеч Беларусь, у думках і жаданьнях іхных несьці вольную Беларусь у вольны сьвет, бо на Бацькаўшчыне, дзе шалее жахлівае паняволеньне, паняволена таксама і літаратура. Толькі на чужыне, дзе ўдалося знайсьці гасьцінны прыпынак беларускай эміграцыі, асталася адзіная магчымасьць захоўваць цягласьць нашай нацыянальна-вызвольнай ідэі, разьвіваць і тварыць беларускія культурныя цэннасьці.

Паэты й пісьменьнікі, творы якіх трапілі ў альманах, усе бяз вынятку належаць да новай беларускай эміграцыі. Амаль усе яны пачалі пісаць яшчэ на бацькаўшчыне, а некаторыя, як Натальля Арсеньнева і Юрка Віцьбіч, былі ўжо там шырака ведамымі й агульна прызнанымі. Там яны годна дзялілі лёс усіх ахвярных змагароў за народную справу, аб чым сьветчыць факт, што бальшыня зь іх — гэта былыя вязьні савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў.

У галіне тэматыкі творчасьць нашых эміграцыйных аўтараў канцэнтруецца галоўным чынам на адных і тых-жа мамэнтах. Гэта падзеі з паднявольнага жыцьця на бацькаўшчыне, якія найчасьцей раскрываюць тыповыя там у сваёй жахлівасьці выпадкі, калі або самі аўтары або іхныя героі трапляюць у сутык з усемагутным НКВД і становяцца ягонымі ахвярамі; падзеі з часоў апошняе вайны й жыцьця на бацькаўшчыне, а пазьней у Нямеччыне, дзе пісьменьнікі апынуліся; жыцьцё й праца ў краінах вольнага сьвету.

Дамінуючая рыса ў іхнай творчасьці — гэта шчырыя й глыбокія патрыятычныя эмоцыі. Кажны паэта канкрэтызуе іх пасвойму ў залежнасьці ад асаблівасьцяў свайго таленту. Але сіла, глыбіня й праўдзівасьць паэтычнай рэакцыі на ўспамін аб родным краі і ягоным сяньняшнім лёсе ды на адчуваньне сваей адарванасьці ад яго бадай што ў кажнага зь іх узьведзеныя да найвышэйшай ступені. Таму нашая эміграцыйная паэзія авееная глыбокім сумам, у ёй часта зьвіняць мінорныя тоны. Але з асаблівым націскам трэба падчыркнуць, што сумныя й тужлівыя тоны гэтае паэзіі ніколі не пераходзяць у роспач і безнадзейнасьць. Асноўнай пазытыўнай рысай гэтае паэзіі ёсьць цьвёрдая й непахісная вера ў будучыню, а так частыя ў ёй абнадзейваньні аб бяссумлеў-

насьці павароту ў родны край гучаць рэальнай праўдзівасьцю. Гэта найвымоўнейшы довад, што ані цяжкі лёс, які адарваў нас ад роднага краю, ані ўсьведамленьне факту, што край наш і народ крывавяцца пад цяжарам няволі, нас не зламалі на духу і не аслабілі веры ў перамогу.

Але ня гледзячы на ўсе цяжкасьці эміграцыйнага жыцьця, у вадным дачыненьні нашыя паэты й пісьменьнікі на чужыне знаходзяцца ў шмат шчасьлівейшым палажэньні, чымся іхныя сябры па пяру на бацькаўшчыне, якімі гэтак «чула» апякуецца партыя і ўрад, абчэплівае ордэнамі ды прызнае ўсякія прэміі. Бо калі там на бацькаўшчыне «чужыя людзі ловяць песьню, каб у вастрог яе загнаць», як вобразна выразіўся ў альманаху Рыгор Крушына, нашыя паэты на эміграцыі ашчасьліўленыя тым найвялікшым, чаго на бацькаўшчыне няма: яны вольныя й могуць свабодна тварыць! Гэта дае ім вялікія магчымасьці захаваць і годна прадаўжаць у прыгожым слове й мастацкім вобразе цягласьць беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі, а таксама ўзмацняць веру ў суродзічаў-эмігрантаў, што дзень вызваленьня прыйдзе.

8.4.56 **Ст. Станкевіч**

## НАСТУП НА КАЛГАСЬНІКАЎ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

У пастанове ЦК партыі й савецкага ўраду аб зьменах статуту сельскагаспадарчай арцелі некалькі разоў падкрэсьліваецца, што калгасьнікі зьяўляюцца поўнымі гаспадарамі калгаснай маемасьці. «Сельска-гаспадарчая арцель, адзначана ў гэтай пастанове, гэта калектыўная гаспадарка добраахвотна аб'яднаных сялянаў, сябры арцелі самі распараджаюцца прадуктамі й маёмасьцю арцелі.»

Аднак на справе вынікамі працы прыгоннага сялянства распараджаецца савецкая дзяржава, і ўся пастанова аб зьмене статуту накіравана на тое, каб калгасьнікі паслухмяна працавалі і здавалі прадукты дзяржаве.

Каб лягчэй было спраўляцца з калгасьнікамі, ЦК партыі паслаў дзесяткі тысяч камуністых на кіруючыя пасады ў калгасы і МТС. Толькі ў леташнім годзе было назначана на калгасных старшыняў трыццаць тысяч камуністых. Гэтыя

«пасланцы» партыі паехалі ў калгасы з тым, каб прымусіць калгасьнікаў поўнасьцю выконваць усе загады й патрабаваньні камуністычнай партыі. Таксама й апошнія зьмены калгаснага статуту праводзяцца пад іхным наглядам.

Вось «Советская Белоруссия» з 11-га красавіка гэтага году расказала, як адбыўся ў калгасе «Запавет Ільіча», Горацкага раёну, агульны сход калгасьнікаў. На сходзе абмяркоўвалася пастанова ЦК партыі і ўраду аб зьменах статуту. Аднак ужо да агульнага сходу ўсе пытаньні былі вырашаны на паседжаньні ўправы калгасу. Перш за ўсё была зьменена плошча прысялібных дзялянак калгасьнікаў — з паўгэктара да 0,35 гэктара. На агульным сходзе калгасьнікі запратэставалі: «Мала, трэба пакінуць паўгэктара»! Аднак пратэсты не дапамаглі. На сходзе прысутнічаў сам сакратар Горацкага райкому партыі Мазур. Ён «растлумачыў», што прапанаваны ўправай калгасу памер прысялібнае дзялянкі «сумленнаму калгасьніку» дастатковы. Давялося згадзіцца з «тлумачэньнем» сакратара райкому, бо трапіць у лік «нядбайных калгасьнікаў» небясьпечна.

Управа калгасу зацьвердзіла і новы мінімум працадзён. Да гэтага часу кажны працаздольны калгасьнік павінен быў выпрацаваць 120 працадзён у год. Цяпер-жа мужчынам накінута норма 300 працадзён, а жанчынам — 180. Ня звольнены ад калгаснай працы навет жанчыны, што маюць малых дзяцей; іх забавязвае норма ня менш за 100 працадзён.

Надзяляць калгасьнікаў прысялібнай зямлёй будзе сама ўправа арцелі, бяручы моцна на ўвагу адносіны сялян да калгаснай працы. Управа калгасу мае права ня толькі паменшыць, але й зусім пазбавіць калгасную сям'ю прысялібнае дзялянкі.

У гэтым чарговым наступе камуністычнай дыктатуры на сялянства асабліва кідаецца ў вочы пагоршаньне праўнага становішча жанчыны-маткі, пазбаўленае сацыялістычнай дзяржавай элемэнтарнага права.

Амаль 100 гадоў таму сяляне на прыгоне працавалі тры дні ў тыдзень. Удасканалены савецкі прыгон шматмільённае сялянства пазбавіў усялякае свабоды.

Калгасьнікам засталося толькі адно: слухаць і выконваць загады антынароднай бальшавіцкай партыі. Калгасы — варожая сялянству форма сельскае гаспадаркі. Слова «калгасьнік» — чужое й варожае селяніну слова: яно абра-

жае годнасьць чалавека-селяніна й ператварае яго ў нявольніка калгаснай савецкай паншчыны.

3.5.55 **С. Сімановіч**

## НОВАЯ САВЕЦКАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

Сьмерць Сталіна стварыла вялікае замяшаньне й перапалох у радох ягоных услужлівых і адданых вучняў тыпу Хрушчова, Маленкова, Булганіна ды да іх падобных. Вычуваючы сваю слабасьць і няздатнасьць да кіраваньня ды баючыся выбуху народнага гневу, апошнія — сяньняшнія дыктатары — пайшлі на вялікую правакацыйную хітрасьць: яны зьвінавацілі і зьліквідавалі Бэрыю і быццам-бы пачалі клапаціцца аб лёсе народу, аднак мэты не дасягнулі, бо чорны калаўрот няшчасьцяў і няволі круціўся ня рукамі аднаго Бэрыі, а ўсяе камуністычнае партыі пад дыктатарствам Сталіна. Перапалоханыя спадкаемцы «правадыра», каб як-небудзь прыбраць да рук народы ды «пусьціць дым» у вочы народным масам вольнага сьвету і захаваць бальшавіцкую сыстэму, пайшлі на апошнае — дэтранізацыю Сталіна, ды, стукаючы кулакамі ў грудзі, пачалі гаварыць пра ягоныя памылкі і «плакаць» пра ахвяры, укаранаванага імі-ж культу памерлага дыктатара, і чуць не гаварылі: «Бачыце, як баліць нашае сэрца». Але сьвет «раскусіў» і гэты манэўр. Адначасна пафэсыйныя інтрыганы, Хрушчоў і Булганін, пачалі навязваць пэрсанальныя кантакты зь кіраўнікамі гасьцей і цешыць іх прыемнымі казкамі пра тое, што ніколі ня збудзецца. Ану-ж і паверацъ . . .

Заяву працаўніка МВД праваднiку дэлегацыі францускіх сацыялістых, аб ліквідацыі канцэнтрацыйных лягераў у Савецкім Саюзе ды іншыя рэформы ў сыстэме прымусовае працы нельга прыняць усур'ёз: яна прадыктавана ЦК КПСС і разьлічана выключна на прапагандовы эфэкт у вольным дэмакратычным сьвеце, мэтай якога зьяўляецца ўмацаваньне аўтарытэту «калектыўнага кіраўніцтва», што, дэтранізаваўшы Сталіна, нібыта імкнецца ня толькі палепшыць матарыяльны стан народаў, але й зьліквідаваць канцэнтрацыйныя лягеры ды зрабіць нейкія рэформы ў сыстэме прымусовае працы. Вельмі добра . . . Аднак, у сувязі з гэтым паўстае цікавае пытаньне: ці могуць бальшавікі пайсьці

на такі рызыкоўны крок? Прыпусьцім, што «майстры магічных мэтамарфозаў» згадзіліся-б, і ўсё яно так і сталася — Савецкі Саюз без канцлягераў і прымусовае працы... Якое нечаканае шчасьце!... У гэткім выпадку ўзнікае другое і ўжо вельмі інтрыгоўнае пытаньне: што-б тады рабілі бальшавікі і што-б сталася ў Савецкім Саюзе ці, навет, з Савецкім Саюзам і самімі бальшавікамі? Мы ўлічаем усё: і тое, што вярблюд можа пралезьці праз іголкавае вушка, і тое, што можна дыктаваць народам загады і страшыць іх кіраванымі зь міжплянэтных прастораў радыяактыўнымі праменьнямі ці іншымі сіламі, і трыманыя ў Крамлі новыя тактычныя вынаходзтвы ды іншыя фактары, аднак, з нашых зусім не прароцкіх прадбачваньняў выходзіць лягічны адказ: самі бальшавікі нічога-б ужо не рабілі, яны былі-б зьнішчаныя народам разам з канцэнтрацыйнымі лягерамі; у межах сяньняшняга Савецкага Саюзу пачалося-б будаваньне новага жыцьця свабодалюбных народаў і пра Савецкі Саюз засталіся-б найстрашнейшыя ўспаміны. Усё гэта, разам узятае, гаварыла-б пра тое, што бальшавіцкая партыя пайшла на гэты крок, вычуваючы сваю поўную бездапаможнасьць. Але-ж да гэтае бездапаможнасьці бальшавікі ня прыдуць, як і ня могуць існаваць бяз сыстэмы прымусовае працы.

**Папершае,** паняволеныя бальшаввікамі народы зьяўляюцца сьмяротнымі ворагамі камуністычнае партыі й пастаўленых ёю камуністычных урадаў, а гэта значыць, што калектыўныя дыктатары будуць, як і дасюль, весьці жорсткае змаганьне з гэтымі народамі і «перавыхоўваць» іх у мясьцінах цяжкае прымусовае працы ў розных ейных формах.

**Падругое,** нацыянальна-вызвольны рух паняволеных народаў расьце з кажным днём і, як лягічны вынік, ставіць перад вялікай небясьпекай камуністычную партыю і Савецкі Саюз наагул, а гэта значыць, што «калектыўныя правадыры» яшчэ з большай жорсткасьцяй будуць весьці змаганьне з гэтымі народамі й вынішчаць іх у мясьцінах цяжкае прымусовае працы ў розных ейных формах.

**Патрэйцяе,** вольны дэмакратычны сьвет, тое, што бальшавікі завуць «капіталістычным акружэньнем» і чаго страшэнна баяцца, хоць і прыкідаюцца небаязьлівымі, уплываў і будзе ўплываць на рост антыбальшавіцкага змаганьня паняволеных народаў, а гэта, у сваю чаргу, абазначае, што бальшавікі ў даўно заплянаваным наступе на вольны сьвет

будуць весьці наступ на «ворагаў народу» (ворагаў дыктатуры, разумеецца) і дабіваць іх у мясьцінах цяжкае прымусовае працы ў розных ейных формах.

Канцэнтрацыйныя лягеры, як і прымусовая праца наагул, ня могуць быць зьліквідаваныя і з увагі на краінысатэліты, народы якіх даўно ўжо «варацца» і «пераварваюцца» ды будуць «пераварвацца» ў савецкім катле аж да зьнішчэньня бальшавізму, як гэта маем прыклад з балтыцкімі народамі, і апошнім часам — з тысячамі няшчасных людзей камуністычнага Кітаю.

Праўда, бальшавікі могуць «зрэфармаваць» сыстэму прымусовае працы, — канцлягеры, скажам, назваць «папраўчапрацоўнымі калёніямі», «дамамі адпачынку псыхічна хворых» і навет «санаторыямі сацыялізму», а нявольніка, напрыклад, — «дабраахвотным будаўніком камунізму», але-ж гэтым ня пераменіцца сутнасьць савецкай катаргі. Гэта-ж было-б тым самым, што ЧК—ГПУ—НКВД—МГБ—МВД або Камінтэрн—Прафінтэрн—Камінформ ці КПБ—КПСС.

Як ні круці, але-ж сам СССР — гэта-ж і ёсьць нішто іншае, як канцэнтрацыйны лягер паняволеных народаў або, як гавораць падсавецкія людзі, — Саюз Самага Страшэннага Разбою.

Вось чаму народы вольнага сьвету, як і паняволеныя бальшавікамі, ведаюць, што заява працаўніка МВД пра скасаваньне канцэнтрацыйных лягераў у СССР зьяўляецца нічым іншым, як новай савецкай правакацыяй.

15.5.56 **Ул. Дудзіцкі**

## СУМНЫЯ ЮБІЛЕІ

Летась споўнілася роўна 25 год ад таго часу, калі бальшавіцкія ўладары ў Беларусі ўчынілі першы масовы пагром нацыянальных беларускіх навуковых і культурна-асьветных установаў. Тады апынуліся былі ў падвалах ГПУ, а пазьней у канцэнтрацыйных лягерах найвыдатнейшыя прадстаўнікі навукі й мастацтва — мозг нацыі, а ў першую чаргу акадэмікі й навуковыя супрацоўнікі Беларускае Акадэміі Навук, як: Цьвікевіч, Вацлаў Ластоўскі, Аркадзь Смоліч, Язэп Лёсік, Сьцяпан Некрашэвіч, рэктар Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту прафэсар Уладзімер Пічэта,

Максім і Гаўрыла Гарэцкія, прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Дыла, Дубінскі, а сьледам за імі — Народны Камісар Асьветы БССР Антон Баліцкі ды дзесяткі пісьменьнікаў, пэдагогаў, работнікаў краязнаўства, студэнтаў, — агулам бяручы, больш за 300 асобаў.

Дзеля апраўданьня свайго злачынства, бальшавікі вінавацілі іх у зрадзе, абзывалі з пагардай рознымі мянушкамі, накшталт «фашыстыя», «нацдэмы» й г. д. Бальшавікі намагаліся штучна схвабрыкаваць г. зв. паказовы працэс «ворагаў народу» — беларускіх «нацдэмаў». Толькі пасьля таго, як прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук — акадэмік Усевалад Ігнатоўскі, сябра камуністычнай партыі і ейнага ЦК, у знак пратэсту скончыў самагубствам, а народны паэта Беларусі Янка Купала зрабіў спробу самагубства праз харакіры ды ў выніку масавых пратэстаў сярод беларускага грамадзтва Заходняе Беларусі, Летувы й Лацьвіі — працэс быў адкліканы, але ніхто з арыштаваных, за выняткам праф. Пічэты, не пабачыў больш сьвету.

Сьледам за разгромам нацыянальна-культурнага й навуковага цэнтру краю, пачаўся й крывавы паход бальшавізму на аснову нацыі сялянснтва. Пад стогны тэрарызаванага насельніцтва, камуністычны высланьнік Крамля, «чырвоны прафэсар» Горын (Каляда), прызначаны за Прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук, з дапамогай ГПУ рашчышчаў дарогу злачыннаму камунізму ў беларускай навуцы ды вынішчаў усё нацыянальнае. Знайшліся былі тады памагатыя ў ягонай юдавай рабоце і на месцы. Розныя Вальфсоны, Шчарбаковы ды ім падобныя завіхаліся ня менш за Горына, але ў сваім халуйстве не дагадзілі рэжыму й таксама былі зьліквідаваныя. І ніхто шкадаваць ці праліваць сьлёзы па гэтых камуністычных падручных ня зьбіраецца. Гэта яны давялі да таго, што вышэйшая навукова-дасьледчая ўстанова рэспублікі была пазбаўлена навет свайго нацыянальнага імя.

9-га ліпеня 1936 году Рада Народных Камісараў БССР, за подпісам Галадзеда, ліквідаванага пазьней таксама, назоў Беларускае Акадэміі Навук замяніла на Акадэмію Навук БССР. Праўду кажучы, дык гэты новы назоў больш стаў адпавядаць зьместу дзейнасьці, канчальна ўпрэжанай у вагloблі камуністычнае дактрыны, Акадэміі, дзе па сутнасьці засталося вельмі мала чаго беларускага.

Акадэмія Навук БССР асабліва ў галіне гуманітарных

навук, дый ня толькі гуманітарных, ад гэтага часу перастала быць асяродкам аб'ектыўнага й свабоднага вывучэньня мінулага свайго краю й народу. Яна замянілася на верную й пакорную служку выконваньняў утылітарных дэмагагічна-прапагандовых патрэбаў рэжыму. Ніхто з тых сумленных людзей навукі, што іх змусіў рэжым да працы ў сваёй акадэміі, ня мае і мець ня можа магчымасьці вольна выказаць свае запраўдныя істотныя неабмежаваныя пагляды й думкі. Здабытую праўду ў працягу шматгадовых упорыстых дасьледваньняў, яны вымушаны з болем сэрца захоўваць унутры сябе, калі толькі яна не адпавядае вымогам «марксыцкай» дагматыкі або вымогам партыйнага наказу дадзенага этапу. Яны вымушаны крывіць душой, хвальшаваць гістарычныя факты, пісаць ды нанава перапісваць гісторыю, у залежнасьці ад паваротаў курсу дыктатуры, у залежнасьці ад таго, хто выпхнуўся наперад — адзін самаўладны дыктатар ці гэтак званы калектыў.

Прыгадваючы сяньня яшчэ адзін сумны юбілей, 20-я ўгодкі ад дня ліквідацыі Беларускай Акадэміі Навук, ня трацьма надзеі: праўда ўрэшце запануе на сьвеце. Апаганеныя цяпер імёны беларускіх мучанікаў навукі й культуры будуць успомненыя, настане яшчэ час, калі ўсе сумленныя людзі навукі будуць магчы спакойна, бяз страху аддаваць свае веды народу. Больш вытрываласьці й цярплівасьці.

16.5.56 **Г. Няміга**

## ДВАЦЦАЦІГОДЗЬДЗЕ «ПЕРАДАВОЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ НАВУКІ БССР»

Сёлета ў ліпені спаўняецца дваццаць гадоў існаваньня скамунізаванае Акадэміі Навук БССР, што паўстала на аснове разгромленае бальшавікамі Беларускае Акадэміі Навук.

Вышэйшая навукова-дасьледчая ўстанова Беларусі — Беларуская Акадэмія Навук, скарочана БАН, праіснавала 7 гадоў — ад 13-га кастрычніка 28-га году да 9-га ліпеня 1936-га году і паўстала з рэарганізаванага Інстытуту Беларускае Культуры, скарочана — Інбелкульту, закладзенага 20-га лютага 1922 г.

Найбольш прадуктыўным у навуковым дачыненьні быў час дзейнасьці самога Інбелкульту ды першыя гады існа-

ваньня БАН (1928—1930), агулам бяручы — 8 гадоў. За гэты час Інбелкульт — БАН пры надта няспрыяльных умовах — вельмі абмежаваныя матар'яльныя сяродкі, адсутнасьць на месцы патрэбнай колькасьці навукоўцаў, абсталяваньня, будынку, выпрацаванай і ўсталенай беларускай навуковай тэрміналёгіі, пачынаючы літэральна ўсё чыста ад нава, патрапіў быў прыцягнуць да супрацоўніцтва выдатных вучоных спэцыялістых, высака паставіць навукова-дасьледчую працу ўва ўсіх галінах навукі ды здабыць заслужаны аўтарытэт у навуковым сьвеце не адно ў краі, а й за межамі. Зь недахопу часу, нельга тутака пералічыць усе салідныя навуковыя працы, тэрміналёгічныя і агульныя слоўнікі, вынікі археалёгічных і ўсіх іншых экспэдыцыяў, гістарычныя манаграфіі і зборнікі жаролаў, што сваім зьместам і выхадам у сьвет узбагацілі навуку. Варта яшчэ толькі адцеміць, што маладая тады беларуская навука, шырака разгарнуўшы вывучэньне свайго краю й народу, займала не апошняе месца і ў міжнародным маштабе.

Беларускія вучоныя прыймалі ўдзел у міжнародных навуковых кангрэсах і выстаўках, выменьваліся сваімі выданьнямі з навуковымі ўстановамі цэлага сьвету, правялі ў Менску ў 1927 годзе паважную славістычную Акадэмічную Канфэрэнцыю з удзелам прадстаўнікоў славістыкі Захаду.

Чым-жа тады можа пахваліцца нявольніца рэжыму — Акадэмія Навук БССР за сваё 20-цігадовае існаваньне, маючы ў сваім распараджэньні вялікія сяродкі, спэцыяльныя будынкі, а самае галоўнае — «прыхільнасьць і падтрымку» бальшавізму?

Перадусім — абліваньнем балотам сваіх папярэднікаў, а далей — пераробкай багатай беларускай мовы на несамавіты савецка-расейска-беларускі жаргон, на гэтак званую «белмову», пераніцоўваньнем гісторыі беларускае літаратуры ды бессаромным хвальшаваньнем гісторыі народу! Маленькі прыклад: выданая Акадэміяй Навук БССР у 1954 годзе «Гісторыя БССР» захоп і паняволеньне беларускіх земляў царскай Расеяй у канцы XVIII стагодзьдзя называе «. . . ўзьеднаньнем з Расеяй, што адпавядала кроўным інтарэсам шырокіх мас беларускага народу», і даводзіць, што гэнае «ўзьеднаньне» «спрыяла» **эканамічнаму, палітычнаму і культурнаму разьвіцьцю беларускага народу»** (гл. бачыны 124 і 205).

Няўжо аўтары такое «працы», на чале з правадзейным сябрам Акадэміі Навук БССР Перцавам, ды й сама Акадэмія ў цэлым, верацъ, што мураўёўскія шыбельніцы, забарона друку і карыстаньня беларускай мовай у культурным і грамадзкім жыцьці краю, ці тыя бравары або саматужныя гарбарні дарэвалюцыйнага Менску, «спрыялі разьвіцьцю эканамічнаму, палітычнаму і культурнаму беларускага народу»?

Падобная лухта, прыклады якое на кажным кроку, значна абніжае вартасьць ды выклікае недавер і да тых спробаў больш-менш запраўднае навуковае працы Акадэміі. Бязумоўна, спробы ў гэтым кірунку за 20 гадоў былі і ёсьць, але свабода іхная асядлана ўсьцяж новымі вымогамі ўсялякіх верасьнёўскіх, ліпенскіх пленумаў ЦК ды зьездаў КПСС. Кажны чародны пленум ці зьезд камуністычнае партыі вызначае галаваломныя пляны, хваліцца дасягненьнямі, дае «натхненьні» да новых «крутых уздымаў» гаспадаркі і навукі, а воз надта-ж ужо марудна паўзе ўперад.

Чым-жа, прыкладам, займаецца «перадавая навука» Акадэміі ў галіне сельскае гаспадаркі? — Акадэмікі, дактары й кандыдаты сельска-гаспадарчых навук Інстытуту соцыялістычнае сельскае гаспадаркі ды Інстытуту мэльярацыі воднай і балотнай гаспадаркі Акадэміі Навук БССР робяць выязныя паседжаньні вучоных саветаў, інстытутаў, з удзелам актыву двух суседніх калгасаў — імя X зьезду ЛКСМБ і імя Панамарэнкі ў Рудзенскім раёне. І вось гэныя вучоныя, пасля 25-цігадовае «барацьбы» (у сацыялізьме нічога ня робіцца проста — ўсюды барацьба) па ўздыму калгаснае гаспадаркі, нечакана «адкрываюць» прадзедаўскую «ісьціну» — поле, каб добра радзіла, патрабуе ня цыркуляраў, «выязных паседжаньнаў вучоных саветаў» ці нейкае барацьбы, а звычайнага, паспалітага каровяга, конскага, сьвінячага й курынага гною ды зусім не «навуковай», а такой простай, ардынарнай гнойнай жыжкі!

Дзеля таго, каб зрабіць «адкрыцьцё», што «лубін — гэта такое зялёнае ўгнаеньне, якому й цаны няма», ня трэба быць кандыдатам сельска-гаспадарчых навук Стралковам! Гэта ведаў кажны няпісьменны дзядзька й да спаборніцтваў ды «крутых уздымаў» пры сацыялізьме.

21.5.56 **Г. Няміга**

# КАЗЛОЎ АБ ДЭМАКРАТЫІ

У 108-м нумары газэты «Известия» быў зьмешчаны доўгі артыкул старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Казлова пад крыклівым загалоўкам: «Якмага разьвіваць дэмакратызм у рабоце Саветаў!»

Ведаем, што ад самага пачатку бальшавіцкая ўлада трымаецца на хвальшы і тэроры, і гэтыя два фактары сталіся ейнымі атрыбутамі. Таму ня дзіва, што заўсёды ілгучы, бальшавікі страцілі пачуцьцё меры і, ілгучы, не здаюць сабе справы з сваёй насьмешнасьці. «Прэзыдэнт» Беларусі Казлоў не зьяўляецца выключэньнем. Ён не заікнуўшыся зь мінай упэўненасьці кажа, што «Шырокія масы насельніцтва нашай краіны прыймаюць удзел у кіраваньні дзяржавай. . . »

Не ўдаючыся ў доўгія дыскусіі, мы толькі папытаемся ў таварыша Казлова: ці беларускі народ ў дэмакратычных выбарах выбіраў яго на становішча прэзыдэнта рэспублікі, ці ён быў накінуты народу крэмлёўскай дыктатурай? Адказ просты: Казлоў не зьяўлеяцца выбранцам народу, а губэрнатарам бальшавіцкай тыраніі. Дык якое-ж ён мае права гаварыць аб дэмакратызьме?

Лейтматывам артыкулу Казлова зьяўляецца ягонае цьверджаньне, што «адным з важнейшых прынцыпаў савецкай дэмакратыі ёсьць правіла, што дэпутаты мусяць здаваць справаздачы перад выбаршчыкамі. . . » На нашу думку гэта ёсьць галоўны прынцып дэмакратыі наагул, і ўва ўсіх краінах гэты прынцып, як правіла, датрымоўваецца. Толькі ў гэтак хваленай «савецкай дэмакратыі» ён ня выконваецца, бо, папершае: ўся камэдыя бальшавіцкіх выбараў ды недарэчнасьць аднапартыйнай і аднасьпіскавай выбарчай сыстэмы стварае такія ўмовы, пры якіх выбары ня выяўляюць волі народу. Выбраны гэтакім парадкам дэпутат ня чуецца забавязаным перад выбаршчыкамі, бо свой мандат заўдзячвае партыйнаму кіраўніцтву; падругое: калі-б навет дэпутат і хацеў інфармаваць выбаршчыкаў аб сваей рабоце, нажаль, ён ня шмат мог-бы сказаць, бо перадусім — яго ніхто ня інфармуе. Усе пастановы выходзяць з Крэмля, а Вярхоўны Савет — гэта сьмешная карыкатура парлямэнту; ён мае толькі заданьне прыняць усе гэтыя пастановы, з радасьцяй ухваліць іх і бурна апляскаць. Дык што-ж больш можа сказаць дэпутат сваім выбаршчыкам, як толькі тое, што ён быў

у Маскве, праслухаў даклад Хрушчова аб кукурузе, і што яго ахвярна апляскаў? . . .

Слушна тады наракае Казлоў, што выступленьні ў спрэчках маюць «шаблённы характар, а аратары чытаюць загадзя прырыхтаваныя тэксты. . . » — Калі няма права на сваю собскую думку — застаецца шаблён.

Тут Казлоў нічога не паправіць, ды ён і ня мае намеру папраўляць. Ён проста разьліваецца паводкай пустаслоўя, каб ствараць ілюзіі, што бальшавіцкая дыктатура раптоўна дэмакратызуецца. Думаем, што Казлоў добра ведае, што і ён і бальшавіцкая ўлада запанавалі на Беларусі не дэмакратычным спосабам, а брутальнай сілай. Паводля апошняй моды, Казлоў паклікаецца на Леніна і ленінізм. Але хто-ж, як ня Ленін, у 17-м і 18-м гадох растаптаў волю беларускага народу і зьнішчыў беларускую дэмакратыю? А Сталін, якога яшчэ нядаўна абагаўляў Казлоў, канчальна вынішчыў беларускую свабоду, культуру і гаспадарку ў працэсах калектывізацыі, раскулачваньня і чыстак нацыянальных дэмакратаў. У выніку ўсяго гэтага сяньня над беларускім народам пануюць крамлёўскія падгалоскі з Казловам на чале.

Але дзе-ж дэмакратыя?

«Будзем разьвіваць дэмакратызм!» — аблыжна заклікае Казлоў. Яшчэ адным ашуканствам хоча ён ратаваць надтрэснутыя сьцены камуністычнага рэжыму.

Мы адказваем:

Усе дэклямацыі савецкіх сатрапаў аб дэмакратызьме будуць пустым гукам для народаў Савецкага Саюзу датуль, пакуль яны ня вернуць гэтым народам украдзенай свабоды і ўлады.

Мы дамагаемся праўдзівай дэмакратыі: свабоднага выяўленьня волі народаў у праўдзівых, вольных і дэмакратычных выбарах!

І мы маем моцную волю да здабыцьця гэткай дэмакратыі!

21.5.56 **пс**

## НІ ВЕРЫЦЬ, НІ СПАДЗЯВАЦЦА

Савецкая прэса й радыё, гэтыя галоўныя трыбуны прапаганды, вельмі шмат гавораць аб гістарычным значэньні XX зьезду КПСС, аб важнасьці прынятых ім пастановаў,

якія быццам-бы спрычыняцца да хуткага павышэньня матарыяльнага стану савецкага грамадзяніна і зробяць яго яшчэ шчасьлівейшым... Ці-ж гэта, пытаемся мы, не старая і да прыкрасьці нудная савецкая песьня? Гэта-ж тое самае, што чулі мы яшчэ 38 год перад гэтым і літаральна тое самае, што мела месца ў вапошнія дні пры дыктатарскім рэжыме Сталіна. Інакш кажучы, пад шыльдай «калектыўнага» партыйнага кіраўніцтва, выращчаныя дыктатарам вучні прадаўжаюць ня толькі ягоную палітыку, але карыстаюцца ягонымі й мэтадамі.

Найлепшым пацьверджаньнем вышэй сказанага зьяўляюцца гэтак званыя «праект аб дзяржаўных пэнсіях», пазыка «разьвіцьця народнае гаспадаркі, «амнэставаньне» паасобных зьняволеных і пушчаныя працаўнікамі МВД чуткі пра магчымую ліквідацыю канцэнтрацыйных лягераў ды іншыя рэчы. Згаданымі мерапрыемствамі ды наўмысьля пушчанымі чуткамі, калектыўнае партыйнае кіраўніцтва на чале з Хрушчовам імкнецца асягнуць пяць пастаўленых бальшавікамі мэтаў:

— ліквідацыю варожасьці савецкіх народаў да камуністычнае партыі й савецкага камуністычнага ўраду;

— стварэньне ілюзіяў адпружаньня існуючага стану ў СССР і за ягонымі межамі;

— стварэньне стану цярплівага чаканьня й надзеі ў СССР і за ягонымі межамі;

— стварэньне моцнае базы дзеля поўнага апанаваньня паняволеных і падбітых бальшавікамі народаў у краінах-сатэлітах;

— выйграньне часу дзеля падрыхтоўкі да рашучага наступу на краіны вольнага дэмакратычнага сьвету.

Мы, ворагі ўсякіх ілюзіяў і палітычных шантажоў, робім, як казаў сам Ленін, два крокі назад, каб паглядзець: ці зробяць савецкія дыктатары пасьля сваіх разрэклямаваных абяцанак хоць паўкроку наперад ад мяжы, да якое дайшоў Сталін?

Горкая практыка прыгнечаных народаў і практыка бальшавіцкага гаспадараньня не даюць аніякіх падставаў ня толькі верыць, а й спадзявацца палепшаньня жыцьця савецкага чалавека.

Мільёны людзей, справакаваныя ленінскімі лёзунгамі, што загінулі ў дні рэвалюцыі ці грамадзянскай вайны, а

пазьней і ад рук саміх бальшавікоў, не даюць народам права ні верыць, ні спадзявацца;

мільёны людзей, пакліканых ленінскім НЭПАМ да адбудовы разбураных вёсак і гарадоў, а пазьней расстраляных і замучаных на цяжкіх прымусовых працах, не даюць народам права ні верыць, ні спадзявацца;

бяспраўны, жабрачы стан сялянства, заняволенага калгасамі, работнікаў, прыдушаных перавыкананьнем плянаў, ды інтэлігенцыі, пад моцным кантролем камуністычных кіраўнікоў, не дае народам права ні верыць бальшавіком, ні спадзявацца аніякага палепшаньня;

моладзь, вырваная ў дабраахвотна-прымусовым парадку з розных мясьцінаў і кінутая на распрацоўку сібірскае й казахстанскае цаліны, не дае народу ніякага права ні верыць бальшавіком, ні спадзявацца ад іх аніякага палепшаньня існуючага стану.

Сяньняшнія заклікі, лёзунгі й заахвочваньні нічым ня розьняцца ад папярэдніх, ад тых, што мелі месца і пры дыктатуры Сталіна. Мэта адна--адзіная: справакаваць і змусіць народы пайсьці на ахвярнае змаганьне за пабудову бальшавіцкага сацыялізму і ня менш ахвярны пераход ад сацыялізму да гэтак званага камунізму. Усе матарыялы савецкае прэсы перапоўненыя заклікамі да зьдзейсьненьня гэтае мэты. Загалоўкі газэтных артыкулаў кідаюцца ў вочы і робяць вельмі няпрыемнае ўражаньне на чалавека, якому давялося пазнаць і перажыць усё тое, што тварылася бальшавікамі ды творыцца й дагэтуль на землях паняволеных імі народаў. Вось, напрыклад: «Усе сілы на выкананьне й перавыкананьне шостай пяцігодкі!», «З гонарам выканаем дзяржаўныя пляны шостае пяцігодкі!», «Змагацца за магутнасьць савецкае радзімы!», «Ахвярна распрацоўваць цаліну!», «За круты ўздым сьвінагадоўлі!» і гэтак далей.

Народы аддавалі й аддаюць свае сілы, але не дабраахвотна, а пад прымусам бальшавіцкіх валадароў. Людзі працуюць не з-за сумленьня, а з-за страху. Ня было і няма ўпэўненасьці ў заўтрашнім дні, бо камуністычная партыя ніколі ня імкнулася да павышэньня матарыяльнага ўзроўню савецкага грамадзяніна. Практыка жыцьця моцна пераконвае нас у гэтым.

Сяньняшняя-ж палітыка камуністычнае партыі не зьяўляецца новай, а толькі прадаўжэньнем таго, што было й да дэтранізацыі дыктатара Сталіна. Усё гэта дае нам поўнае

права гаварыць, што бальшавіком нельга верыць, нельга нічога ад іх спадзявацца.

Бальшавіцкая прэса й бальшавіцкае радыё — гэта толькі трыбуны хвальшывае камуністычнае прапаганды.

22.5.56 **Ул. Дудзіцкі**

## ЛЫЖКА МЁДУ Й БОЧКА САВЕЦКАГА ДЗЁГЦЮ

У пачатку месяца травеня сёлета ў Цэнтральным Камітэце КП Беларусі адбылася нарада кіраўнікоў партыйных, савецкіх, профсаюзных і гаспадарчых арганізацыяў рэспублікі. Галоўным пытаньнем было г. зв. уцягненьне на працу ў прамысловасьці й будаўнічых арганізацыях насельніцтва самога гораду Менску.

«З паведамленьнем па гэтаму пытаньню», як піша партыйная «Зьвязда», выступіў сакратар ЦК КПБ Абрасімаў. Зьвяртаем увагу на выраз «З паведамленьнем», гэта значыць, што нарада была скліканая не дзеля таго, каб абмеркаваць пастаўленае пытаньне, а павядоміць загадзя падрыхтаваныя загады Цэнтральнага Камітэту партыі. Як і заўсёды, голас прадстаўнікоў згаданых арганізацыяў ня браўся на ўвагу. Усе пакліканыя мусілі выказаць поўнае задаваленьне й прыняць паведамленьне сакратара ЦК да ведама й выкананьня.

У чым-жа палягае сакрэт «уцягненьня на працу ў прамысловасьць і будаўнічыя арганізацыі гораду Менску»? Увесь сакрэт палягае ня ў прыросьце насельніцтва Менску і, навет, ня ў нястачы жыльлёвай плошчы, а ў рашучым змаганьні партыі з наплывам вясковага насельніцтва ў горад Менск і канчальным замацаваньні селяніна за бальшавіцкімі калгасамі. Гэтае змаганьне не зьяўляецца новым ці нечаканым — яно пачалося з часам увядзеньня калгаснае сыстэмы, а ў 1930 годзе, напрыклад, ні калгасьнік, ні дзеці калгасьніка не маглі пайсьці ў горад без дазволу ўправы калгасу, без чаго гарадзкія ўлады не дазвалялі пасяляцца ў горадзе Менску, а навучальныя ўстановы ня прыймалі дзяцей няпрыпісаных у Менску бацькоў. Аднак, уважаючы на тое, што галоўнымі мэтамі камуністычнае партыі на тагачасным этапе былі г. званыя «сацыялістычны наступ» на прыватную

ўласнасьць і жорскае клясавае змаганьне, партыя не магла справіцца зь беларускім сялянствам, і гэта, як гавораць самі бальшавікі, пайшло самацёкам . . .

Сяньня-ж усё гэта выглядае інакш. «Калектыўнае кіраўніцтва» выразна ўбачыла й пераканалася, што калгасы — гэтыя хвабрыкі хлеба ды іншых харчоў — апынуліся ў глыбокім заняпадзе, сталіся непрадуктыўнымі, а галодныя людзі, калгасьнікі ды іхныя дзеці, шукаючы куска хлеба, уцякаюць у гарады. Партыі-ж і дзяржаве патрэбныя і хлеб і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты, **без чаго работнікі гарадоў ня здольны выконваць і перавыконваць плянаў шостае пяцігодкі, і без чаго бальшавікі ня здолеюць выконваць сваіх гандлёвых умоваў зь іншымі краінамі ды сваіх правакацыйных плянаў і абяцанак у шырока заплянаваным імі наступе на эканамічна адсталыя краіны.**

Такім чынам, каб выйсьці з катастрафальнага стану, бальшавікі сталі на шлях рашучага змаганьня зь беларускім сялянствам, забараніўшы яму пакідаць калгаснае рабства, і змусілі насельніцтва беларускае сталіцы несьці ярмо сацыялістычнага будаўніцтва на сваім уласным гарбе. Каб дасягнуць пастаўленыя мэты, ЦК КПБ загарадзіў усе сьцежкі-дарожкі да гораду Менску: забараніў прыём на працу ў прадпрыемствах, арганізацыях і ўстановах гораду няпрыпісаных у Менску грамадзян; забараніў правядзеньне арганізаванага набору работнікаў зь сельскай мясцовасьці для прадпрыемстваў і будоўляў гораду Менску; узмоцніў пашпартны рэжым; на новых будоўлях у горадзе Менску змусіў працаваць вучняў сярэдніх беларускіх школаў.

Дзе-ж, пытаемся, тое «змыканьне гораду зь вёскай», пра што гэтак голасна гаварыў некалі арганізатар народнага няшчасьця Ленін? Гэтага ня было, няма й ня будзе пры бальшавіцкай дыктатуры!

А дзе-ж тыя вялізарныя перавагі калгаснага ладу над прыватнай сельскай гаспадаркай, пра што гэтак моцна крычалі партыйныя агітатары й прапагандыстыя? Гэтага ня было, няма й ня будзе пры бальшавіцкай дыктатуры!

А дзе-ж той бурны рост маральнага стану беларускага калгасьніка, работніка й урадоўца, пра што гэтак шмат піша бальшавіцкая прэса? Гэтага ня было, няма й ня будзе пры бальшавіцкай дыктатуры!

А дзе-ж разрэклямаваныя клопаты партыі і ўраду аб бе-

ларускім народзе і розныя іншыя абяцанкі? Гэтага ня было, няма й ня будзе пры бальшавіцкай дыктатуры!

А дзе-ж тое шчасьлівае дзяцінства й юнацтва, калі вучні сярэдніх школаў беларускае сталіцы мусяць сваімі дзіцячымі рукамі будаваць запачаткаваныя бальшавікамі новыя хвабрыкі й заводы? Яго ня было, няма й ня будзе пры бальшавіцкай дыктатуры!

Бачыце, Беларусы, чаго вартыя бальшавіцкія абяцанкі й гэтак званыя бальшавіцкія палёгкі! Бальшавікі далі вам «праект аб дзяржаўных пэнсіях», а вы мусіце аддаць і сябе, і сваё жыцьцё ў вірлівы кацёл бальшавіцкага сацыялістычнага экспэрымэнту.

Бальшавікі рэгабілітавалі й выпусьцілі з канцэнтрацыйных лягераў некалькі нявольнікаў дыктатуры, а за нявыкананьне апошніх пастановаў з аднэй толькі Беларусі пойдуць на іхнае месца тысячы няшчасных бацькоў і кармільцаў. Што й гаварыць, моцна «клапоціцца» дыктатура аб беларускім народзе, і ніколі ня выпусьціць яго спад пільнага бальшавіцкага вока. Спачатку калектыўнае кіраўніцтва пырснула лыжку мёду ў бочку савецкага дзёгцю, а цяпер выліваюць бочку гэтага дзёгцю ў лыжку непапрабаванага Беларусамі мёду.

Ні ў ваднэй краіне сьвету ня было й няма гэткага зьдзеку над працоўным чалавекам, як у гэтым ненавісным сьвеце — Савецкім Саюзе!

Бальшавіцкая партыя — няйвялікшы вораг усяго беларускага народу!

25.5.56 **Ул. Дудзіцкі**

## ТРАГЭДЫЯ БЕЛАРУСАЎ

Перад Першай сусьветнай вайной найлепшыя землі на Беларусі належылі да магнатаў-абшарнікаў і наша сялянства адчувала вялікі недахоп зямлі. Да гэтага наша прамысловасьць была вельмі слаба разьвітая і не забірала надвыжкі працоўнай сілы зь вёскі. Гэта ўсё змушала Беларусаў эміграваць і шукаць працы за межамі. Яны рабілі гэта вельмі неахвотна, бо ведаем, што Беларусу ня лёгка разьвітацца з родным краем і кутом. Пераважна беларускі эмігрант, заашчадзіўшы грошы, вяртаўся дамоў. Туга аб

роднымі краі не давала яму асыміляваацца ў чужым асяродзьдзі.

Калі-ж у выніку перавароту ў 1917-м годзе, зямля абшарнікаў, як кажуць бальшавіікі, перайшла да сялянаў, калі пачала разьвівацца прамысловасьць, зьнікла патрэба эміграцыі зь Беларусі. Кажнаму Беларусу хапіла-б зямлі, працы і хлеба ў сваёй краіне.

Аднак так ня ёсьць. Калі да 17-га году матар'яльныя абставіны змушалі Беларусаў эміграваць пераважна на Захад, дык цяпер жорсткая сыстэма бальшавіцкай дыктатуры гоніць іх у вадваротным кірунку — на Ўсход і Поўнач. Ужо не гаворачы аб арыштах, ссылках і дэпартацыях рознага «сацыяльна небясьпечнага элемэнту», а ў запраўднасьці — беларускіх патрыётаў — розныя бескарысныя народу «сацыялістычныя» ды «сталінскія будоўлі і новабудоўлі» ды іншыя бязглуздыя ідэі крамлёўскёх сатрапаў, выгналі зь Беларусі мільёны людзей. Напрыклад, асваеньне цаліны — акцыя, якая амаль што праваліласяя, каштавала Беларусі шмат тысяч моладзі, якая ў прымусова-дабраахвотным парадку была загнанай у Казахстанскія і Алтайскія пустыры, дзе іх, як цынічна жартаваў Хрушчоў, «марозцам падбадзёрыла». Шмат Беларусаў таксама «добраахвотна» мусіла паехаць у тайгі Карэліі. 19-га траўня ЦК КПСС і савецкі ўрад зьвярнуліся з заклікам да камсамольскіх арганізацыяў аб зглошваньні на выезд у паўночныя і ўсходнія раёны Савецкага Саюзу. У гэтым звароце грозна гучыць сказ, што камсамольскія арганізацыі мусяць «выдзяліць з сваей грамады 400-500 тысяч маладых хлапцоў і дзяўчат». Гэты сказ дэмаскуе ўсю камэдыю «дабраахвотнасьці.»

І вось, як бачым, на Беларусі разгарнулася інтэнсыўная вярбоўка моладзі. 24-га траўня менскае радыё сказала: «Сотні маладых патрыётаў Менску на заклік партыі і ўраду выказалі жаданьне працаваць на новабудоўлях поўначы і Далёкага Ўсходу». А якаясь Галіна Банішэўская сказала ў мікрафон: «Заклік ЦК КПСС і роднага ўраду захапіў сэрцы моладзі . . . »

Доўга менскія прапагандыстыя будуць шукаць наіўных, якія павераць гэтым мэлядэклямацыям. Ведаем, як моцна любяць Беларусы свой край і сваю зямлю. Таму калі едуць у далёкі суровы Сібір ці за палярнае кола — напэўна ня зь мёду, а яшчэ менш — з «савецкага патрыятызму». Перадусім няма сумлеву, што партыйныя арганізацыі **вызначаюць**

«дабраахвотнікаў» і маюць усе магчымасьці ды сяродкі прымусіць да «дабраахвотнасьці», а, падругое, прыгонная калгасная сыстэма, так чужая беларускай псыхіцы, не дае ніякіх надзеяў на лепшую будучыню маладых людзей. Беларус, хаця й не багаты, але заўсёды хацеў пачувацца свабодным і валадаром сваёй долі. Усё гэта зьнішчыла бальшавіцкая нялюдзкая ўлада. Таму ня дзіва, што пры вялікім працэнце прымусовых «дабраахвотнікаў», можа знойдзецца і малая частка людзей, якія спакусяцца на большыя заработкі, ці магчымасьць кар'еры . . .

Мы можам быць пэўнымі, што іх сустрэне прыкрае расчараваньне. А перадусім, ужо зь першага дня іх чакаюць цяжкія матар'яльныя і кліматычныя ўмовы. Навет газэта «Известёя» 25-га траўня прызналася: Бальшыня маладых хлапцоў і дзяўчат прыехала з паўдня і першая зіма была ім нялёгкай . . . » Ведаем, што дыктатура заганяе людзей у дзікія пустыры, але яна ніколі ня турбуецца аб забясьпячэньні іхняга людзкага жыцьця.

Для нас гэта прымусовая «эміграцыя» ёсьць вялікай нацыянальнай трагэдыяй, бо аднэй з мэтаў Крэмля зьяўляецца аслабленьне нашага патэнцыялу.

Аднак мы верым у вадпорнасьць Беларусаў, што яны навет у гэных цяжкіх умовах і чужым асяродзьдзі ня страцяць ані сваей любасьці да роднай краіны і культуры, ані сваей нацыянальнай вытрываласьці.

Мы верым, што прыйдзе час, калі яны вернуцца на Бацькаўшчыну і стануцца гаспадарамі сваей уласнай долі на родных землях!

29.5.56 **пс**

## СХВАЛЬШАВАНЫ КУПАЛА

Янка Купала, падобна як Якуб Колас і Зьмітрок Бядуля із старэйшага пакаленьня беларускіх пісьменьнікаў, ня быў бальшавікамі поўнасьцю выкрэсьлены зь беларускай літаратуры, хоць ягоныя адмоўныя, а нярэдка й варожыя, дачыненьні да камунізму і савецкага ладу давалі да гэтага дастаткова падставаў. Выключная роля й значэньне Купалы ў беларускай літаратуры і ягоная вялікая папулярнасьць, што выплывала з гэтага, паслужылі галоўнай прычынай, што

бальшавіком нельга было яго зьліквідаваць, калі ня фізычна ўжо, дык прынамся як паэты, як гэта яны зрабілі з цэлым радам іншых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў.

Паколькі тады Купала быў пакінуты ў беларускай літаратуры, бальшавікі ўважалі за неабходнае правесьці грунтоўную апэрацыю зь ягонаю літаратурнаю спадчынай, каб у нічым яна не разыходзілася з савецкім афіцыяльным палітычным курсам. Гэта яны поўнасьцю дасягнулі ўжо пасьля сьмерці паэты, паслугоўваючыся наступнымі спосабамі гэтае апэрацыі: 1. над усёй творчасьцю Купалы была праведзеная старанная «чыстка», у выніку якой да пасьляваенных выданьняў Купалы ня была ўцягнутая вялікая колькасьць ягоных твораў, якія і ў літаратурных працах аб Купале перасталі ўспамінацца; 2. тыя творы, якія сяньня перавыдаюцца, тэндэнцыйна інтэрпрэтуюцца савецкай крытыкай у пажаданым ёю кірунку; 3. пэрыяд вымушанай саветызацыі Купалы, ня гледзячы на мізэрную колькасьць і мастацкую ўбогасьць напісаных у ім твораў, гэтая-ж крытыка асьвятляе, як пэрыяд найбуйнейшага росквіту паэтычнага таленту Купалы.

У такім крывым люстры прадстаўлены Купала ў ведамай кніжцы Мазалькова аб ім і ягонай творчасьці, узнагароджанай навет сталінскай прэміяй, далей — у працы аб Купале Алеся Кучара і, напасьледак, у вялікім артыкуле Івашына, які зьяўляецца асобным разьдзелам у выдадзеным у 1954 годзе парасейску «Очерке белорусской советской литературы». У дапамогу гэтым тэарэтычным працам аб Купале, і як-бы на падмацаваньне дадзенае ў іх ацэнкі ідэйнапалітычнае накіраванасьці ягонае творчасьці, Інстытут літаратуры й мастацтва Акадэміі навук БССР выдаў нядаўна шасьцітомны збор твораў Купалы. Гэтае выданьне прадстаўленае чытачу, як **поўнае** выданьне твораў Купалы, не зьмяшчае ў сабе вялікай колькасьці ягоных твораў, пры гэтым найважнейшых з гледзішча на ідэялягічнае аблічча паэты і найвартасьнейшых зь літаратурна-мастацкага боку. На 730 большых і меншых твораў, напісаных Купалам да 1930 году, у гэтае выданьне не ўвайшло аж 150 твораў паэты.

У першую чаргу, праз густое сіта савецкае цэнзуры былі старанна прасеяныя ўсе тыя творы Купалы, у якіх ён войстра выступае супраць нацыянальнага паняволеньня беларускага народу царскім урадам. Адзіным вытлумачэньнем

канфіскаты гэтых твораў можа быць тое, што факт нацыянальнага паняволеньня беларускага народу царскім урадам сяньня ўважаецца ў савецкай гістарыяграфіі за тое «найменшае зло», у якім апынуліся народы, сілком заграбленыя царскай Расеяй.

Купала, як і ягоныя сучасьнікі, разглядаў беларускі народ, як суцэльны з гледзішча сацыяльнага і ня вырозьніваў у ім варожых узаемна сацыяльных клясаў, — эксплятататараў і эксплятаваных. Ніводзін зь вершаў Купалы, у якіх ён гаворыць аб сацыяльным адзінстве беларускага народу і ягонай бясклясавацьці, не ўвайшоў у збор твораў.

Купала ў шмат якіх сваіх творах стараўся аднаўляць у памяці народу ягоную гістарычную мінуўшчыну ў выглядзе слаўнай і шчасьлівай эпохі ягонага дзяржаўнага й культурнага жыцьця. Усе творы, прысьвечаныя гістарычным тэмам, як прыгожая паэма «На Куцьцю» або вершы «Над Нёманам», «Свайму народу» і шмат іншых, сяньня таксама выкіненыя зь літаратурнай спадчыны Янкі Купалы. Яны войстра пярэчылі савецкай гістарыяграфіі, якая хвальшыва цьвердзіць, што толькі «дзякуючы камуністычнай партыі й мудрай ленінскай (а раней — сталінскай) нацыянальнай палітыцы беларускі народ упяршыню атрымаў сваю дзяржаўнасьць».

У «Збор твораў» не ўвайшло шмат вершаў, у якіх паэта вылівае глыбокія патрыятычныя пачуцьці. Гэтак, апушчаныя шырокаведамыя вершы Купалы «Маладая Беларусь», «Ужо днее», «Беларушчына» й інш., у якіх паэта радасна сьцьвярджае, што Беларусь пачала адраджацца і дамагаецца прывярненьня ёй нацыянальнае годнасьці нароўні зь іншымі народамі. Ня ўключаны ў «Збор твораў» і глыбокапатрыятычны верш «Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні», у якім паэта выказвае бязьмежную любоў да Беларусі. Вельмі характэрна, што ў «Збор твораў» не ўвайшлі і такія вершы, як «Роднае слова» або «Ворагам беларушчыны», у якіх Купала выступае ў вабароне роднае мовы перад пасяганьнем на яе ўсходніх і заходніх дэнацыяналізатараў.

У пэрыяд 1918—1922 гадоў у Купалавых творах — такіх, як «На сход», «Свайму народу», «Паўстань з народу нашага прарок», «Перад будучыняй», «Тутэйшыя» і іншыя прабіваецца моцная ідэя вольнай і незалежнай Беларусі, а ня ідэя творанае тады ў розных формах беларускае савецкае рэс-

публікі. Усе гэтыя творы сяньня замоўчваюцца, як-бы іх ніколі ня было.

Гэтак, пры дапамозе пералічаных прыхватак савецкай літаратурнай практыкі Купала, які быў найвялікшым ідэялёгам беларускага нацыянальнага адраджэньня, носьбітам ідэяў варожых бальшавіцкаму сьветапагляду, паказаны цяпер як паэта, які ўвесь час пасьлядоўна ішоў да камунізму, а пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі стаўся натхнёным песьняром савецкае эпохі. Гэтак схвальшаванага Купалу паказваюць сяньня бальшавікі беларускаму народу.

2.6.56 **Ст. Станкевіч**

## АБ ТАК ЗВАНАЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ «ДЭЦЭНТРАЛІЗАЦЫІ»

3-га чэрвеня маскоўскае радыё й цэнтральныя савецкія газэты падалі да ведама пастанову ЦК КПСС і Савету Міністраў СССР «Аб разьвязаньні Міністэрства юстыцыі СССР», а таксама «Аб пераданьні прадпрыемстваў шэрагу галін народнае гаспадаркі ў распараджэньне саюзных рэспублік». Зроблена гэта, як гаворыцца ў паведамленьні, «з мэтай ліквідаваньня лішняе цэнтралізацыі» ды «ўзмацненьня ролі саюзных рэспублік».

Таму вось і пагаворым сяньня аб гэтай «ролі» саюзных рэспублік на прыкладзе паняволенага беларускага народу.

Бальшавікі шмат гавораць аб сувэрэннасьці Беларускае савецкае рэспублікі. Яны ўсімі сіламі намагаюцца давесьці нашаму народу й вольнаму сьвету, што Беларусь — гэта незалежная дзяржава, якая мае ўсе магчымасьці самастойна ўладжваць сваё нацыянальнае жыцьцё. Доказам гэтага мае быццам служыць канстытуцыя БССР і канстытуцыя Савецкага Саюзу. У гэтай апошняй, прыкладам, у пункце 17-м гаворыцца, што «за кажнай саюзнай рэспублікай захоўваецца права свабоднага выхаду з СССР»; у наступным пункце цьвердзіцца ,што «тэрыторыя саюзных рэспублік ня можа быць зьменена бязь іхнае згоды», і далей: «кажная саюзная рэспубліка мае права ўваходзіць у беспасярэдныя сувязі з замежнымі дзяржавамі, падпісваць зь імі ўмовы ды абменьвацца дыпляматычнымі й консульскімі прадстаўнікамі». Усё гэтае канстытуцкае пустаслоўе, ужо зусім нядаўна, у савец-

кай Беларусі было падмацавана яшчэ асобным дзяржаўным сьцягам, а крышку пазьней — навет гімнам. Гэтыя хвальшывыя атрыбуты беларускае савецкае дзяржаўнасьці бальшавіцкая прапаганда выкарыстоўвае штодзённа, каб даводзіць паняволенаму народу аб ягонай нацыянальнай незалежнасьці, свабодзе й праве самому распараджацца сваім лёсам. Гэтай-жа мэце мае служыць і апошні трык ЦК КПСС аб так званай «дэцэнтралізацыі» й «узмацненьні ролі саюзных рэспублік».

Але гляньма цяпер на другі бок бальшавіцкае мэдалі, і мы пераканаемся ў камплетным хвальшы ўсяе гэтае дзяржаўна-незалежніцкае бутафорыі — на аснове цьверджаньняў саміх-жа бальшавікоў.

Вось-жа на нядаўна праведзеным ХХІІ-ім зьезьдзе камуністычнае партыі Беларусі, у выступленьні сакратара Гарадзенскага абкому КПБ, нейкага Баранава, знайшлася, між іншага, такая шчырая й праўдзівая фраза (цытуем за «Зьвяздой» з 28 студзеня сёлета):

«Усім вядомая роля **сакратара райкому партыі. Гэта кіруючая фігура, ад дзейнасьці якое перш за ўсё залежыць посьпех у вырашэньні любога пытаньня ў раёне».** Хіба-ж яшчэ лепш усім вядома, што ня толькі Беларуская ССР, а ўвесь Савецкі Саюз складаецца з раёнаў, на чале якіх чуйна стаяць гэтыя «кіруючыя партыйныя фігуры». Цяпер-жа гляньма, у чыіх руках — афіцыяльна й фактычна — знаходзяцца лейцы ад усіх гэтых «кіруючых фігураў».

Статут КПСС, вымогі якога сьвята забавязваецца датрымоўваць кажны партыец, у сваіх трэйцім і чацьвертым разьдзелах гаворыць наступнае:

«Кіруючым прынцыпам арганізацыйнае будовы партыі зьяўляецца дэмакратычны **цэнтралізм,** які абазначае: .. бязумоўную абавязковасьць пастановаў вышэйшых органаў для ніжэйшых . . .» І далей: «Вярхоўным органам КПСС зьяўляецца зьезд партыі . . . ЦК КПСС у прамежках між зьездамі кіруе **ўсёй работай партыі».**

Калі статут КПСС застаецца й надалей зялезным законам у жыцьці цэлае бальшавіцкае імпэрыі, дык чым-жа тады мае быць апошняя пастанова камуністычных верхаводаў аб так званай «дэцэнтралізацыі»? — Нічым іншым, як яшчэ адным ашуканствам — як і гэныя канстытуцыі, сьцягі й гімны. Гэта яшчэ адна мыльная бурбалка, блеф, за якім каму-

лізму й дзяржаўнага манаполю. Цень сакратара райкому, статутова падпарадкаванага праз абкомы й рэспубліканскія камітэты крамлёўскай алігархіі, і далей будзе вісець над «вырашэньнем любога пытаньня» ў жыцьці паняволеных народаў. У Савецкім Саюзе ня можа быць і мовы аб якой-небудзь дэцэнтралізацыі, пакуль ня будзе зьліквідаваная аднапартыйная бальшавіцкая сыстэма. Беларускі-ж народ мусіць памятаць, што нязьменным сторажам пры ягоных дзьвярох у бальшавіцкай турме народаў стаяць рэнэгаты, пастаўленыя камуністычнай партыяй і гатовыя на загад ЦК КПСС да ўсялякага злачынства над нашым паняволеным краем.

5. 6. 56 **Я. Запруднік**

## ЛІКІ Й РАЧАІСНАСЬЦЬ

Савецкая прэса і радыё пры кажнай нагодзе ўсё яшчэ падкрэсьліваюць вялізарныя пляны ўва ўсіх галінах гаспадаркі й будаўніцтва, якія будуць выкананыя ў бягучай пяцігодцы. Пры гэтым з мэтай як вонкавай, так і нутранай прапаганды, бальшавікі ўсюды апэруюць астранамічнымі лікамі. У гэтых плянах мы ўсюды бачым мільёны й мільёны. Што-ж у запраўднасьці крыецца за гэтымі гігантычнымі лікамі?

Хаця-б для прыкладу прыгледзіцца да вызначанага пляну жыльлёвага будаўніцтва ў Беларусі. Вось-жа тут у бягучай пяцігодцы мае быць здадзена ў эксплятацыю два мільёны квадратных мэтраў жыльлёвай плошчы за кошт дзяржаўнага капіталу і адзін мільён — па лініі індывідуальнага будаўніцтва. У суме: тры мільёны мэтраў — ня можа нацешыцца савецкая прапаганда.

Даўно ўжо ведама, што савецкія пляны часта выконваюцца толькі на паперы. Але прыпусьцім на момант, што гэтым разам нейкім цудам за пяцігодку ўдасца пабудаваць гэтыя тры мільёны квадратных мэтраў жыльлёвай плошчы. І папытаемся, ці-ж гэтага дастаткова?

Паспрабуем разгледзіць гэтую справу бліжэй. Вось-жа калі заакруглім лік насельніцтва БССР да дзесяці мільёнаў ды возьмем гадавы прырост яго, г. зн. 1,7%, дык за пяць гадоў насельніцтва Беларусі пабольшыцца штонайменш на

800 тысяч чалавек. Паводля савецкіх плянаў на адну асобу належыцца 9 квадратных мэтраў жыльлёвае плошчы. Значыць на самы толькі натуральны прырост патрэбна больш за сем мільёнаў мэтраў. І што-ж мы бачым? Выходзіць, што гэты славуты бальшавіцкі трохмільённы плян ня зможа забясьпечыць жыльлёвай плошчай навет паловы насельніцтва з натуральнага прыросту. Дык дзе-ж мае жыць рэшта? А нельга забывацца, што ўжо сяньня, бяз гэтага прыросту, адчуваецца вялікая нястача жыльлёвае плошчы. Такім чынам, навет пры выкананьні пляну, жыхар Беларусі не атрымае 9 квадратных мэтраў жыльлёвай плошчы й будзе далей змушаны гараваць у перанаселеных кватэрах.

Гэты прыклад з жыльлёвым будаўніцтвам не зьяўляецца нечым вынятковым у савецкай рачаіснасьці. Якую-б галіну гаспадаркі ці будаўніцтва мы ня ўзялі, усюды наткнемся на гэтакія астранамічныя лікі. Усюды мільёны і мільёны. Бальшавіком здаецца, што імі яны змогуць зачараваць насельніцтва. Дарэмна! Хопіць бліжэй прыглядзіцца да гэтых лікаў і іхны чар зьнікае, як мыльная бурбалка, а застаецца толькі горкая праўда, падобная да выпадку з жыльлёвым будаўніцтвам.

9. 6. 56 **А. Галубіцкі**

## 15 ГОД

15 год таму, 22-га чэрвеня 1941-га году, гітлераўскія дывізіі ўступілі ў межы Савецкага Саюзу і пачалася вайна двух таталітарызмаў. Гэта была найбольш жудасная, найбольш крывавая вайна ў гісторыі людзтва. Добра ўсе яе памятаем, таму няма патрэбы над ёй разводзіцца. Аднак трэба разгледзіць гэнэзу і прычыны гэтага катаклізму.

У сваей сакрэтнай прамове на 20-ым зьезьдзе партыі 25-га лютага г. г., пачынаючы антысталінскую кампанію, Хрушчоў закідаў Сталіну, што той не падрыхтаваў Савецкага Саюзу да гэтай вайны і вельмі-ж няўмела яе праводзіў. Аднак Хрушчоў ані словам ня піснуў, што крамлёўская алігархія із Сталінам на чале выдатна спрычынілася да гэтай вайны. Больш таго — Хрушчоў нахабна хвальшуе так сьвежыя яшчэ гістарычныя факты.

Як-жа выглядае справа ў запраўднасьці?

Летам 1939-га году, калі было ясным, што Гітлер цэлай

ністычная партыя хавае кіпцюры самага жорсткага цэнтрапарай імкнецца да вайны, Англія і Францыя выслалі свае місіі ў Маскву з мэтай прыцягненьня Савецкага Саюзу да антыфашыстоўскай кааліцыі. Калі-б бальшавіцкія верхаводы згадзіліся прыступіць да гэтага саюзу — праўдападобна Гітлер не адважыўся-б пачаць вайну, а калі-б навет і пачаў — дык яна ня была-б такой жудаснай і крывавай. Аднак крамлёўскія сатрапы ня былі зацікаўленыя ў захаваньні міру. Таму Варашылаў з даручэньня Сталіна вёў марудныя перамовы з альянтамі, а ў тым-жа часе Молатаў цішком дамаўляўся зь Гітлерам. Вынікам гэтых сакрэтных перамоваў быў пакт Рыбэнтроп-Молатаў, падпісаны 23-га жнівеня 1939-га году.

Замест паразумленьня зь міралюбнымі, дэмакратычнымі дзяржавамі, бальшавікі дагаварыліся з агрэсыўным фашызмам. Тыдзень пазьней Гітлер, асьмелены саюзам з бальшавікамі, пачаў вайну. Гэта была праступная змова двух бандытаў. Бальшавіцкая дыктатура верна датрымоўвала саюзу. Калі Гітлер граміў Захад, з Савецкага Саюзу дзень і ноч ішлі даўжэзныя транспарты ў Нямеччыну. Гэта крамлёўская алігархія, рабуючы сваё напоўгалоднае насельніцтва, слала свайму прыяцелю — Гітлеру прадукты і стратэгічную сыравіну.

Забавязаньняў не датрымаў Гітлер.

Калі летам 1945-га году ў Нюрнбэргу судзілі ваенных праступнікаў, чэсныя людзі ўва ўсім сьвеце пыталіся, чаму на лаве вінавайцаў поруч з Рыбэнтропам, Розэнбэргам ды іншымі не сядзяць Сталін, Молатаў, Варашылаў і супалка. А па справядлівасьці іхнае месца было там. Яны таксама павінны былі несьці адказнасьць за жудасную бойню, за людабойства.

Сяньня, з тактычных меркаваньняў, Хрушчоў левай рукой выракаецца Сталіна, але правай хвальшуе гістарычныя факты. Вылічваючы праступствы Сталіна ў адносінах да камуністычнай партыі, Хрушчоў не ўспамінае аб ягоных праступствах перад людзтвам.

Ці часам Хрушчоў не пачуваецца суадказным за гэтыя праступствы? . . .

Калі Хрушчоў шчыра праклінае праступствы Сталіна, чаму не ўспамінае, што Сталін адказны за праступную супалку з фашызмам і за прычыны Другой Сусьветнай вайны?

Чаму Хрушчоў не асуджвае пакту Рыбэнтроп-Молатаў? І чаму галоўныя пэрсоны гэнай жудаснай трагэдыі: Молатаў, Варашылаў, Кагановіч ды іншыя далей займаюць найвышэйшыя становішчы ў крамлёўскай алігархіі?

Каб сьвет паверыў у камуністычную мэтамарфозу, Хрушчоў мусіць адказаць на ўсе гэтыя пытаньні . . .

21.6.56 **пс**

## ХВАЛЬШЫВЫЯ КЛОПАТЫ

26 травеня сёлета ЦК камуністычнае партыі Беларусі й Савет Міністраў апублікавалі цікавую пастанову, якая прапануе прадпрыемствам выпусьціць у гэтым годзе звыш пляну на 190 мільёнаў рублёў харчовых і іншых тавараў. Харчовая прамысловасьць павінна дадаткова выпусьціць 7 мільёнаў скрынак розных кансэрваў гародніны, нарыхтаваць 5.380 тонаў квашанае капусты, больш за 6 тысяч тон гуркоў, 2 тысячы 800 тон сьвежых яблыкаў, паўтары тысячы тон марынаваных грыбоў і памідораў; вылавіць звыш пляну 2.400 цэнтнэраў рыбы, выгадаваць паўмільёна птушак і дзесяць тысяч трусоў.

Хвабрыкам прапанавана выпусьціць дадаткова 100 тысяч пар абутку, 21 тысячу мэталёвых ложкаў, 2 тысячы швэйных машынаў і шмат іншых рэчаў. Што й гаварыць — праграма вялізарная! Аднак уся мудрасьць палягае ў тым, што на выраб гэтага ня будзе адпушчана ні прадуктаў, ні сыравіны. Уся праграма павінна быць выкананая коштам непатрэбных адкідаў на прадпрыемствах. Вось і выконвай, як хочаш. А выконваць дзяржаўны плян мусіш: партыя патрабуе.

Усім добра вядома, што ў дзяржаўных магазынах (прыватных-жа няма) рэдка можна дастаць бульбы, капусты, гуркоў, не гаворачы ўжо аб сьвежых яблыках і грушах ды іншай садавіне. Яшчэ з восені сьціплы ўраджай калгасных гародаў і садоў вывозіцца ў так званыя «пралетарскія цэнтры» — на вялікія будоўлі камунізму . . .

Пастанова забавязвае замарозіць звыш пляну 1450 тон грыбоў і нарыхтаваць шмат брусьніцаў, журавінаў ды насушыць іншых ягад. А хто-ж і калі будзе зьбіраць гэтыя ягады й грыбы? Поводля новага статуту, калгасьнікі муяць выпрацаваць больш за 300 працадзён. Тут ужо не да

грыбоў і ягадаў: давядзецца працаваць у сьвяты й уночы. А як можна выканаць фантастычныя пляны дадатковага вырошчваньня курэй і трусоў на калгасных адкідах? У калгасах ня было й няма ніякіх адкідаў. Хіба-ж можна штонебудзь адкінуць, нічога ня маючы? На калгасных сьметнікак няма чым, як кажуць, і мышы ўдавіцца.

Беларусы кажуць: рыба ў рацэ, але ня ў руцэ. Але-ж выглядае, што ў беларускіх рэках і вазёрах і рыба навет зьвялася, бо ў леташнім годзе, напрыклад, «Галоўрыбпром» БССР недавыканаў пляну на 11,2 тысячы цэнтнэраў.

Хвабрыкі, у сваю чаргу, ніяк ня здолеюць выпусьціць звыш пляну 100 тысяч пар абутку, калі ня будзе адпушчана дадаткова скура, падэшвы ды іншыя матарыялы. А як можна выштукаваць зь зялезных адкідаў 21 тысячу мэталёвых ложкаў і 2 тысячы швэйных машынаў?

Усё гэта прыпамінае байку пра гаспадара й мядзьведзя, якія рэпу на супалку садзілі: гаспадар забіраў сабе карашкі, а мядзьведзю заставаліся вяршкі. Так вось робіць і камуністычная дыктатура ў Беларусі: беларускаму насельніцтву з адкідаў прапануецца выпусьціць абутак, мэблю й рэчы хатняга ўжытку; для харчаваньня — пасьля выкананьня пляну, прапануецца налавіць рыбы, нарыхтаваць яблык, грыбоў, памідораў, квашанае капусты ды іншых прадуктаў.

Пастанова ЦК партыі й Вярхоўнага Савету БССР ілжывая й крывадушная. Гэтымі нічога ня вартымі тонамі розных прадуктаў камуністычная прапаганда будзе жангляваць аб так званых клопатах партыі пра наш народ ды аб уяўным палепшаньні дабрабыту насельніцтва.

6.7.56 **С. Сімановіч**

## ЗЛАЧЫННАЯ ПРАКТЫКА

Бальшавіцкая прапаганда на Беларусі пры кажнай нагодзе ўспамінае аб вялікім «дабрадзействе», якое быццам прынесла Беларусам бальшавіцкая ўлада. Гэтым дабрадзействам зьяўляецца г. зв. «сацыялістычная дзяржаўнасьць». Што-ж гэта за птушка, гэтая «сацыялістычная дзяржаўнасьць», якую бальшавікі насадзілі нам сілай пасьля задушэньня нашае сапраўднае **нацыянальнае** дзяржаўнасьці, адноўленае ў 1918 годзе ў форме Беларускае Народнае Рэспублікі?

У вагульнапрынятым значэньні, народ завецца дзяржаўным тады, калі ён мае вонкавую палітычную свабоду ды зарганізаваную ўладу, што самастойна кіруе палітычным, эканамічным і культурным жыцьцём унутры краіны. Галоўнай мэтай кажнае дзяржаўнае ўлады мусіць быць служэньне свайму народу: Гэткая ўлада, улічваючы геапалітычнае палажэньне народу, ягоныя нацыянальныя асаблівасьці ды эканамічныя магчымасьці, павінна імкнуцца да разьвіцьця ўсіх галінаў нацыянальнага жыцьця, да стварэньня як матарыяльнага дабрабыту, гэтак і духовых вартасьцяў, аснаваных на нацыянальнай культуры.

У вольным сьвеце гэта зьяўляецца самазразумелым прынцыпам, які не падлягае дыскусіі. Ня так у падкамуністычным сьвеце. Ня гледзячы на бязупынны крык аб нейкай сацыялістычнай дзяржаўнасьці, ці БССР мае хоць адну зь пералічаных прыкметаў сапраўднай дзяржаўнасьці? Ніводнае! Горш таго: насаджаная Крамлём улада ў Беларусі ня толькі ігнаруе матарыяльныя патрэбы беларускага насельніцтва, але й на загад таго-ж Крамля яна сыстэматычна нішчыць нацыянальны твар Беларусі.

Вось наглядны прыклад. Кажны ведае, якое значэньне маюць маладыя кадры ў жыцьці дзяржавы. І вось ад 1-га да 20-га жніўеня амаль ува ўсіх вышэйшых навучальных установах БССР будуць адбывацца ўступныя эгзамены. На апошняй бачыне газэты «Зьвязда» з 9 чэрвеня зьмешчаны цэлы шэраг абвестак пад агульным загалоўкам «Куды пайсьці вучыцца». У гэтых абвестках мы не знаходзім нічога беларускага. Зь дзесяці розных навучальных установаў, толькі дзьве вымагаюць на эгзаменах беларускую мову. Усе іншыя вымагаюць толькі расейскую. Дый тыя дзьве зь беларускае мовы вымагаюць толькі дыктоўку — не раўнуючы, як у другой клясе пачатковае школы — у той час як з расейскае вымагаецца самастойнае ўкладаньне і эгзамены зь літаратуры. У чым тут справа? Ня трэба-ж забывацца, што яшчэ ня так даўно на эгзаменах у вышэйшыя ўстановы БССР беларуская мова вымагалася прынамся паралельна з расейскай.

Выясьняецца гэта проста. Папершае, Беларусь не пабачыць бальшыні гэтых маладых спэцыялістых. Пасьля сканчэньня ўспомненых навучальных установаў, яны будуць расьсеяныя ў савецкай імпэрыі па розных новабудоўлях і цалінных землях. Там, зразумела, расейская мова будзе ім

больш патрэбная, як беларуская. Але гэта толькі частковае выясьненьне. Справа ў тым, што калектыўнае кіраўніцтва працягвае далей і навет паглыбляе сталінскую палітыку дэнацыяналізацыі падсавецкіх народаў, намагаючыся прывіць штучнае й недарэчнае паняцьце **савецкага** народу. Сучасныя дыктатары аблыжна асуджаваюць фізычнае народазабойства, практыкаванае пры жыцьці Сталіна, але й нядумаюць адмаўляцца ад **культурнага** народазабойства, якое зьяўляецца таксама злачынствам.

Пераварыўшы паняволеныя народы ў савецкім катле, яны хочуць стварыць зь іх прыладу, паслухмяную для апанаваньня цэлага сьвету. Гэта, фактычна, прыстасаваньне тэорыі Леніна аб пралетарызацыі да нацыянальнага пытаньня.

Выканаўцам гэтае злачыннае палітыкі на Беларусі зьяўляецца камуністычная адміністрацыя, насаджаная чырвоным Крамлём супраць волі нашага народу. Гэтая адміністрацыя заве сябе дзяржаўнай уладай, але ў сапраўднасьці яна зьяўляецца інструмантам найбольш жорсткай каляніяльнай палітыкі. Сацыялістычная дзяржаўнасьць — гэта сынонім каляніяльнага паняволеньня. Толькі зьнішчэньне бальшавізму прынясе Беларусам і іншым паняволеным народам сапраўдную палітычную і сацыяльную свабоду.

13.7.56 **Ул. Цьвірка**

## НЕВЯСЁЛАЯ СТАТЫСТЫКА

2-га жніваня было апублікаванае паведамленьне Цэнтральнай Статыстычнай Управы пры Савеце міністраў СССР аб выкананьні дзяржаўнага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі СССР за першае паўгодзьдзе 1956-га г.

Хаця нармальна, статыстычныя справаздачы павінны абмежавацца да сухіх лікаў і не павінна там быць месца на панэгірыкі і фантазіі, успомненае паведамленьне густа пераплятаецца пахваламі для партыі і ўраду за іхныя вялізарныя клопаты і турботы аб шчасьці савецкіх людзей. Бачна, што самая статыстыка мала пераконвае і захапляе гэтага чалавека, дык трэба яе ўпрыгожваць красачкамі і бліскучымі фінціклюшкамі прапагандовае фразэалёгіі.

У вадрозьненьне ад папярэдніх гадоў, дзе заўсёды падаваліся мутныя лікі ў працэнтах, якія невядома было ад

чаго аблічваць, сёлетняя статыстычная справаздача апэруе канкрэтнымі цыфрамі. Гэта нам дае магчымасьць аблічыць, што ў выніку выкананьня паўгадовага пляну атрымаў грамадзянін Савецкага Саюзу. Калі-б навет прыняць гэту статыстыку за праўдзівую, то і так яна ня можа пераканаць савецкага грамадзяніна аб гэнай расхваленай дбаласьці партыі і ўраду.

Зьвернемся да канкрэтных лікаў гэнай статыстыкі.

Напрыклад, было выпрадукавана 129 мільёнаў мэтраў ваўнянае тканіны. Гэта дае каля 60 цэнтымэтраў на душу насельніцтва. Ня шмат лепш і зь льнянай тканінай, якой выпрадукавана ўсяго 189 мільёнаў мэтраў. Зроблена 156 мільёнаў пар абутку. Інакш кажучы менш, чымся пара на душу. А нармальна чалавек мае пару ног . . . Розных гатункаў бялізны зроблена 216 мільёнаў штук — чуць па аднэй штуцы на душу.

Ня лепш зь іншымі матар'яламі і прыладамі штодзённага ўжытку, а тымбольш блага з прадуктамі харчаваньня. Напрыклад, міністэрства прамысловасьці мясных і малочных прадуктаў выпусьціла 560 тысяч тон гэтай прадукцыі. Калі гэта пералічым на душу насельніцтва, дык выпадае вельмі-ж мізэрная колькасьць, бо толькі па 2 кіляграмы 800 грамаў на паўгода. Колькі выпадае на дзень — ня цяжка аблічыць, толькі цяжэй гэтым пад'есьці. Каўбасы выпадае на душу толькі 1 кіляграм 600 грамаў, маргарыны крышку больш як кіляграм, папярос 54 штукі. Усё гэта на паўгода, або на 182 дні.

Калі мы параўнаем гэту мізэрную вытворчасьць тавараў штодзённага ўжытку з прадукцыяй гэтага ўсяго ў вольным сьвеце, дзе кажны грамадзянін можа мець усяго, колькі хоча — гэтыя славутыя «клопаты партыі і ўраду аб дабрабыце грамадзтва» набіраюць значэньня горкай насьмешкі. Хаця грамадзяне Савецкага Саюзу ня маюць змогі параўноўваць, затое гэтыя недахопы балюча адчуваюць і напэўна адпаведна ацэньваюць гэтыя клопаты антынароднае дыктатуры.

Як выглядае з успомненай статыстычнай справаздачы, найбольш павялічылася вытворчасьць зьвязаная зь цяжкой індустрыяй. Так напраклыд моцна ўзрасла прадукцыя рафінаванай медзі, волава, нікелю і таму падобных мэталяў, цесна зьвязаных з ваеннай вытворчасьцяй.

Інакш кажучы, коштам далейшага недаяданьня грамадз-

тва крамлёўскія сатрапы павялічаюць сваю мілітарную магутнасьць, а свой народ кормяць толькі абяцанкамі.

Затое Хрушчоў, дзеля прапаганды, абяцае Індусам, Бірманцам, Афганістанцам ды Эгіпцянам, што ён падзеліцца зь імі «апошнім куском хлеба». Сапраўды апошнім — зрабаваным ад свайго народу . . .

Чытаючы гэту сумную, хаця крыкліва размаляваную статыстыку, ня можна паўстрымацца ад пытаньня: да якога часу безадказныя узурпатары будуць так праступна зьдзеквацца над паняволенымі народамі? . . .

7.8.56 **А. Галубіцкі**

## НЯМА РОЗЬНІЦЫ МІЖ СТАЛІНІЗМАМ І ЛЕНІНІЗМАМ

Савецкая прапаганда ўбівае ў галовы сваім грамадзянам, што 20-ты зьезд камуністычнай партыі Савецкага Саюзу пачаў новы курс савецкай нутранай і вонкавай палітыкі, накіраваны быццам на шырокае заспакаеньне інтарэсаў працоўных. Пасьля 20-га зьезду няма амаль тыдня, каб г. зв. «калектыўнае кіраўніцтва» ня выкінула якогась рэвэляцыйнага нумару ў сваёй праграме злагаджэньня курсу, направы палажэньня працоўных ды ў дэманстрацыі мірнага суіснаваньня з Захадам. З гэтае прапаганды выглядае, што пасьля сталінскай зімы зь лютымі маразамі наступіла веснавая сонечная адліга.

Выходным пунктам для сяньняшняй крамлёўскай адлігі ёсьць дэтранізацыя Сталіна й асуджэньне культу ягонае асобы. На месца адкінутага й асуджанага сталінізму на найвышэйшы п,едэстал узводзіцца ленінізм, як быццам гэты апошні быў чымсьці зусім іншым, чымся сталінізм. У залежнасьці ад гэтага павароту да ленінізму й адбываюцца цяперашнія зьмены як у нутранай, гэтак і ў вонкавай палітыцы Савецкага Саюзу.

Але запытайма: ці гэтыя зьмены ўзапраўды істотныя, каб можна было гаварыць аб новым палітычным курсе? Бязумоўна, не! Трэба не забывацца, што Сталін быў верным пасьльядоўнікам Леніна й прадаўжальнікам ягонае палітыкі. Сталін абсалютна нічога не адкінуў з навукі Леніна і нічога прынцыповага ня ўвёў свайго собскага, што-б пярэчыла ленінізму. Розьніца між ленінізмам і сталінізмам па-

лагае вылучна ў мэтадах і тактыцы савецкае палітыкі, але ейныя мэты дослоўна тыя самыя: унутры краіны пабудова сацыялізму і пераход да камунізму, а навонкі — распальваньне сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі і цераз яе запанаваньне над усім сьветам. Няма патрэбы даводзіць, колькі гэтыя фантастычныя пляны савецкіх фанатычных правадыроў каштуюць мільёнам працоўных Савецкага Саюзу. Дастаткова прыпомніць такія мерапрыемствы, як індустрыялізацыя, калектывізацыя, паліцыйны тэрор, масавыя чысткі й дэпартацыі, лягеры прымусовае працы, непасільныя збраеньні, фінансаваньне ўсяе падрыўное камуністычнае работы на Захадзе, — каб пераканацца, якія цяжары мусяць несьці на сваіх плячох працоўныя для ажыцьцяўленьня ўтопіі крамлёўскае клікі.

Далей нельга таксама забывацца, што і ўспомненыя тактычныя розьніцы між ленінізмам і сталінізмам былі выкліканыя ня прынцыповымі разыходжаньнямі між абодвумі дыктатарамі, але гістарычнымі ўмовамі й вымаганьнямі часу, у якім яны дзеілі. Гэтак, прыкладам, ленінскі курс НЭП-у, што прыйшоў быў на зьмену ваеннаму камунізму, і ўзапраўды быў тады дабрадзействам для працоўных, быў выкліканы канечнасьцю ратаваньня бальшавіцкае сыстэмы. Гэтая сыстэма, ня будучы яшчэ ўмацаванай і ўсьцяж падміноўваная антыбальшавіцкімі збройнымі паўстаньнямі, трашчэла па ўсіх швох.

Ленінскі НЭП быў такім чынам толькі часовай перадышкай, чаго не таіў і сам Ленін. Але калі прыйшлі жорсткія сталінскія часы зь індустрыялізацыяй, калектывізацыяй, раскулачваньнем ды крывавымі чысткамі, дык у савецкага насельніцтва ўзапраўды стварыўся міт аб шчасьлівай эпосе Леніна й ленінізму. Тут ня трэба забывацца, што калі-б Ленін дажыў што найменей да 1930 году, дык напэўна ўласнаручна зьліквідаваў-бы нэпаўскую перадышку і рабіў-бы тое самае, што і Сталін. І наадварот, калі-б, прыкладам, Ленін памёр ужо ў часы рэвалюцыі, а савецкай імпэрыяй адразу кіраваў Сталін, дык ён таксама, у сілу тагачаснай палітычнай і эканамічнай слабасьці савецкай сыстэмы, быў-бы змушаны пайсьці на часовую перадышку і стварыць той-жа НЭП або нешта да яго падобнае.

Але сяньняшніх тактычных ходаў Крамля ня толькі нельга ўтаесамліваць з НЭП-ам, але навет і прыраўноўваць да яго. Між адным і другім зьявішчам можна толькі шукаць

некаторых падабенстваў што да іхных прычынаў і мэтаў, але ня што да іхнае істоты. НЭП у свой час узапраўды прынёс вялікія палёгкі насельніцтву і высока падняў яго жыцьцёвы стандарт. Нерасейскія народы мелі магчымасьць у той час шырока разьвіць сваё нацыянальнае жыцьцё. Тымчасам сяньня, раўналежна зь некаторымі палёгкамі, пры чым мала істотнымі і пераважна фікцыйнымі, на плечы працоўных кладуцца штораз новыя цяжары, часамі горшыя, чымся пры сталінізьме.

Гэтак, з аднога боку, цяпер скасаваны закон аб забароне зьмяняць месца працы, адмененыя кары за г. зв. прагулы, скарочаны на дзьве гадзіны працоўны тыдзень і г. п. Але з другога боку, уведзены новыя цяжары, нясумерна большыя за палёгкі. Гэтак пастановай ЦК і савету міністраў з 9-га сакавіка зьменшаныя прысялібныя дзялянкі калгасьнікаў, павялічаныя выпрацоўкі на працадзень. Новыя цяжары зваліліся ня толькі на калгасьнікаў. Яны не абмінулі й работнікаў. Гэтак работнікі, якія трымаюць прыватную жывёлу, павінны цяпер плаціць за яе вялізарныя падаткі і здаваць мясанарыхтоўкі, чаго раней ня было. Ведама, што прысялібныя дзялянкі калгасьнікаў і трыманьне хатняй жывёлы работнікамі — гэта адзіны ратунак ад поўнага голаду, асабліва тым, што маюць вялікія сем'і.

Падобныя прыклады можна падаваць у бесканечнасьсць. Але і гэтых хопіць, каб пабачыць, што цяперашняя крамлёўская адліга ў ніякім выпадку ня можа быць прыраўноўваная да НЭП-у. Таксама ёсьць бяспрэчным фактам, што асуджэньне сталінізму й паварот да ленінізму ні ў чым сытуацыі не мяняе. Сяньняшняя крамлёўская адліга ёсьць толькі тактычным злагаджэньнем курсу, што праяўлаецца або ў больш мяккай фразэалёгіі й лёзунгах, або ў дробных і мала істотных уступках, выкліканых войстрымі патрэбамі нутранае й вонкавае палітыкі.

29.8.56 **Ст. Станкевіч**

## ВЕЕ ВЕЦЕР ПОЎНАЧЫ

Беларуская паэзія заўсёды адзначалася сваім нацыянальным зьместам. Паэты давалі ў вершах прыгожыя малюнкі роднага краю: апявалі сіні Нёман, васільковыя палі, саламяныя стрэхі, зялёны гай. А цяпер раптам усё зьмянілася.

У беларускай літаратуры павеялі паўночныя вятры. Апошнім часам газэта «Літаратура й Мастацтва», часапіс «Полымя» ды іншыя менскія пэрыядычныя выданьні зьмяшчаюць новыя вершы Андрэя Александровіча, Алеся Звонака,Міколы Хведаровіча ды іншых, якія нядаўна вярнуліся з далёкага высланьня. Замест паху чабору, замест жытнёвага поля й сьпеву вясёлага жаўрука, у іхнай паэзіі шуміць сібірская тайга, над Белым морам плачучь чайкі, рухаюцца крыгі лёду. І загалоўкі амаль кажнага вершу гавораць самі за сябе: «Пад небам поўначы далёкай», «Чалавек ідзе на поўнач», «Горад на поўначы», «Паўночнае зьзяньне», «Аднойчы ў тундры», «Ангара», «Енісейскія рыбакі» і іншае.

Чужая тэматыка беларускаму народу! Суровы незнаёмы край, «дзе калісь пракладвалі Якуты шлях далёкі на Адыгалах», незнаёмыя чужыя імёны рэк: Ола, Амалон, Ангара, і чужы бязьлюдны пэйзаж: сьнежная далеч, палярная ноч, юрты, алені.

Беларускія паэты пішуць пра запаляр'е і сібірскую тайгу. Вее вецер поўначы, круціць сьнежная пурга. Аб гэтым пішуць тыя, што адпакутвалі дваццаць год у далёкіх канцэнтрацыйных лягерах. Аб гэтым піша й паэта Андрэй Александровіч — ведамы артадаксальны бальшавік, які некалі пісаў панэгірычныя вершы-лісты Сталіну. Ён таксама трапіў пад мятлу Яжова і быў высланы, як «вораг народу». Цяпер Александровіч, пасьля адбыцьця кары, вярнуўся ў Менск і піша пра мудрае слова Леніна, пра калектыўнае кіраўніцтва, адным словам, трымаецца новае палітыкі. А ці ў гэтым падхалімным трыманьні ён можа быць пэўным?

Хрушчоў на закрытым паседжаньні XX зьезду КПСС сказаў:

«Факты сьцьвярджаюць, што шмат самаволі было зроблена на загад Сталіна, зусім ня ўлічваліся нормы партыйнае й савецкае законнасьці».

З гэтай прычыны, відаць, і паэта Александровіч — сталінскі трубадур падпаў пад жорсткія рэпрэсіі і разам зь нявіннымі ахвярамі апынуўся быў на поўначы. Цяпер ён ізноў на бацькаўшчыне. Ізноў ён усхваляе бальшавіцкі рэжым, ад якога сам пацярпеў. Бо й сапраўды: із Сталінам ці безь яго — нічога не зьмянілася. Хрушчоўскія экспэрымэнты ня лепшыя, і яны ў гісторыі таксама ня пройдуць бяз сьледу. Самаволя Хрушчова, як і сталінская, зьяўля-

ецца народазабойчай, і таму, зразумела, у блізкай будучыні ў нашай літаратуры падзьмуць іншыя вятры — сьцюдзёныя вятры з цалінных земляў Казахстану і Ўралу. Сяньня-ж мы бачым, сотні тысяч людзей зь Беларусі пасылаюцца ў парадку «оргнабору» на цаліну і там гібеюць у жудасных умовах працы й жыльля.

Дык нельга і адтуль чакаць вясёлай песьні.

15.7.56 **К. Рамановіч**

## РЭГАБІЛІТАЦЫЯ МЁРТВЫХ

Яшчэ зусім нядаўна ў Будапэшце адбылося нешта нязвычайнае, мы сказалі-б — нешта трагічнае, калі-б гэтая трагічнасьць не насіла яўнай палітычнай інсцэнізацыі. Сапраўды, гісторыя рэвалюцыяў і контррэвалюцыяў яшчэ ніколі ня ведала нечага падобнага.

Цяперашні віцэпрэм'ер Вугоршчыны Антоль Апро ад імя ўраду і партыі не зь вялікай, відавочна, прыемнасьцяй — прамаўляў над выкапанымі зь зямлі нябожчыкамі — ахвярамі сталінскага тэрору ў Вугоршчыне — Райкам і іншымі, у свой час зьнішчанымі і закапанымі ў зямлю з пашанай, зь якой хаваюць бальшавікі гэтак званых ворагаў народу. Цяпер гэтыя нябожчыкі пахаваныя зноў, на гэты раз ужо зь вялікай помпай.

«Ніколі ня выпадала нам, гаварыў віцэпрэм'ер, больш трагічнага абавязку, як той, які мы выконваем, рэгабілітуючы мёртвых сяброў. Мы вельмі шкадуем, што паверылі ў хлусьню і паклёпы, у выніку якіх яны сталіся пакутнымі ахвярамі.»

Калі-б гэта было сказана ня вуснамі камуністага, калі-б гэта ня было, нарэшце, палітычнай маніфэстацыяй, разьлічанай на эфэкт, сапраўды гэты жудасны камуністычны «рэквіем» мог-бы скалыхнуць да глыбіні чалавечае сэрца. Але тут гэта якраз ня так. Нельга ніяк паверыць у «спагаду» чалавека, які сам спрычыніўся да зьнішчэньня таго-ж Райка і іншых. Нельга паверыць у «спагаду» чалавека, які сам выдумаў тую хлусьню і займаўся паклёпамі. Нельга паверыць сяньня Хрушчову, які таксама, як і вугорскі віцэпрэм'ер, займаецца цяпер рэгабілітацыяй мёртвых, якіх ён — няхай сабе і на загад Сталіна — заганяў жывымі на той

сьвет. Розных адценьняў хрушчовы загаварылі і паказаліся з сваёй апекай не для таго, каб некага апраўдаць. Яны рэгабілітуюць, каб зноў чыніць злачынствы, рэгабілітуюць, каб гэтыя новыя свае злачынствы прыкрываць нібыта справядлівасьцяй і «рэвалюцыйнай законнасьцяй», замест таго, каб проста зьліквідаваць самую аснову, на якой паўстае асуджэньне і непатрэбная пазьнейшая «рэгабілітацыя». Замала каяцца й прыкідвацца невінаватай авечкай — па закону самой справядлівасьці яны павінны панесьці самую суровую адказнасьць за мільёны людзей, што загінулі ад хлусьні, ад паклёпаў і тэй-жа самай «рэвалюцыйнай законнасьці». Не дастаткова такіх сымбалічных жэстаў, як «рэгабілітацыя», каб хоць у невялікай ступені зацерці сьляды жудасных злачынстваў, што тварыліся і творацца на працягу ўсёй гісторыі камуністычнага ладу на тэрыторыі, што завецца Савецкім Саюзам. Не, палітычным сьпірытызмам нельга задаволіць прыгнечаныя народы Савецкага Саюзу. Ня мёртвых трэба ўваскрашаць, а жывых. Гэта яны патрабуюць уваскрашэньня. Рэгабілітацыя мёртвых ня можа суцішыць болю ў жывых. Труна з рэштткамі Райка ў Вугоршчыне, або для прыкладу, адкапаная труна Чарвякова, няхай-бы сабе і «рэгабілітаваная» і выстаўленая на паказ у Менску, ня змогуць утаймаваць гора паняволеных, у дадзеным выпадку — Вугоршчыны і Беларусі. Мільёны закатаваных і замучаных усёроўна паўстануць прад вачыма жывых. Жывыя толькі лішні раз прыгадаюць і «ваенны камунізм», і «калектывізацыю», і «яжоўшчыну», і «наццэмаўшчыну», і ўсё іншае, што, як вогненны сьмерч, пранесьліся над жывым целам народу, дашчэнту спустошыўшы ягоную ўсё яшчэ несьмяротную душу. І тыя нешматлікія жывыя, «рэгабілітаваныя» і выпушчаныя на «волю», што сапраўды як-бы ўваскросьлі зь мёртвых і блукаюць, як цені, па гарадох і вёсках — некалі засуджаныя рабочыя, калгасьнікі, інтэлігенты (колькі іх ёсьць!) — толькі сьветчаць аб усім зьдзеку, што хаваецца пад зманлівай шыльдай «рэгабілітацыі».

Ды, зрэшты, каго рэгабілітуюць? Трэба зразумець, што рэгабілітуюць і адкопваюць пераважна саміх «ліквідатараў», злачынствы каторых нельга загаіць, забыць ці апраўдаць. Жывыя-ж тымчасам ня маюць такога прывілею — рэгабілітацыі і ўваскрашэньня. Яны толькі ўсё яшчэ марацъ, чакаюць збаўленьня і сумуюць па, няхай сабе і не такім заможным, як ім абяцаюць камуністычныя правадыры, але

ўсё-такі па магчымым, спакойным і чалавечым жыцьці. Ды толькі цяжка паверыць ім у добра знаную камуністычную дыялектыку.

17.10.56 **М. Сяднёў**

## ВЕРА Й НАДЗЕЯ НА БОГА
### (Рэлігійная гутарка)

Любыя мае Браты й Сёстры!

Сьвятое Эвангельле на сяньняшнюю надзелю апавядае нам: «І вось адна жанчына-Хананеянка прыйшла й пачала прасіць Ісуса: Зьмілуйся нада мной, Госпадзе, Сыне Давідаў, дачку маю цяжка мучыць нячысты!

Аднак, Ісус нічога не адказаў на гэта, маўчаў. І дзівіліся ўсе, бо Ён-жа Сам сказаў: «Прасеце й будзе дадзена вам, шукайце й знайдзеце, стукайце і адчыняць вам». Тымчасам тут Ён, як быццам, ня чуе просьбаў, не зьвяртае на іх увагі. Ужо й сьв. Апосталы пачалі прасіць Яго, каб Ён нешта зрабіў для няшчаснае жанчыны, якая й далей голасна прасіла: «Госпадзе, памажы мне!»

Урэшце Ён прагаварыў: «Ня добра ўзяць хлеб ад дзяцей і кінуць яго сабакам». Чаму Хрыстос сказаў тут гэтае слова: «сабакам»? Таму, што ў той час Юдэі й Рымляне, як культурныя народы, уважалі ўсіх іншых за «барбараў», «сабак», а для Ісуса Хрыста ўсе людзі й народы былі роўнымі, аднолькава добрымі й мілымі. І таму Ён тут хацеў паказаць усім, што такі пагляд хвальшывы й шкодны, бо кажны, па веры сваёй, заслугоўвае на ласку й дапамогу Госпада Бога.

І сапраўды, калі няшчасная маці зь цьвёрдаю Вераю й Надзеяй на Ласку Божую з плачам адказала: «Так, Госпадзе, але й сабакі ядуць крошкі, што падаюць із стала гаспадароў іхных, — дык Ісус Хрыстос, глыбока ўсхваляваны, сказаў ёй: «О, жанчына, вялікая вера твая! Няхай-жа станнецца табе паводля жаданьня твайго, як жадаеш! І паздаравела дачка ейная ў тую-ж часіну.

Дарагія мае! Вялікая тут навука для нас. Што спрыяла таму, што просьба гэтае няшчаснае жанчыны была споўненая? Перадусім ейная цьвёрдая, нязломная вера ў Дабрату й Усемагутнасьць Божую. Падругое, непахісная надзея на ласку й дапамогу Госпада. Патрэйцяе — непераможная сіла любові маці.

Маці ахвяроўвае ўсё, забываецца на сябе, на сваю гардыню, каб толькі памагчы свайму беднаму дзіцяці. Акрамя таго ў гэтай сваёй любові яна выяўляе і вялікую сілу розуму. Яна кажа Хрысту: «Я не хачу, каб Ты адбіраў у дзяцей Тваіх, накармі спачатку іх, а мне дай толькі тое, што застанецца ад іх, толькі крошку ласкі Твае падаруй мне, бо-ж у Бога для ўсіх хопіць. Бо і мы людзі, дзеці Твае, таму можам спадзявацца на апеку й дапамогу свайго гаспадара — Госпада Бога!»

Любыя мае! Калі мы зьвяртаемся да Яго й просім дапамогі, а дапамога гэтая ня прыходзіць хутка, як-бы мы хацелі, гэта зусім ня значыць, што Ён усё бачыць і ведае, як і ў тым выпадку з Хананеянкай. Толькі мы павінны ведаць Госпада нашага. Павінны ведаць, што Хрыстос, Сын Божы, прымае малітву-просьбу кажнага, і задавальняе яе, калі малітва нашая поўная цьвёрдай, нязломнай веры, непахіснай надзеі і палымянай любові да Яго. Тады Ён шчодра ўзнагароджвае ласкаю Сваёю кажнага, хто просіць Яго.

Дарагія мае! Асабліва мы, Беларусы, што маем цяжка хворую не дачку, а Маці-Радзіму, павінны добра памятаць пра сяньняшняе эвангельскае слова, у якім дзеіў Сам Хрыстос, Бог наш, каторы быў, ёсьць і вечна будзе Той Самы. Няхай-жа й нашая вера, нашая ўпэўненасьць у сілу і Усемагутнасьць Божую ды нашая надзея на Ягоную Ласку, Ягонае Міласэрдзе й Дапамогу будуць такімі-ж вялікімі, як і ў тае Хананеянкі! І мы, з прыкладу яе, будзем таксама ўсьцяж прасіць Ласкі Божае бяз кроплі сумлеву. І няхай нашыя просьбы-малітвы будуць такімі самымі гарачымі і бязупыннымі за нашую цяжка хворую Маці Беларусь! А Ён напэўна выслухае просьбы-малітвы нашыя і таксама глыбока ўзрушаны скажа нам: НЯХАЙ БУДЗЕ ВАМ ПАВОДЛЯ ЖАДАНЬНЯЎ ВАШЫХ. Амінь.

20.10.56

**а. Андрэй**

## ДЗЬВЕ КАСТРЫЧНІЦКІЯ РЭВАЛЮЦЫІ

«Хлеба й свабоды!» — усе лёзунгі, пад якімі бальшавікі здабылі ўладу ў Расеі, зводзіліся да гэтага аднаго: «Хлеба й свабоды!»

Ад таго часу прайшло 39 год. 39 год, падчас якіх бальшавікі пашырылі сваю ўладу спачатку на ўсе народы былое

царскае імпэрыі, бязьлітасна душачы нацыянальныя рэвалюцыі, а пасьля — на цэлы шэраг народаў цэнтральнае Эўропы. Лёзунг быў нязьменны: яны ўсьцяж казалі, што яны нясуць — і толькі яны адны здольныя даць — хлеб і свабоду.

Ужо 39 год работнікаў, сялян і інтэлігенцыю зганяюць у калёны, загадваючы ім дэманстраваць іхную ўдзячнасьць рэжыму. З трыбунаў ім крычаць аб нябывалых дасягненьнях сацыялістычнага ладу, аб шчасьлівым і радасным жыцьці, аб адданасьці народаў, скаваных у камуністычнай імпэрыі.

Але для работнікаў, сялян і інтэлігенцыі, якіх у ўгодкі кастрычніцкае «рэвалюцыі» гоняць перад трыбунамі, гэтыя 39 год зьяўляюцца сынонімам гвалту, тэрору й бяспраўя, сынонімам подступу й ашуканства. Яны бачаць, што іхныя народы церпяць нячуваны дасюль нацыянальны, сацыяльны й эканамічны прыгнёт. Яны бачаць, што плады іхнае працы йдуць на разбудову ваеннае машыны, якая служыць прыладай для ўтрыманьня ў прыгнёце іх ды для пашырэньня гэтага прыгнёту на цэлы сьвет. Яны бачаць перадусім адно: яны ня маюць ні хлеба, ні свабоды.

Аднак незамаскаваны прыгнёт ня можа быць вечным. Бальшавікі ведаюць гэта вельмі добра, і таму хапаюцца за штораз новыя мэтады, каб замаскаваць факты й утрымаць сваё панаваньне. Вось чаму вучні й памагатыя Сталіна адмовіліся ад свайго настаўніка, сьпіхаючы на яго аднаго супольныя злачынствы; вось чаму яны рэгабілітуюць нябожчыкаў, якіх яны самі загналі ў магілу; вось чаму яны абяцаюць палёгкі й дэмакратызацыю жывым — абяцаюць ім зноў хлеб і свабоду.

Гэтыя мэтады ўжо больш ня дзеюць. Прыгнечаныя народы зразумелі: і хлеб і свободу яны атрымаюць тады, калі ня будзе бальшавікоў. Камуністычная імпэрыя пачала трашчэць. Самі работнікі сталі ў авангардзе змаганьня супраць прыгнёту. У 1953-ім годзе падняліся працоўныя Ўсходняй Нямеччыны. Іх здушылі савецкія танкі на загад калектыўнага кіраўніцтва. Улетку гэтага году падняліся працоўныя Пазнаня.

І вось пад 39-ыя ўгодкі кастрычніцкае «рэвалюцыі» ў Расеі наступіла другая — сапраўдная кастрычніцкая рэвалюцыя: увесь народ ВУГОРШЧЫНЫ паўстаў супраць прыгнёту, змагаючыся за сваю нацыянальную незалежнасьць,

за права выбіраць самым свой палітычны й сацыяльны лад. У гэтым змаганьні задзіночыліся ўсе работнікі, інтэлігенцыя, жаўнеры. Вугорскі народ стаўся носьбітам імкненьняў да свабоды ўсіх народаў, скаваных камуністычнай дыктатурай.

У той час, калі ў Беларусі і па ўсім Савецкім Саюзе перад трыбунамі праходзяць калёны сагнаных дэманстрантаў, адзначаючы 39-ыя ўгодкі кастрычніцкай рэвалюцыі, па ўсёй Вугоршчыне грымяць стрэлы — гэта стрэлы савецкіх гарматаў і танкаў, пасланых здушваць другую кастрычніцкую рэвалюцыю вугорскага народу. Падсавецкіх работнікаў і сялян прымушаюць страляць у сваіх вугорскіх братоў, якія змагаюцца за тое, чаго не дала першая кастрычніцкая рэвалюцыя народам Савецкага Саюзу — за хлеб і свабоду.

Гэтыя стрэлы адбіваюцца рэхам у сэрцах усіх прыгнечаных народаў. Яны маюць нязломную надзею: у канчатковым выніку ідэялы другое — сапраўднае кастрычніцкае рэвалюцыі — прынясуць ім усім хлеб і свабоду.

6.11.56 **Ул. Цьвірка**

## СІЛА ПРАЎДЫ

Калетыўныя камуністычныя дыктатуры адсьвяткавалі 39-ую гадавіну бальшавіцкага перавароту. Гэтая гадавіна, як і 38 папярэдніх, прайшла пад буры крыклівых лёзунгаў і плякатаў, заклікаў, гістарычных прамоў і, бязумоўна, падрыхтаваных камуністычнымі прапагандыстымі прысягаў і падзякаў «мудраму ленінскаму ЦК КПСС» . . .

Аднак, з другога боку, 39-ая гадавіна кастрычніцкага перавароту й вельмі-ж адрозьнілася ад сваіх кастрычніцкіх папярэдніц: яна сьвяткавалася на фоне страшэнных руінаў, пажараў, сьлёз і тысячаў загубленых жыцьцяў у ВУГОРШЧЫНЕ — на фоне сапраўднае нацыянальна-вызвольнае кастрычніцкае рэвалюцыі вугорскага народу і ейнага барбарскага здушэньня савецкай авіяцыяй, танкамі і гарматамі.

Аблітая сьлязьмі й утопленая ў крыві свабода вугорскага народу ня перашкодзіла, аднак, камуністычным валадаром шматнацыянальнага Савецкага Саюзу бессаромна гаварыць аб вялікай дружбе СССР з гэтак званымі сацыялістычнымі краінамі, гаварыць і запаўняць сваю прэсу артыкуламі і дэкларацыямі аб умацаваньні й кансалідацыі сілаў «сацыя-

лістычнага лягеру» ды заяўляць, што «савецкі народ з гордасьцяй азіраецца на шлях, пройдзены ім пад сьцягам ленінізму, і ўпэўнена глядзіць на сваю будучыню» . . .

Зь якім нячуваным цынізмам гучыць пасьля савецкай інтэрвэнцыі ў ВУГОРШЧЫНЕ дэклярацыя савецкага ўраду з 30-га кастрычніка гэтага году, у якой камуністычныя валадары заявілі, што «краіны вялікага супрацоўніцтва нацыяў могуць і мусяць будаваць свае ўзаемадачыненьні толькі на прынцыпах поўнага раўнапраўя, пашаны тэрытарыяльнай суцэльнасьці, дзяржаўнай незалежнасьці й сувэрэннасьці, няўмешваньня аднаго ў нутраныя справы другога».

Толькі камуністыя, людзі ленінска-сталінскага тыпу, гледзячы на ўсё, як кажуць яны, «вачыма Леніна ды зь ленінскіх пазыцыяў», здольныя дайсьці да няўяўнай вяршыні цынізму і скаціцца да нізіны вераломства.

Гляньма-ж мы, вачыма Беларусаў ды з нацыянальных беларускіх пазыцыяў на палітыку й практыку блізу саракагадовага бальшавіцка-камуністычнага дзеяньня й гаспадараньня пад сьцягам марксіцка-ленінскай тэорыі прыгнёту і рабунку жыцьця й духу.

39 год таму бальшавіцкія змоўнікі, або «кропля ў моры», як назваў сваю партыю сам Ленін, выкарыстаўшы стомленасьць пасьля вайны, ашукалі пільнасьць нацыянальна-рэвалюцыйных імкненьняў народаў расейскае імпэрыі. Аслабіўшы сілу іхнага супраціву правакацыйнымі лёзунгамі накшталт «самавызначэньне аж да аддзяленьня», гэтыя бальшавіцкія контрэвалюцыянэры пасьля лютаўскай рэвалюцыі пачалі падбіваць адну за другой маладыя рэспублікі.

Усё, што сталася пазьней, ведама ня толькі народам Савецкага Саюзу, але й усяму вольнаму дэмакратычнаму сьвету: поўнае зьнішчэньне нацыянальных урадаў і пад ціскам брутальнай сілы прымусовае стварэньне сапраўднае турмы народаў — СССР, і будова на крыві й касьцёх антынароднага ленінска-сталінскага сацыялізму.

Падбітыя й заваяваныя савецкім камунізмам народы Ўсходняе ЭЎРОПЫ, недастаткова навучаныя горкай доляй шматнацыянальнага насельніцтва Савецкага Саюзу, ня зь першых дзён пайшлі на супраціў савецкаму камунізму. Аднак, навучаныя пазьней собскім дасьветчаньнем, яны пачалі супраціў. Прыкладам гэтага зьявіліся паўстаньні ў усходнім БЭРЛІНЕ, у ПАЗНАНІ, падзеі ў ПОЛЬШЧЫ й — нарэшце

— паўстаньне і нацыянальна-вызвольная кастрычніцкая рэвалюцыя ў свабодалюбнай ВУГОРШЧЫНЕ.

Вугорскія масы напэўна здабылі-б свабоду, каб ня было інтэрвэнцыі з боку савецкай арміі.

Разбураныя савецкімі танкамі й гарматамі гарады ВУГОРШЧЫНЫ, тысячы трупаў закатаваных, расстрэленых — гэта найвялікшы помнік гневу й нянавісьці да камуністычнае тыраніі, гэта — найвялікшы помнік змаганьню за найвышэйшы ідэял чалавецтва, імя якому — свабода!

Вугорцы пераможаныя фізычна, але ня духова. Рэха вугорскай рэвалюцыі пракацілася па ўсім сьвеце і заклікае народы сьвету да рашучага змаганьня з сусьветнай небясьпекай — камунізмам!

Камуністычная маска савецкай міралюбнасьці, гуманізму й свабоды — сарваная. Перад нашымі вачыма выступіў аголены твар нізка-вераломнага й глыбока-рэакцыйнага савецка-бальшавіцкага камунізму.

Праўда, як і імкненьне да свабоды, — найвялікшая рухаючая сіла народаў! Праўда — неперможная і няўміручая! Яна выходзіць сяньня з-пад жалобных сьцягоў разьбітай ВУГОРШЧЫНЫ і з асаблівай сілай напаўняе вялікім гневам сэрцы і вольных і паняволеных камунізмам народаў і абяцае сьвету свабоду.

10.11.56 **Ул. Дудзіцкі**

## ЗЬМЕСТ

# ПРА АЎТАРАЎ ЗБОРНІКА

*пс* — **Пётра Сыч** (1912–1963) — пісьменьнік, журналіст. Вязень ГУЛАГу. Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі. Аўтар першага тэксту, які прагучаў у першай праграме Беларускай службы — «Азымут сэрца».

*Я. Менскі* — **Язэп Гуткоўскі** (сапраўднае імя — Ізыдар Плашчынскі) (1908–1986) — грамадзкі дзяяч, публіцыст, малодшы брат Язэпа Пушчы. Пазаштатны аўтар.

*Я. Ліманоўскі* — **Янка Ліманоўскі** (1896–1989) — пісьменьнік, літаратурны крытык. Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі.

*Ст. Станкевіч* — **Станіслаў Станкевіч** (1907–1980) — літаратуразнаўца, публіцыст, палітычны дзяяч. Пазаштатны аўтар.

*С. Сімановіч* — магчыма **Сымон Кандыбовіч** (1891–1972) — дзяржаўны дзяяч, гісторык. Супрацоўнік Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне. Пазаштатны аўтар.

*Б. Вербіч* — **Барбара Вержбаловіч** (1901–1967) — опэрная і канцэртная сьпявачка. Працавала сакраткай і дыктаркай у Беларускай рэдакцыі.

*Р. Ш.* — псэўданім не раскрыты.

*Язэп Паўстаніч* — псэўданім не раскрыты.

*В. Васілевіч* — псэўданім не раскрыты.

*М. Караткевіч* — **Уладзімер Сядура** (1910–1997) — пісьменьнік, літаратуразнаўца, культуроляг. СупрацоўнікБеларускай рэдакцыі.

*Я. Запруднік* — **Янка Запруднік** (сапраўднае імя — Сяргей Вільчыцкі) (нар. 1926) — грамадзка-палітычны дзяяч, гісторык, палітоляг. Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі (ад 1957 — пазаштатны аўтар).

*Б. Зязюля* — магчыма **Барбара Вержбаловіч** (гл. Б. Вербіч).

*Я. Даўгінскі* — псэўданім не раскрыты.

*А. Галубіцкі* — **Аляксандар Марговіч** (1927–1967) — журналіст, грамадзкі дзяяч. Супрацоўнік Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне. Пазаштатны аўтар.

*Архіп Папліска* — **Уладзімер Цьвірка** (сапраўднае імя — Вадзім Сурко) (1928–1992) — грамадзкі дзяяч, журналіст. Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі, у 1962–1968 дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода.

*Ул. Цьвірка* — **Уладзімер Цьвірка** (гл. Архіп Папліска).

*Ул. Дудзіцкі* — **Уладзімер Дудзіцкі** (сапраўднае імя — Уладзімер Гуцька) (1911–1976) — пісьменьнік, журналіст. Вязень ГУЛАГу. Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі, у 1956–1962 дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода.

*К. Рамановіч* — **Рыгор Крушына** (сапраўднае імя — Рыгор Казак) (1907–1979) — паэт, празаік, крытык. Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі.

*Г. Няміга* — **Гіпаліт Паланевіч** (1907–1997) — гісторык, пэдагог. Вязень ГУЛАГу. Супрацоўнік Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне. Пазаштатны аўтар.

*М. Сяднёў* — **Масей Сяднёў** (1913–2001) — паэт, празаік. Вязень ГУЛАГу. Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі, у 1968–1983 дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода.

*а. Андрэй* — магчыма а. **Аляксандар Крыт** (1901–1983) — рэлігійны і грамадзкі дзяяч, сьвятар. Пазаштатны аўтар.

Тэкст прадмовы падпісаны «Беларуская Сэкцыя Радыя Вызваленьне». Першым дырэктарам Беларускай службы (1954–1956) быў **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903–1989) — грамадзка-палітычны дзяяч, настаўнік, журналіст. У 1971–1982 старшыня Рады БНР.

## SUMMARY

In 1956, Belarus Service staffers of “Radio Liberation” (“Radio Liberty” since 1959) used their own funds to publish a collection of reports aired on their station. A wide array of materials was presented in the 67 texts bylined by 21 journalists: commentaries on current events, articles focusing on various anniversaries, memoirs of life under Bolshevik rule, literary-artistic *montages*, *feuilletons*, notes on the lives of emigres. The new edition of this volume is dedicated to the 70th anniversary of Radio Free Europe/Radio Liberty’s premiere broadcast.

This is the Liberty Library’s 78th title.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
**Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)
вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.

